УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
С53

Кніга выдадзена на заказ ПУП «Кнігазбор»

**Снарская, І.**
С53 Зачараваны скарб : аповесці / Іна Снарская. — Мінск : Выдавец Цымбераў Р. М., 2022. — 232 с. : [8] с. іл.
ISBN 978-985-7303-13-7.

У новай кнізе Іны Снарскай жывуць яе родныя, суседзі, сябры з вёсак яе маленства на Полаччыне. Кожны аповед напісаны сэрцам, з вялікай любоўю да сваіх герояў. Завяршае кнігу аповесць, прысвечаная памяці маці, яе няпростаму лёсу і каханню.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(Беи)**

**ISBN 978-985-7303-13-7**

# У НОЧЫ КАРОТКАЯ ПАМЯЦЬ
*Замест уступу*

Сёння мне прыснілася бабуля Матрона. Яна засцілала стол белым ільняным настольнікам, а я была шчаслівая, як у дзяцінстве. Час не спяшаўся, мы пра нешта размаўлялі, а мне думалася: як гэта цудоўна, што я такая дарослая, а бабуля яшчэ жывая… Нібыта сяджу ў нашай хаце за гасцявым сталом, абапершыся галавой на кулачкі, а час запаволіўся і загусцеў, — гутару з бабуляй… Сёння нам было б шмат пра што пагаварыць, ужо і сама бабуля, але так сябе ўспрымаць яшчэ не навучылася: здаецца, па-ранейшаму іду дарогамі дзяцінства, — што там за паваротам, якія дзівы-дзівосныя?..

Часам я задаю сабе пытанне: чаму ў бабулінай хаце мне было так добра, так светла і радасна? Нібы рай апусціўся на зямлю з усімі тымі белымі настольнікамі, вышыванымі ручнікамі, спарышом у двары, каровай Малышкай, якая волка і цёпла дыхае на далонь лугавымі кветкамі… Ляціць гэта ўсё цяпер па сёмым небе, і толькі ў снах праступаюць няўлоўныя абрысы таго дзіцячага раю, чуюцца родныя галасы, інтанацыі, словы, якія да раніцы забываюцца, бо начная памяць кароткая, як узмах крылаў ластаўкі. Прачнешся — і застаецца толькі празрысты лёгкі ўспамін-адчуванне, і хоць плач, хоць крычы, ужо не ўтрымаеш, пройдзе рай, як вада скрозь пальцы… Памяць новага дня, вярні мне тыя словы, што гаварыла баба Мура ў сне! На жаль, не паўторыць, пачнецца новы мой дзень, дзе самой сабе давядзецца быць пытаннем і адказам, дачкой, маці й бабуляй…

Кожны падарунак нясе ў сабе ахвяру. За падарункі дзяцінства мы плоцім немагчымасцю паўтарэння. Нельга вярнуцца ў тую першародную чысціню, ранішнюю свядомасць,

тое шчырае захапленне светам, любоў да ўсяго жывога, у тое «ах», «няўжо», «гэта ж трэба»… У маленстве мы марым хутчэй вырасці, а калі вырастаем, нібы глухнем, слепнем, губляем вастрыню пачуццяў… «Чаму чарсцвее душа, бабуля? Няўжо гэткая цана за падарункі дзяцінства? А можа, гэта тая ахвяра, якая патрэбна, каб жыць далей?» — задаю пытанні, а бабуля маўчыць. Не, яна нешта гаворыць, толькі я не чую… Не чую, не магу ўспомніць… У ночы кароткая памяць.

«Зачараваны скарб» — аповесць, якая складаецца з караценькіх аповедаў. Галоўная гераіня — маленькая дзяўчынка, якой некалі была я сама, а цяпер, хоць і вырасла, у душы ёю засталася, і гэтая дарослая «я» таксама апавядае, часам знаходзіцца нібы за кадрам. Месца дзеі — вёсачка Сястронкі, дзе жылі мае бабуля з дзядулем па маці, а я дарастала да школы, Варонічы Полацкага раёна, дзе жыла мая бабуля па бацьку. Узгадваю і Запалоцце ў Полацку, час майго дашкольнага маленства… Гэта не традыцыйныя ўспаміны, ці, як цяпер модна гаварыць, зацемкі, не эсэ, не апавяданні ў звычайным разуменні, а сінтэз усяго гэтага. Тут праглядаюцца і элементы мастацкай публіцыстыкі з майго тэлевізійнага мінулага, калі пісала сцэнарыі да перадачаў, дакументальных фільмаў, брала інтэрв’ю як журналіст…

У «Зачараваным скарбе» жывуць мае родныя, суседзі, сябры, сустракаюцца і мастацкія персанажы, падзеі, якія ажывіла ўласнай фантазіяй. Ды як бы там ні было, кожны аповед напісаны сэрцам, з вялікай любоўю да маіх герояў. Вельмі хочацца, каб яны жылі не толькі ў маёй памяці ці ва ўяве, але і на старонках гэтай даматканай аповесці, дзе я размаўляю з роднымі, каго ўжо даўно няма, а вы зможаце пазнаёміцца з добрымі, шчырымі людзьмі, іхнім няпростым шчасцем. Магчыма, нейкай душы на небе стане ад гэтага трохі лягчэй.

# БАБУЛІНА ХУСТКА З ПАДПАЛІНАМІ

## Сястронкі

1.

На маленькім, нібы цацачным, аўтобусе еду ў Сястронкі, і маё сэрца пачынае плакаць. Балюча адчуваю сваю прысутнасць на роднай зямлі. Цераз сум прыходзіць вастрыня ўспрымання рэчаіснасці. Усе гэтыя бабулі ў каляровых хустачках пад горла, выхадных спадніцах, торбачках каля ног здаюцца такімі знаёмымі, нават роднымі. Нібы я бачыла іх і трыццаць, і сорак, і пяцьдзясят гадоў таму. Сталею, старэю, а бабулі застаюцца тымі самымі, якімі былі ў маім дзяцінстве. Хочацца нырнуць з галавой у іхнія выходныя спадніцы, як у ваду недасяжна-казкавага Віру, а вынырнуць на тым баку, калі ўсё яшчэ толькі пачыналася…

* * *

— Бабуля, а чаму дрэва расце галінамі ўверх і карэннем у зямлю, а чалавек толькі ўгару?

— Маленькая-дурненькая ты яшчэ. Чалавек таксама расце не толькі ўверх, але й углыб, толькі гэтая глыбіня знаходзіцца ў нашай душы. І хаця душу нельга пабачыць, яна ёсць, не сумнявайся…

І гэтак мне захацелася пабачыць гэтую душу, так захацелася, што я думала пра гэта, пакуль бабуліны сырнікі са смятанай намінала, і пакуль куранятак карміла, і пакуль з хлопцамі гуляла… Аж да самай ночы думала: якая ў мяне душа і калі яна вырасце? А ноччу зноў прысніўся сон, нібы я лётаю. Каляровы сон, прыгожы…

Вось я лячу, а зямля пада мной такая зялёная-зялёная, нібы малады мурог, аж свеціцца, і рэчка наша, Вір, блішчыць, на сонцы пераліваецца. І я нібы чую бабуліну песню пра нейкага хлопца, які пакахаў дзяўчыну. Ён бедны, а яна багатая, і бацькі яе за гэтага хлопца замуж не пускаюць, а яна плача, плача… Нібы бачу, як усё адбываецца, ды не магу тым дзяўчыне з хлопцам дапамагчы, бо я толькі душа, такі сонечны пульсуючы шар, у мяне нават рук няма. І я думу думаю ў сне: «Вось вырасту, тады і дапамагу…» Так і прачнулася…

* * *

Урастаць у родную зямлю лёгка, адрывацца цяжка. Бягуць сцяблінкі дарог, як жылкі на руцэ, і кожную трэба ўтрымаць, прытуліць да сэрца. Краявіды за акном амаль не змяніліся — ляцяць дрэвы, ляціць маленькі аўтобусік, і я лячу ў свае родныя Сястронкі… Зялёнка, Чарняя, толькі ад адной назвы саладзее ў роце, нібы чарніцы пакаштавала… Вось апошні паварот… і пачынаюцца Сястронкі, з каляровымі вясёлымі хаткамі, смехам маіх сяброў, вядома, яны даўно павырасталі, але рэха засталося, як застаўся ў памяці голас маёй бабулі Матроны. Не маўчы, бабуля, расказвай…

* * *

— Бабуля, а чаму нашу вёску Сястронкамі назвалі? Мабыць, нейкія сёстры тут жылі… — лашчуся да бабулі лісічкай-сястрычкай. Так хочацца цікавую гісторыю пачуць. Бабуля гладзіць мяне па галаве і апавядае…

— Жыў у гэтых мясцінах некалі пан з сям'ёй. Вунь там, на пагорку, непадалёк магазіна, дзе бярозы па колу растуць і арэлі гайдаюцца, раней стаяў маёнтак. І было ў таго пана дзве дачкі. Сёстры вельмі добрыя, жаласлівыя былі — бедным дапамагалі, дзяцей сялянскіх грамаце вучылі. І вось адна з сясцёр закахалася ў простага хлопца, конюха, які працаваў на панскай стайні. Ці не кожную ноч закаханыя сядлалі коней і скакалі ў лес…

— А ў які лес, бабуля, той, што ў бок Лукаўцаў, ці той, што бліжэй да Маставухі?

— Не перабівай, цакатуха, уважліва слухай… Там закаханыя раскладалі вогнішча, цалаваліся, мілаваліся. Кожнаму чалавеку пяшчота патрэбна і каб яго любілі… Калі панская дачка зацяжарала, ёй прыйшлося расказаць пра сваё каханне бацьку, каб ён блаславіў на шлюб. Толькі лепш бы яна гэтага не рабіла. Пан страшэнна раззлаваўся, закатаваў конюха, а сваю дачку аддаў у манастыр. Там у яе нарадзілася дзяўчынка, потым яе забрала старэйшая сястра. Выхоўвала, як сваю родную дачушку, бо манашкам жа нельга жыць разам з дзецьмі. Сястра-чарніца вельмі гаравала па дачцэ і па сваім каханым… любіла іх… можа, нават мацней за Бога… А бацьку свайго зненавідзела, не магла дараваць, што зрабіў яе такой няшчаснай. Гаравала яна, гаравала, а раз пайшла на рэчку, нібы бялізну паласкаць, і назад не вярнулася. Во як бывае! Так жыццё абрыдла, што ўтапілася… Калі сястра манашкі пра няшчасце даведалася, нібы з глузду з'ехала — нікога доўгі час не пазнавала і нават з бацькам не размаўляла… Вось такая гісторыя. А вёску нашу з таго часу пачалі называць Сястронкі. Во як! На чэсць сясцёр, значыць…

Вочы ў мяне вялікія, дапытлівыя. Усю гэту гісторыю як у кіне бачу, а можа і ў сне, бо павекі ўжо зліпаюцца…

— А што з той дзяўчынкай, баб Мура?

Бабуля нешта адказвае, ды адно рэха да мяне далятае… Ці было гэта напраўду, ці не, хто яго ведае…

* * *

У нашай хаце ўжо даўно жывуць чужыя людзі, прыехалі з Новалукомля, тут у іх лецішча. Печ разабралі, вокны пластыкавыя ўставілі, усё перабудавалі па-свойму. Не пазнаць. Парсючкоў развялі, чорненькіх такіх, невялічкіх. Яны жывуць у вальеры, на тым самым месцы, дзе ў нас некалі быў агарод, рос агрэст і пчаліныя хаткі стаялі… Вялізную стагадовую яліну непадалёк калодзезя спілавалі, мабыць, замінала паставіць новы паркан. Можа, гэтае дрэва бачыла яшчэ тую панскую дзяўчынку, якую нарадзіла сястра-чарніца? Дзе вандруе яе душа? Ужо ніколі пра гэта не даведаюся…

2.

Калі бываю ў Сястронках, абавязкова адведваю могілкі, яны непадалёк, у Каралях, на мяжы Полацкага раёна ды Расонскага…Там пахаваныя мае родныя — матуля, дзядуля з бабуляй, два маміны браты — Іван і Міхась, цётка Марыя… Усе, акрамя бабулі з дзядулем, не паспелі састарэць. Сумую па сваіх родных, ды не адчуваю іхняй прысутнасці пад магільнымі плітамі. Памяць уваскрашае ўсіх радасна, прыгожа, аб'ёмна. Ляціць памяць цераз кардоны забыцця, нібы адмысловая машына часу…

* * *

На могілкі да дзядоў збіраюцца ўсе нашы родзічы, нават з Полацка прыязджаюць — са сваімі абрусамі, каляровымі вяночкамі, якія пахнуць свечкамі, з каструлькамі і слоікамі са смачнай ежай. Бабуля з матуляй вараць бульбу, смажаць катлеты, робяць розныя салаты, збіраюць у кошык яйкі, яшчэ з вечара пафарбаваныя лушпіннем цыбулі. Мне ўвесь гэты пах проста немагчыма вытрымліваць. Ага, цярпі, Інка, нічога нельга каштаваць аж да могілак. Спачатку трэба праведаць памерлых, уважыць іх, пачаставаць, бо калі не прывеціць дзядоў, яны ж пакрыўдзяцца, будуць у снах прыходзіць і скардзіцца. Тым часам дзядуля запрагае каня, усцілае калёсы духмяным сенам, каб радні было зручна сядзець. Я ўмошчваюся першай, што мне яшчэ рабіць, звешваю ногі, матляю лыткамі, гайдаюся з боку ў бок, уяўляю, нібы ўжо еду. Ну, калі нарэшце ўсе збяруцца?.. І вось родныя ўселіся ў калёсы радочкамі з двух бакоў. Едзем… Весела так едзем, нібыта не на могілкі, а да некага ў госці. А й сапраўды ў госці, бо дзяды бачаць і адчуваюць, калі пра іх нехта ўспамінае. Дзядуля наперадзе за кіроўцу, сцябае дубцом каня, каб хутчэй бег. Калёсы коцяцца па сястронскім бальшаку жвава, толькі на каменьчыках падскокваюць. Трохі мулка сядзець, ды ўсё роўна прыемна, бо мы ж усе разам. Сваякі смяюцца, размаўляюць, жартуюць, — даўно не бачыліся. Я прытулілася да мамы, яна абдымае мяне за плечы… Кося, косечка, ты не спяшайся… я ж каля мамачкі… Мне здаецца,

што калёсы коцяцца ў нейкае іншае казачнае жыццё, дзе ніхто не памірае, дзе няма болю ды пакутаў…

Ну вось і Каралі. Прыехалі. У паветры пахне хвояй, аж нос казыча. Могілкі на самым пагорку сярод сасновага лесу. Сосны гудуць, нібы душы шэпчуцца між сабой. Добры дзень, душы, зараз мы вас пачастуем!.. Чыста, спакойна і неяк узнёсла, шмат людзей навокал. Усе ў гэты дзень адведваюць сваіх памерлых. Крыжы, кветкі, рознакаляровыя жаночыя хусткі… Недзе ўжо людзі разаслалі абрусы і святкуюць сустрэчу з роднымі — жывымі, памерлымі… Недзе нават гучыць гармонік. Спяваюць пра жыццё, якое ніколі не скончыцца…

Мы падыходзім да ўсіх памерлых родзічаў па чарзе. Магілак столькі, што стамілася лічыць, збілася, пачала спачатку… Некаторыя крыжы такія старыя, што нават заржавелі…

— Баба Мура, а дзе пахаваная твая дачушка Ева, тая, што памерла немаўляткам?

Бабуля вядзе мяне да надгробку ўкрытым ландышамі, як коўдрай. Кладзе на магілку некалькі цукерак, жменьку пячэння. Рагом хусткі выцірае вочы… А я ўяўляю, як Ева сядзіць на галінцы сасны, звесіла ножкі, разгортвае цукеркі, запіхвае ў рот і ўсміхаецца: «Не плач, матуля, я — жывая, толькі я ж душа, таму ты мяне не чуеш і не бачыш…»

Нарэшце адведалі ўсіх родных, можна і самім падсілкавацца. На ўзмежку непадалёк могілак жанчыны сцелюць коўдры, абрусы, з торбачак дастаюць яйкі і ўсе прыгатаваныя загадзя прысмакі. Выпіць чарачку за ўспамін душы нікому не забараняецца. Нават мне дазваляюць памачыць у чарку палец. Фу, горка, нясмачна, але весела, і я адчуваю сябе далучанай да агульнага свята сустрэчы з памерлымі роднымі…

З родзічамі, якія жывуць далёка, мы даўно не сустракаліся, таму кожны расказвае пра сваё жыццё-быццё. Слухаць іх не праслухаць. Мне здаецца, што ўсе гэтыя бяседы чуюць і нашы дзяды…

* * *

А ноччу мне прыснілася, што наш двор каля сястронскай хаты вялікі-вялікі, як плошча, і там столькі народу сабралася, аж да гарызонту. Дух захоплівае! І мы ўсе разам — і жывыя, і памерлыя. Усе хрыстосуюцца, вітаюцца, гавораць: «Хрыстос уваскрэс!» І Ева ў чырвоных чаравічках бегае па двары. Зусім маленькая дзяўчынка, можа годзік ці два. Падхопліваю яе на рукі, пачынаю гушкаць, круціць, а яна смяецца-заліваецца… І раптам мяне працінае думка-адкрыццё: вось яно, наша карэнне, усе гэтыя дзяды, бабулі, памерлыя родныя, дзеці й дарослыя… Памяццю мы трымаемся за сваю Радзіму, як дрэвы за глебу, і расцем углыб…

## Баба Мура

Ранак у нядзелю пачынаецца з неверагоднага паху, ён прасочваецца нават цераз зачыненыя дзверы, запаўзае пад коўдру, казыча нос. Які можа быць сон, калі бабуля пячэ бліны! Босымі нагамі на падлогу — скок. Не страшна! Лячу ў гасцёўню, а там, на стале на белым ільняным настольніку жоўтымі выспачкамі ляжаць бліны і… дыхаюць. Мне здаецца, яны жывыя, нават есці страшна, гляджу, як зачараваная. Раз, два, тры — адамры! Хапаю колькі ўлезе ў далоньку, але ж гарачыя, пякуць. Фукаю на пальцы, запіхваю ў рот, а бабуля страшыць ад печкі чапялой, проста так, для смеху.

— Інка, ну не хапай жа гарачае, заварот кішак будзе. Пачакай хоць дзесяць хвілін. Зараз усе разам будзем снедаць. Ну, якая ж ты нецярплячка! Каб ты так спяшалася ўмывацца, як бліны хапаеш!

— Не-е, бабуля, так смачней! Ад гарачых бліноў у мяне ногі весялей бегаюць і думкі званчэй думаюцца. Вось прыкладзі вуха да маёй галавы, прыцішся, прыслухайся… чуеш, звіняць, як дзядулевы пчолы…

О, якія гэта бліны! Дзіва-дзіўнае, а не бліны. Толькі бабуля ўмее так гатаваць — з радзынкамі, з макам, са смакам… А можа, сакрэт схаваны ў печцы, якая дыхае жарам і пахне пшаніцай? Можа, наша печ чароўная? Гэтая белая хата для рознай ежы і кухоннага начыння гадавала тры пакаленні

нашай радні. Бабуля так зграбна і лёгка з ёй упраўляецца, нібы замовы ведае. Агонь свішча, спявае і прыцмоквае, нібы ён першым бабуліны бліны пакаштаваў…

Не магу ўспомніць бабу Муру без нейкай працы: то яна карову доіць, то гарод поле, то парсючкам ахрап'е сячэ, то есці варыць. Дробненькая, хударлявая, але вельмі хуткая, рухлівая бабулька нечым нагадвае мне птушачку: толькі, здаецца, тут была, а ўжо — пырх — і ў іншым месцы… Адносны адпачынак прыходзіў толькі зімой. Доўгімі вечарамі баба Мура круціла калаўрот, сучыла воўну, каб потым панавязваць усёй радні шкарпэткі, пальчаткі, хусткі, шалікі… Назіраю, як суконнае воблака танчэе, бабуліны спраўныя пальцы скручваюць нітку, бегаюць, як вавёркі, — уверх-уніз, на каленях ужо цэлы клубок, а ноч за вокнамі гусцее, цішэе, і мне хочацца гаварыць шэптам, каб не спалохаць чары… Часам бабуля і мне дазваляла пакруціць калаўрот, ды я заўсёды спяшалася, хвалявалася, вельмі ж усё хацелася зрабіць якасна, калаўрот мяне не слухаўся, стукаў не рытмічна і нібы ўздыхаў: «Не так, не так…» Любая справа, якая патрабавала ўвагі, мне хутка набрыдала, станавілася нецікавай. І тады бабуля расказвала мне розныя казкі, а ў нейкі момант нібы забывалася, прасіла прадоўжыць, такім чынам, давала росквіт маёй уласнай фантазіі. Ці спадзявалася яна, што аднойчы ў сваіх аповедах я паспрабую ажывіць і гэтыя казкі, і гэтыя вечары, і, вядома ж, яе?

Баба Мура разбіралася ў зёлках, збірала іх на поўны месяц, высушвала ў запечку, а потым лячыла ўсіх родных, каму што спатрэбіцца. Над зёлкамі бабуля «шаптала», чытала малітвы і замовы па чарзе, лічыла, што гэта дадае раслінам сілы, спрыяе хуткаму выздараўленню хворага. Бабуля не лічыла сябе знахаркай, чужых людзей не лячыла, толькі крэўных. «Такое могуць усе, — казала бабуля, — трэба толькі прасіць у Бога дапамогі». Абраз Казанскай Божай Маці вісеў на відным месцы ў кутку, і бабуля не пачынала дзень, пакуль не памоліцца…

Баба Мура пражыла не вельмі шчаслівае, але доўгае жыццё — 86 год. Незадоўга да адыходу яна зусім аслабла, страціла сувязь з рэальнасцю. Яна ўжо нікога не пазнавала,

жыла толькі ў сваім мінулым, маранні… Перад смерцю бабуля… спявала. Некалькі гадзін без перапынку. Мне расказаў пра гэта дзядзька Іван, які ў апошнія гады даглядаў маці. Раней я ніколі не чула, каб бабуля спявала. Аднойчы, калі я вучылася ў сёмым класе, далі нам заданне запісаць песні, якія ведаюць нашы бабулі. Бабуля прагаворвала тэксты, як пражу сучыла, толькі паспявай запісваць! Там успаміналіся Багародзіца, Ісус Хрыстос, ангелы і архангелы, свяшчэнная рэчка Дунай… І дзе той блакноцік? Дзе тыя песні?

А там, на мяжы вечнасці, бабуля даспявала да канца сваю апошнюю песню, глыбока ўздыхнула і… памерла. Царства нябеснае рабе Божай Матроне!

Мне часта сніцца бабуля і наша сястронская хата. Там усё так, як было ў маім дзяцінстве, часам трохі інакш, пераплецена з сённяшнім жыццём у Палтаве, абстаноўкай кватэры, дзе цяпер жыву. Кажуць, душы, якія развіталіся з целам, спрабуюць размаўляць з намі праз сны. Карл Густаў Юнг называў гэтую сферу «светам архетыпаў» чалавечых, полем, дзе мінулае, сённяшняе і будучае існуюць адначасова, дзе могуць сустракацца жывыя і памерлыя. Поле адзінага чалавецтва.

## Вайна

Дзядулевы пратэзы стаяць у самым кутку, між ложкам і сцяной. Адзін з іх выходны — ладны, але цяжкі, другі штодзённы — лягчэйшы, але грубы і страшны. Штодзённая штучная нага дзядулі скураная ў тым месцы, куды ўкладаецца кукса, а тая частка, што ніжэй калена — проста круглая бліскучая палка з нікелю, абгарнутая ўнізе гумай, як коркам, каб не было слізка ступаць. Калі я сплю на бабульчыным ложку, то бачу, як дзядуля раніцай надзявае свой пратэз, бо прачынаюся ад яго стогну. Падглядаю з-пад коўдры, канечне, каб дзядуля не заўважыў, яму гэта не спадабаецца. Дзед Іван хоча выглядаць у нашых з бабуляй вачах моцным, намагаецца не паказваць свой боль, я гэта разумею, таму ляжу на ложку ціха, як мышка, раблю выгляд, што сплю, але ж бачу, як дзядуля бярэ цёплы байкавы мяшочак, укладае ў яго сваю куксу, прышпільвае штучную

нагу, абмотвае скураныя рамяні ад пратэза вакол паясніцы. Мне так хочацца дапамагчы дзядулю, зменшыць яго боль, я нават кусаю коўдру, каб маўчаць і не заплакаць, бо плачам гору не дапаможаш… У дзядулі сівыя валасы, яны амаль зліваюцца са зрэбнай бялізнай. Ён надзявае штаны, кашулю, бярэ кіёк і, апошні раз уздыхнуўшы, другой рукой для надзейнасці ўхапіўшыся за рог шафы, цяжка сунецца са спальні. Так пачынаецца яго новы дзень…

Дзядуля не хоча ўспамінаць вайну, але яна жыве ў ім, нагадвае пра сябе пачварнымі пратэзамі ў кутку хаты, штодзённым цяжкім пад'ёмам і апрананнем. Дзеду Івану трэба сабраць у кулак усю сваю волю, каб выглядаць бадзёрым і моцным у вачах дарослых дзяцей, сваякоў, унукаў. Ён не скардзіцца на жыццё і часта паўтарае:

— Мне яшчэ пашанцавала, што я выжыў, што не забілі на вайне, а толькі паранілі, што жыву на гэтым свеце, а не на тым цяпер… Хто яго ведае, які той свет? Ніхто адтуль не вяртаўся…

Дзед Іван працуе кавалём. Кожны дзень ён шкандыбае на сваім пратэзе да кузні, можа, з паўгадзіны, хоць гэта зусім блізка, нейкіх 300 метраў усяго, але калі раздзімае жар паддувалам, а потым працуе вялізным молатам, адчувае сябе волатам, утаймавальнікам агню — ён жыве, ён працуе! Але кавальская справа — далёка не ўсё, што дзядуля ўмее рабіць. У яго душы жыве гадзіннікавы майстар. Сястронцы нясуць да яго свае сапсаваныя гадзіннікі, і дзядуля дае ўсім гэтым механізмам шанец на другое жыццё. Вечарам ён гадзінамі калупацца ў целе гадзіннікаў, нібы вывучае анатомію і, здаецца, ведае ўсё пра час, нават тое, чаму ў дарослых ён спяшаецца, а ў маленькіх паўзе, як чарапаха… Час ад часу я прыкладаю вуха да гадзінніка, і мне здаецца, што там б'ецца сэрца майго дзеда Івана…

— Дзядуля, а колькі гадзін у вечнасці? А чаму стрэлкі гадзінніка круцяцца злева направа, а не справа налева? А чаму гадзіннік не можа адлічваць час назад? Дзядуля, а чаму ніхто не прыдумаў такога гадзінніка, каб стрэлкі круціліся наадварот, каб людзі не старэлі, а маладзелі? — закідваю дзядулю пытаннямі, на якія ніхто не ведае адказу.

У нашай хаце ў кожнай шуфлядзе, на кожнай паліцы ляжаць гадзіннікі — большыя і меншыя, насценныя і наручныя, у кардонных каробках з-пад абутку, металёвых слоіках і кубачках — розныя калёсікі, стрэлачкі, махавічкі, шайбачкі і вінцікі. Гэта не вельмі падабаецца бабулі, яна не паспявае прыбіраць усю гэтую драбязу, але дзядуля нічога не дазваляе выкідаць — раптам нешта спатрэбіцца для чарговага рамонту. Я слухаю, як спакойна цікаюць адрамантаваныя дзедам гадзіннікі, і мне здаецца, што яго сэрца не спыніцца, аж пакуль у свеце будуць ісці гадзіннікі…

Найбольш мне падабаецца вялікі гадзіннік, які вісіць на сцяне ў нашай гасцёўні. Гэта гадзіннік з боем, і мне здаецца, што менавіта там жыве Бай з вершыка, які бабуля расказвае нанач, каб я хутчэй засынала:

— Ішоў Бай па сцяне, нёс сямёра лапцей, і сабе, і жане, і дзіцёнку па лапцёнку, а ці баіць, ці не?..

Дык вось, гэты Бай жыве ў дзядулевым гадзінніку! Калі я была зусім маленькая, то вельмі хацела пабачыць гэтага Бая… Прачынаюся сярод ночы, бегу да гадзінніка, адчыняю яго круглыя шкляныя дзверцы і зазіраю ў гадзіннік, як у хату.

— Бай, выходзь, не бойся, я табе не зраблю шкоды, толькі адным вочкам на цябе зірну… Калі ласачка!

Не, не выходзіць, але я ведаю, што ён там ёсць. Не ўсё можна пабачыць звычайным вокам… А можа, Бай не выходзіць таму, што яму цяжка ўставаць і доўга збірацца, бо ён таксама інвалід, як і мой дзядуля, можа, і ў яго толькі адна нага? Можа, і там была вайна? Можа, і там гінулі людзі, а Баю яшчэ пашанцавала, што вярнуўся з вайны жывым?..

Дзядуля не любіць гаварыць пра вайну, але кожны Дзень Перамогі да яго прыходзяць вучні з Зялёнкі або з Маставухі. Дзядуля расказвае ім пра вайну, а я сяджу побач і слухаю, нібы кіно ў сястронскім клубе бачу, але ў нейкі момант разумею, што ўсё гэта — праўда і нічога нельга змяніць, бо мой дзядуля пакутуе кожны дзень праз тую вайну, нібы гадзіннік у яго сэрцы рухаецца наадварот і ён кожны дзень вяртаецца ў тое сваё франтавое мінулае, дзе ён выжыў, але застаўся без нагі. Пасля кожнага дзядулевага аповеду я

абяцаю сабе, што больш ніколі не буду падглядваць, як ён апранаецца раніцай, але зноў і зноў падглядваю… І мне так балюча, нібы вайна жыве побач са мной, з намі, што яна не міне, як жахлівы сон. Вайна заглядае ў мае вочы з кутка між дзядулевым ложкам і сцяной, і я не ведаю, што з гэтым рабіць.

## Два Іваны

На сцяне паблізу акна вісіць мандаліна. У яе бліскучыя лакаваныя бакі ў карычневую палоску, і, калі свеціць сонца, мандаліна нібы ажывае, мне чуецца музыка, яна запаўняе пакой, і тады ўсё навокал становіцца яркім і святочным. Вельмі хачу зняць мандаліну са сцяны, дакрануцца да струн, але дзядуля не дазваляе, толькі ён можа ўзяць інструмент у рукі. За гэтым стаіць нейкая таямніца, бо дзядуля граць на мандаліне не ўмее. Не раз назірала, як ён перабірае струны пашэрхлымі пальцамі і думае пра нешта сваё. У такія моманты яго погляд скіраваны ўсярэдзіну, ён нібы зазірае ў студню без дна, такую глыбокую, што нават зоркі не адлюстроўваюцца. Тады па яго шчоках цякуць слёзы. Мне хочацца абняць дзядулю, прыцiснуцца да яго калючай шчакі, ды нешта незразумелае, цёмнае спыняе мяне за некалькі крокаў ад яго. Зачаравана стаю на месцы, як у сне, не магу адарваць ногі ад падлогі, толькі пазіраю ўважна, не адрываючыся, падсвядома ведаю: дзед Іван зараз не тут, не са мной…

Аднойчы я ўсё ж спытала ў дзядулі, адкуль жа ў нас мандаліна, навошта яна, нібы карціна, вісіць на сцяне. Гэта ж і немаўлятку ясна: калі ёсць інструмент, значыць, павінен быць нехта, хто ўмее на ім граць…

— Дзядуля, а чыя гэта мандаліна, чаму ты яе так беражэш?

Дзядуля паправіў падшытую воўнай камізэльку, незадаволена крэкнуў, зняў акуляры, бо перад гэтым чытаў газету, паглядзеў на мяне, нібы бачыў упершыню, нібы разважаў, ці можна з шасцігадовай дзяўчынкай гаварыць пра сур'ёзныя рэчы. А потым адказаў пытаннем на пытанне:

— А ты ўмееш захоўваць таямніцы?

— Вядома ж, умею, — аж затрымцела я. — Можна, можна, дзядулечка! Напрыклад, я столькі рознага пра дзядзьку Міхася ведаю! Ведаю, ды нікому не скажу, хоць вы мяне рэжце на кавалачкі. І тваю таямніцу нікому не раскажу, вось пабачыш…

І тады дзядуля расказаў мне такую гісторыю…

Калі пачалася вайна, ён быў ужо даволі стары. То бок не зусім стары, але для таго, каб ваяваць, не падыходзіў. Ён мог бы застацца са сваёй сям'ёй ці паехаць у эвакуацыю, ды вырашыў ісці на фронт, запісаўся добраахвотнікам. Там ён пазнаёміўся з маладым хлопцам, якога таксама звалі Іванам, быў ён дзядулю нібы сын, дваццаць год усяго. Іванка быў палкавым музыкантам, толькі паспеў скончыць музычную вучэльню, як пачалася вайна. У ваенкамаце, калі даведаліся, што Іван музыка, вельмі ўзрадаваліся, сказалі, што музыка і на фронце спатрэбіцца, трэба ж некаму баявы дух нашых салдат падымаць. Музыкі на вайне найчасцей з баянам, а гэты прыйшоў з мандалінай. Дастане са скуранога футляра, вытрэ пыл, а потым як жахне, куды там баяну! Не было той песні ці таго музычнага твора, якія б Іван не мог выканаць. Хоць табе «Сінюю хусцінку», хоць «Смуглянку», а то й Баха, Бетховена, — усё на раз-два. Талент. Віртуоз. Нават з заплюшчанымі вачамі на спор граў. Вось дык Іван! Дзіва!

Дык ён жа не толькі музыкам быў! Асноўная прафесія, як і ў майго дзядулі, — разведчык. Цікава, што Іван на слых яшчэ здалёк мог адрозніць, які самалёт ляціць: наш ці нямецкі. Шмат каго так ўратаваў… Дзядуля да Івана прыкіпеў усёй душой, страхаваў у баі. У дзядулі ж вайсковы вопыт яшчэ з фінскай. А Іван што? Яму б у філармоніі выступаць, а тут — вайна…

Іваны шмат у якія пераплёты патраплялі — і нічога, ні адна куля не зачапіла. Дзядулеў сябар жартаваў, што гэта музыка іх ратуе: пакуль гучыць хаця б у душы, нічога дрэннага не можа здарыцца. Іванкава мандаліна — сапраўдны талісман, маці той інструмент падарыла, бо заўважыла, як ён просіць мандаліну ў суседа і падбірае песні на слых… Перад самай вайной яго матуля памерла ад сухотаў. Іван та-

ды вучыўся ў Магілёве, не паспеў прыехаць. Нават не развіталіся…

У той вечар Іванам не пашанцавала. Нарваліся на засаду каля вёскі Кавалі. Адстрэльваліся як маглі, заходзілі ўсё глыбей у лес. Фашысты за імі не пайшлі, партызан баяліся, толькі стралялі з аўтаматаў, кінулі ўслед некалькі гранат. Таварышаў параніла амаль адначасова. Івана ў плячо, а дзядулю мацней, у нагу. Дзядуля ад болю амаль адразу страціў прытомнасць… Што там адбывалася, даведаўся ўжо ў медсанбаце, калі ачуняў. Аказваецца, Іванка цягнуў дзядулю на сабе некалькі кіламетраў. Сам, паранены, сцякаў крывёю, а цягнуў. Амаль усю ноч. Калі іх знайшлі на ўскрайку лесу, абодва Іваны былі непрытомныя. Малодшы так і не прыйшоў у сябе. Страціў шмат крыві, не вытрымаў такога жахлівага напружання сілаў. Дзядуля выжыў, хоць і застаўся без нагі. Пасля шпіталя яму ўдалося адшукаць інструмент, які належаў яго франтавому таварышу. Дадому вярнуўся на мыліцах, з мандалінай за плячамі. Свайго старэйшага сына дзядуля назваў Іванам, а мандаліна пасялілася ў нашай хаце. Шкада, што на ёй так ніхто і не навучыўся граць.

## Пра маму, кіно і чарнічнае варэнне

Гляджу ў люстэрка, хукаю на шкло — і ў гэтым волкім тумане бачу не сябе ў валёнках і зацыраванай на рукаве шэрай кофтачцы, а маладую матулю з партрэта. Партрэт візіць на сцяне, якраз насупраць шафы з люстэркам, і мама там такая прыгожая-прыгожая, як намаляваная: бровы ластаўкамі, карычневыя валасы хвалямі, вочы карыя, вільготныя, нібы мама плакаць сабралася, але ўсміхаецца, бо мяне бачыць, я ж побач з ёй, у люстэрку. Мама мне нагадвае актрысу Людмілу Касаткіну: тыя ж бровы ўразлёт, рашучы хуткі крок і нават радзімка на шчацэ. Не, у Людмілы Касаткінай няма такой радзімкі, але ўсё роўна яна копія маёй мамы. Бачылі фільм «Утаймавальніца тыграў»? Там мая мама, ой, не, Людміла Касаткіна ніколечкі тыграў не баіцца. І мама не пабаялася б, бо яна таксама вельмі смелая.

Аднойчы мы з матуляй і бабуляй кароў пасвілі, наша чарга была, дык адна карова, Чарнушка, нібы з глузду з’ехала.

Яна кідалася на іншых кароў, бадалася, а мама схапіла пугу і пабегла кароў бараніць… Калісьці мне баба Маня расказвала, як на яе малодшую сястру шалёны бык напаў. Забадаў да смерці… Так я спужалася, расхвалявалася за маму, што словы завязлі ў горле — хачу закрычаць, а не магу, анямела проста. А мама нібы зусім і не спалохалася, нібы сто разоў яна тых кароў бараніла, гляджу, ужо Чарнушку па галаве гладзіць і нешта ласкавае ёй на вуха шэпча. І такая карова паслухмяная стала, як цяля, нават даланю маміну сваім шурпатым языком лізнула.

— А што ты ёй такое сказала, мама? — спытала я потым. Цікава ж, якую замову ад шалу яна ведае.

— Я сказала Чарнушцы, што яна прыгажуня, самая цудоўная ў Сястронках карова, хоць сёння і не лепшы яе дзень. Трэба трохі пацярпець… І пачаставала карову чарніцамі.

— Мам, дык ты сапраўдная чараўніца! Не, драся… драсі… не, дрэсіроўшчыца! Табе трэба не ў школе настаўніцай працаваць, а ў цырку. Ты і тыграў бы не спужалася…

«Утаймавальніцу тыграў» у нашым клубе я бачыла некалькі разоў. На кожны сеанс хадзіла: і ў пяць гадзін вечара на дзіцячы, і ў сем — на дарослы, бо вельмі хацела Людмілу Касаткіну пабачыць. Гляджу — і мне здаецца, што там маму маю паказваюць. Тыя ж вочы, той жа паварот галавы… Толькі валасы ў артысткі светлыя, а ў маёй мамы цёмныя… Шкада, што фільмы з Людмілай Касаткінай у наш клуб прывозяць рэдка. І мама ў вёсцы рэдка бывае, толькі на выхадныя прыязджае, і то не на кожныя. Ёй трэба ўдзень працаваць у школе, а вечарам сшыткі правяраць. А сшыткаў шмат, і я сумую…

Калі наш кіншчык дзядзька Лёнька прывозіць у Сястронкі кіно, я куляй да яго лячу. У апаратную ўрываюся, як віхор, менавіта ў той момант, калі ён дастае з круглай пляскатай бляшанкі новы фільм. Ён глядзіць на мяне расчулена і ўсміхаецца аднымі вачыма, бо я яшчэ ніводнага фільма не прапусціла. Нават кіно пра Анжэліку — маркізу анёлаў бачыла, хоць дзяцей на гэты фільм і не пускаюць. Ну што там такога? Цалуюцца, дый усё, мы з Алегам ужо таксама пацалаваліся адзін раз, калі ў хованкі гулялі. Ды я цяпер не пра

Алега расказваю, а пра маю маму… Мы разам з дзядзькам Лёнькам перамотваем фільм на спецыяльным століку, у яго жоўтыя ад тытуню пальцы, і яны мне замінаюць за маленькімі кадрыкамі паспяваць, вельмі ж я хачу даведацца, які фільм сёння ў Сястронкі прывезлі. А раптам там будзе граць Людміла Касаткіна?

— Дзядзька Лёня, а ты ведаеш, што мая мама на Людмілу Касаткіну падобная?

Кіншчык ківае галавой, бо я ўжо сто разоў пра гэта гаварыла, ды мне прыемна і сто першы паўтарыць, гэта ж пра маю маму, а не пра ўлюбёную актрысу.

— Не верыш? Вось мая мама заўтра ў вёску прыедзе, тады сам пабачыш…

З дзядзькам Лёнькам у нас такая гульня — калі я ўгадаю, пра што фільм, ён дазваляе мне глядзець кіно з апаратнай. Гэта вельмі цікава, хоць і не надта зручна: акенца маленькае, гук як з бочкі, да таго ж я стаю на табурэтцы гадзіну, а можа, і дзве, але з апаратнай я добра бачу чароўны блакітны промень, які агортвае наш маленькі вясковы клуб вялікай нетутэйшай таямніцай. Гляджу на гэты промень, і мне здаецца, што я думкамі магу ўплываць на іншых людзей — вызваляць з палону, спыняць кулі, ажыўляць забітых… Магу зрабіць так, каб закаханыя ніколі не разлучаліся і шчасліва пражылі разам усё жыццё. А калі што-небудзь пойдзе не так, я спыню фільм, адматаю назад і пачну ўсё спачатку…

…Бачу маладую маму, нібыта здымаю фільм. Вось мы варым з ёй чарнічнае варэнне, тыя ягады, што сабралі, пакуль кароў пасвілі. Дакладней, пакуль каровы адпачывалі, яны і бабуля драмалі, а мы з мамай чарніцы збіралі ў лесе. Раніцай камары моцна кусаюцца, але я цярплю, бо калі буду жаліцца, мама мяне ніколі больш па ягады не возьме…

Варэнне такое духмянае, што аж дух захоплівае. Мама вялікай драўлянай лыжкай збірае чырвона-сінюю пенку, асцярожна выкладае яе на белы парцалянавы сподачак. Я намагаюся студзіць варэнне, але не вытрымліваю, кранаюся языком чарнічнай духмянай радасці.

— Ай, горача!

— Студзі, дурэча!

Мама фукае на мой сіні язык, і я адчуваю, што ўся яна пахне чарнічным варэннем, што ад гэтага паху ў мяне кружыцца галава, і я такая шчаслівая, што нават не разумею, што гэта шчасце. Салодкі чарнічны пах застанецца са мной, калі я вырасту і пераеду ў іншую краіну, туды, дзе чарніцы ў лесе не растуць і ніколі не будзе побач мамы. Гэты ўспамін зноў і зноў вяртае мяне ў тое чарнічнае маленства, дзе нават вёска паблізу Сястронак называлася Чарняя, дзе чарніцы раслі ў бліжнім і дальнім лесе, і кожны год мы з мамай збіралі ягады і варылі духмянае чарнічнае варэнне, самае смачнае ў маім жыцці…

А што будзе пасля? Што будзе пасля жыцця з маёй мамай? Гляджу ў люстэрка, шукаю адказ на гэтае пытанне у глыбінях свайго ўласнага адбітку, там, дзе адлюстроўваецца і мая маладая мама. Два сусветы сплятаюцца ў адзін, і кожны з іх множыцца, зіхціць, нібы чарнічынка каменьчыка з пярсцёнка на маім безыменным пальцы. Падарунак матулі…

## Валёнкі

У мяне такія валёнкі, што не магу ў іх хадзіць. Мама кажа, навырост, на той год будуць самы раз, але мне ад яе слоў не лягчэй, бо, выходзіць, ад гэтай зімы мне ніякай радасці. Валёнкі вышэй калена, ногі ў іх не згінаюцца, і мяне хіба што пераставіць можна з месца на месца. Вось стаю побач са снегавіком — гляджу на бальшак, як Вадзім з Алегам на санках катаюцца, і толькі рукой ім махаю — дачакайцеся мяне, хлопцы, на наступны год пагуляем…

— Толькі ты мяне разумееш, — скарджуся снегавіку, — ні табе пабегаць, ні табе паскакаць, хіба што ў снег заваліцца і ляжаць, як сноп леташні, можа, нехта і падбярэ…

Тут на вуліцу выходзіць мама з новенькімі санкамі, якія толькі ўчора прывезла з горада. Нарэшце дачакалася…

— Ты, Іначка, не замерзла? — ласкава пытае мама і кранаецца рукой майго носа. — О, які халодны…

«Цікава, якім павінен быць мой нос, калі я цябе, мамачка, столькі чакала на марозе? На нос валёнак не надзенеш…» — гэта я сабе думаю, бо трохі злуюся на маму. А ўслых кажу:

— Не, не замерзла…

Канечне, мама гэтых слоў не чуе, бо мой рот завязаны тоўстым суконным шалікам аж да самых вачэй, каб я не наглыталася халоднага паветра, бо ж зусім нядаўна хварэла. Гукі губляюцца ў маім шаліку, як спадарожнікі ў касмічнай прасторы. Сама сабе я нагадваю касманаўта ў скафандры, бо паверх кашулі, дзвюх кофтаў і рыжага футрачка я абвязана крыж-накрыж бабулінай ваўнянай шэрай хусткай. Так што рухацца мне замінаюць не толькі валёнкі. Мама садзіць мяне ў санкі і замотвае ў зялёную вярблюджую коўдру так, што толькі галава і плечы тырчаць. Мне здаецца, што я ва ўсім гэтым адзенні такая цяжкая, што санкі проста з месца не зрушыць. Але ж, дзіва-дзіўнае, мама даволі лёгка іх пацягнула па рыпучым снежаньскім снезе. Ура, нарэшце паехалі!..

Навокал такі вясёлы бліскучы снег, што я ўяўляю сябе на паўночным полюсе. Вось еду я на паўночных шэрых аленях, як маленькая Герда, шукаю свайго названага брата Кая… Ой, як мне падабаецца гэтая казка! Дзядуля яе ўжо некалькі разоў мне чытаў, а я б яшчэ слухала і слухала. Цікава, што я ўяўляла сабе «Снежную каралеву», кадр за кадрам, яшчэ да таго, як гэткі мультфільм упершыню паглядзела. Усе тыя сны прыдворных дам і кавалераў у палацы юнай прынцэсы я бачыла ноччу на шпалерах, калі хварэла на запаленне лёгкіх. У мяне была высокая тэмпература, мама насіла мяне па хаце на руках, а я сузірала на сценах гэтыя танцы…

А сёння на снезе танцуюць анёлы радасці! Я ўжо забылася пра свае вялікія валёнкі, пра тое, што амаль не магу рухацца. Усё ж якое гэта шчасце — вось так імчаць з мамай наперад па сястронскім укатаным бальшаку! Снег ляціць у розныя бакі з-пад палазоў санак, а мама такая маладая і прыгожая, што я не магу ёю налюбавацца. Цёмныя валасы выбіліся з-пад хусткі, ватоўка расшпілілася на грудзях, ёй весела, як і мне. Мама смяецца, мабыць, успамінае сябе дзяўчынкай, уяўляе той час, калі ейная матуля, мая баба Мура, вось так катала яе на санках, і залатыя гарачыя іскры ляцелі ёй у твар, а яна, маленькая, заплюшчвала вочы, менавіта як я зараз…

— Інка, табе не халодна, не халодна? — зноў і зноў паўтарае мама, і бяжыць, бяжыць наперад усё хутчэй…

— Не, мама, мне нават горача! — весела крычу я, і раптам заўважаю, што шалік на маім горле развязаўся, коўдра расхінулася, а з-пад яе тырчаць мае ногі ў тоўстых шарсцяных шкарпэтках з вожыкамі. А дзе ж валёнкі?

— Мама, тармазі, мы валёнкі згубілі! — крычу. Хоцькі-няхоцькі, а трэба прызнацца, бо мароз цераз шкарпэткі добра кусае за пальцы.

— Як згубілі? — Мама глядзіць на мяне вялікімі здзіўленымі вачамі. Бедная, спужалася яшчэ больш, чым я. Пакуль матуля замотвае мяне ў цёплую коўдру, як у кокан, я адчуваю сябе няшчасным вусенем, які, бедалага, не змог ператварыцца ў прыгожага мятліка. Хаця якія мятлікі зімой, ды яшчэ ў валёнках?..

— Вось пра што ты думаеш, Інка? Не хапала, каб ты зноў захварэла! Як можна быць такой балдавешкай і не заўважыць, што з цябе па дарозе валёнкі зваліліся? Ты ўжо даўно сядзіш вось так, без валёнак, прызнайся?!

«Ды што там прызнавацца, сапраўды не заўважыла. Калі б тыя валёнкі купляліся па маіх нагах, а не на вырост, дык не згубіліся б…» — думаю сама сабе, але маме гэтага, канечне, не кажу, каб не засмуціць яе яшчэ больш… Матуля павярнула санкі назад, дадому, і досыць хутка знайшла мае няшчасныя валёнкі ў сумёце ля дарогі, але настрой быў сапсаваны. Мы ўжо не смяяліся, не жартавалі, не радаваліся вясёлай снежнай зіме, не заўважалі, як жар-птушкай садзілася за лесам сонца, як курыўся дым з комінаў шчымлівых сястронскіх хатак, як ружавелі снягі-караваі… Анёлы радасці ўжо не танцавалі на снезе, а стаялі абапал дарогі, апусціўшы свае прыгожыя белыя крылы на дол, і нібыта заглядалі на шмат гадоў наперад, прадчуваючы ўсе выпрабаванні і страты, якія перажыве наша сям’я… Але разам з тым анёлы ведалі, што аднойчы я ўспомню гэты сонечны зімовы дзень як адзін з самых шчаслівых у маім жыцці… І дзе тыя валёнкі, мама?..

## Малочныя рэкі

Калі шчыра, уставаць так рана мне не хочацца. Нацягваю коўдру на галаву, падрамаць бы яшчэ хоць хвілінку ў гэтай утульнай бярложцы, начны сон даглядзець. Але дарослыя ўжо збіраюцца, пагрукваюць чымсьці, пакашліваюць, перагаворваюцца напаўголаса, думаюць, што я яшчэ сплю. Дзіцячы сон — самы салодкі, родныя гэта добра разумеюць, таму ім шкада мяне будзіць. За гэтае шкадаванне люблю ўсіх яшчэ больш, але трэба ўставаць, сама ж учора ў поле напрасілася. Чую голас Малышкі, ужо просіцца на свежае паветра, у хляве вогка і цёпла, пахне малаком. Цярпі, Малышка, хутка пабачыш траву і сонейка…

Расплюшчваю вочы. Гляджу ў акно. Раніца яшчэ зусім нясмелая: святло цьмянае, не выяўленае ў колеры, напаўсоннае, як і я. Плятуся ўмывацца…

— Інуся, можа, ты ўсё ж дома застанешся? Падрэмлеш… — гэта гаворыць матуля. Іду на слых, бо вочы яшчэ прыплюшчаныя. Вось умыюся, тады ўсіх пабачу. Адно вока, другое… Во, здаецца адкрыліся вачаняты…

— Інка, давай варушыся, калі пасвіць кароў збіраешся, — гэта дзядзька Іван. Ён сёння строгі, таму што галоўны пастух. Бабуля з мамай яму дапамагаюць. А я зусім абы-што, нейкі падпасак, мне нават пугу не даверылі, толькі дубец. Дзядуля ўчора зрабіў, абчасаў з клёніка лісце, каб лепш было кароў падбадзёрваць. Каровы сястронскія зусім бесталковыя: то валочацца, як сонныя мухі, то ў нейкую шкоду лезуць, то ў кусты розныя хаваюцца. Справа падпаска — кароў з гэтых кустоў выганяць, каб яны ішлі па бальшаку больш ці менш арганізаваным натоўпам, адна за адной. Ой, натоўпам ходзяць людзі, а каровы — статкам. Пераблытала спрасонку.

Сястронкі — вёсачка невялікая, двароў семдзесят. Не ўсе гаспадары трымаюць кароў, але каля сарака набярэцца. У вёсцы няма пастуха, таму кароў гаспадары пасвяць па чарзе. Сёння наша чарада. Каб канчаткова прачнуцца, пачынаю лічыць кароў: у бабы Франі — Зорка, гэта раз, у бабы Фрузы — Мілка, гэта два, у Алега з Вадзімам — Чарнушка, тры, у нас — Малышка, чатыры… Дарэчы, я сама

прыдумала нашай карове імя, калі яна толькі з'явілася. «Недалугая цялушачка, — сказала тады бабуля, — ды няхай пажыве ў нас, аклямаецца». З таго часу і я падрасла, і карова стала спраўнай, вунь калыша смуглявымі бакамі сярод іншых кароў, вядома ж, яна — самая лепшая… Малышку трэба было назваць Красуля, таму што ў яе вялікія веі і карыя вочы з вільготнай павалокай. Сапраўдная прыгажуня! Калі я кармлю яе хлебам, Малышка дыхае на далоні вільготнай цеплынёй і акуратна бярэ кавалачак за кавалачкам. А язык у яе мокры і шурпаты. Аднойчы яна лізнула мяне проста ў твар, мабыць, падумала, што я яе цяля… Перад гэтым яе цялё забралі, і яна вельмі сумавала, а я нібы была яе дачушкай, кожны дзень у хлеў прыходзіла, гладзіла белую плямку на лобе… Куды знікаюць каровіны дзеці? Можа, іх здаюць у нейкі дзіцячы будынак для цялят? Дарослыя не хочуць гаварыць са мной на гэтую тэму…

Мне не падабаецца бегаць па кустах за каровамі, ды трэба слухацца дарослых, я ж падпасак, а не пастух, пасада падпарадкаваная. Разумею, што дарослыя баяцца, каб нейкая карова не заблукала і не адстала ад статка. З іншага боку, я разумею кароў. Яны заходзяць у кусты і падлесак, таму што камары і авадні кусаюцца, адбіцца, акрамя хваста, больш няма чым. У адной руцэ ў мяне дубец, а ў другой — галінка, якой адганяю з каровіных бакоў надакучлівую жамяру. Ну, пацярпіце крыху, крутарогія мае прыгажуні, хутка ўжо дойдзем да поля, дзе сакавітая трава, дзе вам можна будзе разгуляцца ўволю…

Нарэшце лес расступаецца, і вачам адкрываецца роўная, нібы алоўкам намаляваная паляна. Каровы спакойна пасуцца, а мы, пастухі, сядаем на ўзмежку пад дрэвам, дастаем сняданак. Якое ж у лесе ўсё смачнае! Нават хлеб асаблівы. Таму што зайкаў. (Калі мама, тата або нехта з дзядзькаў прыходзілі з лесу, як пачастунак прыносілі мне хлеб ад зайкі.) А калі акраец хлеба яшчэ алеем ці мёдам памазаць — смаката, не адарвацца. Цяпер мне здаецца, што кожны хлеб, з'едзены ў лесе, становіцца зайкавым. А калі яго запіць малаком з зялёнай шкляной бутэлькі, ён лепшы за любыя прысмакі. Ды галоўнае ў полі, вядома ж, не ежа. Галоў-

нае — назіраць, як з-за лесу ўзыходзіць сонца! Туман, у якім да гэтага пасвіліся каровы, прахалодны, вогкі — становіцца ружовым і паступова рассейваецца. Святло набывае кантраснасць, прыглушаныя да гэтага гукі становяцца чыстымі-чыстымі, аж звіняць. І так хочацца лётаць! Каровы, вам гэтага не зразумець! Вам ежа даражэйшая… І раптам каровы перасталі пережоўваць сваю травяную жвачку, паглядзелі ўверх, замычэлі хорам і… узляцелі. Дзядзька Іван, бабуля і мама замітусіліся па паляне:

— Інка, лаві хутчэй, яны ж разбрыдуцца, разлятуцца па небе, не збярэм! Бяжы, ратуй!

Спрытна хапаю дзядзькаву пугу, падскокваю на адной назе і… узлятаю за каровамі следам пад самыя аблокі. На адной хмарцы — Зорка, на другой — Мілка, на трэцяй — Малышка.

— Каровы, ляціце хутчэй да мяне, трэба вас пералічыць!.. — крычу з выспачкі свайго каляровага сну. Дзе яшчэ палётаеш, як не ў сне? Лячу!.. Расту!..

Прачынаюся вясёлай, шчаслівай. Цудоўна адпачыла! А ўсяго нейкія паўгадзіны прайшло. Дарослыя дрэмлюць у цянёчку, і каровы, якія стаміліся пасвіцца, цяжкія ад маладой сакавітай травы, адпачываюць. Напэўна, ім сняцца малочныя рэкі, вяршковыя берагі. І ўсім нам так добра! Жыццё цудоўнае!

## Пакрыўдзілася

Пакрыўдзілася на бабулю і пабегла ў лес. Няхай мяне разарвуць ваўкі, дадому ўжо не вярнуся! А можа, мы з ваўкамі пасябруем? Застануся жыць у лесе, буду як Маўглі — і воўк табе сябар, і мядзведзь, і пантэра. Асабліва мне падабаецца пантэра, яна нібы стрыечная сястра нашага ката Трубачыста, толькі больш ганарыстая, ведае сабе цану, бо пані, хоць і звярыная. А я таксама ганарыстая, хоць і маленькая. Нельга на мяне крычаць, змушваць нешта рабіць, гаварыць «ты павінна»… А ў лесе маімі сябрамі будуць вавёркі і птушкі, мядзведзі і зайцы. Я навучу іх размаўляць, а яны мяне — разумець іхнюю мову. Усе звяры разумеюць адзін аднаго,

таму што ў іх тэ-ле-па-тыя. Як жа цяжка гэтае слова вымаўляецца! Пра звярыную тэлепатыю мне тата расказваў, і я сама ў гэтым не раз пераконвалася. Вось, напрыклад, мой кот заўсёды ведае, дзе ў нас схаваныя вяршкі і смятана. Ён падыходзіць менавіта да таго месца і пачынае мяўкаць: «Мне, мне, мне…» А перад тым, як тата з мамай прыедуць, ён заўсёды ўмываецца. Так стараецца, што ў яго нават вушы заварочваюцца і трашчаць…

Але ніякія думкі пра ката не забяруць маю крыўду. Усё роўна буду ў лесе жыць! Збудую сабе хатку з галінак, лісця і моху. На золку бярозы будуць вітацца са мной… Ой, я столькі ведаю пра дрэвы, і ўсё хочацца расказаць… Калі пачынаецца вецер, яны шэпчуцца між сабой, казкі расказваюць, а можа, вершы, а можа, мроі свае лясныя. А калі няма ветру, дрэвы засынаюць, і тады ім сняцца сны пра палёты. А ў купальскую ноч дрэвы могуць пераходзіць з месца на месца, сплятацца галінамі. Сонца на Купалле едзе на трох конях — срэбным, залатым і чырвоным, і такое прыгожае, што ад гэткай прыгажосці можна нават страціць розум або аслепнуць. Бабуля мне гэта расказвала, ды не буду пра яе думаць, бо ўсё яшчэ крыўдую і дадому не вярнуся…

Люблю дрэвы за тое, што яны ўмеюць маўчаць, ім можна даверыць любую таямніцу. Асабліва мне падабаюцца бярозы. Яны такія прыгожыя, пяшчотныя. На іхняй кары пішу алоўкам таемныя літары, кранаюся шчакой. Кара бярозы цёплая на дотык нават зімой… Вось сяду пад бярозай, паплачу трохі, а потым раскажу пра сваю крыўду, і стане мне лягчэй, і на сэрцы пацяплее. Бяроза забярэ мой боль у сваю кроў, у свой бярозавы сок. І пацячэ гэты сок, як сон, па ўсіх яе ручаінах і рэчках, па ўсіх галінках зверху да нізу, і абмые карані, і знікне недзе пад зямлёй. А я буду сядзець пад бярозай, глядзець на неба і забудуся, нарэшце, пра сваю крыўду…

Калі я хаджу між дрэвамі, думаю, што ў кожным з іх жыве нечая душа, і калі зазірнуць у дупло, можна пабачыць вочы, якія глядзяць табе прама ў сэрца. Магчыма, душа маленькай Евы, першай дачкі бабы Муры, якая памерла немаўляткам, жыве вось у гэтай бярозе, а ў дубе пасялілася душа

дзеда Іосіфа? Гладжу бярозку па ствале, кранаюся галінак дуба. Напэўна, яны адчуваюць маю пяшчоту… Тата гаварыў, калі ссекчы дрэва з душой, пачуеш стогны і пальецца сапраўдная кроў. А ёсць дрэвы, якія вырастаюць на перакрыжаваннях лясных дарог, і яны могуць ператварацца ў чалавека. Ды гэты чалавек не адразу стане такім, як мы, будзе доўга яшчэ хадзіць сярод людзей сумны, абыякавы, нібы ў сне. Яго можна ўратаваць жабер-травой, якая расце на дне возера і свеціцца ноччу. Калі яе прыкласці да скроні чалавека-дрэва, з яго вачэй спадзе нябачная завеса, а сэрца стане такім відушчым, што зможа нават пабачыць будучыню…

*Стаіць дуб-старадуб,*
*на ім пцічка-варанічка.*
*Ніхто яе не спаймае:*
*ні цар, ні царыца,*
*ні красна дзявіца.*

Вельмі мне гэтая загадка падабаецца. Ведаеце адгадку? Гэта ж — сонейка. Птушачкай мяне называе баба Мура, і ластаўкай, і сонейкам… Добрая яна ў мяне. Ну, трохі пакрычала… З кім не бывае… У лесе мая крыўда хутка загаілася, нібы я да грудзей дзівасіл прыклала. Ой, якая дзівосная гэта расліна! Бабуля паказвала, як яна выглядае — жоўтыя кветачкі, шурпатае лісце і тоўстае карэнне. Дзівасіл лечыць ад усіх хвароб, і крыўду маю вылечыў, хоць я толькі падумала пра яго… Пабягу дадому, мабыць, мяне ўжо шукаюць, хвалююцца… Да сустрэчы, дрэвы, не сумуйце тут без мяне!

## Пах алоўкаў

О, як мне падабаецца маляваць! Алоўкі пахнуць вясновым ветрам, травой, дзьмухаўцамі, апалым восеньскім лісцем, першым снегам… Кожны колер мае свой адмысловы пах, таму лёгка магу выбраць патрэбны аловак нават з заплюшчанымі вачамі. А найбольш мне падабаецца маляваць пахі! «Завіруха завяла песеньку зімовую…» — бубню радкі, якія з’яўляюцца невядома адкуль, малюю сумёты, хмаркі,

дрэвы — сінім, зялёным, ружовым… А белым па беламу — кепска, нічога не відаць, трэба паслініць аловак і дадаць да іншых фарбаў, тады белы прасвечвае, колер робіцца чысцейшым. Гляджу на белы аловак і ўспамінаю першы снег, а яшчэ ледзянікі, якія зрывала ўчора са страхі і смактала, нібы гэта марожанае. Зімой мне марожанае есці не дазваляюць, каб горла не забалела, а я смакчу сасулькі, пакуль ніхто з дарослых не бачыць. Толькі гэта сакрэт, нікому не расказвайце… Ой, а як у роце потым прыемна… чысціня, прахалода… Гэта я вам расказваю пра белы аловак! Пра іншыя — потым, бо тата з мамай прыехалі, бягу сустракаць!

Тата і мама адведваюць мяне ў Сястронках па выходных, а калі едуць у горад, заўсёды пытаюць, што мне наступны раз прывезці.

— Алоўкі! — ні на хвіліну не сумняваючыся, крычу я.

Бацькоў гэта здзіўляе, бо алоўкаў ужо хоць грэблю гаці. Яны ляжаць на стале, пад сталом, на паліцах, у шуфлядках і на падваконнях. Яркія алоўкі ствараюць святочны настрой, толькі дарослыя пра гэта нават не здагадваюцца. Часам я перакладаю колеры адпаведна надвор'ю і часу дня. «Сёння дождж, — думаю я, — таму пакладу на падваконне больш сініх алоўкаў». Сонечны настрой адпавядае чырвонаму і памаранчаваму колерам. А калі мне хочацца адчуць вясну пасярод зімы, я дастаю з каробкі зялёныя і белыя алоўкі, складаю з іх сняжынкі або ўзоры, якія нечым нагадваюць квецень яблыні.

Вось хто мяне разумее, дык гэта дзядзька Міхась! Ён не здзіўляецца, не задае дурных пытанняў, а проста прывозіць новыя алоўкі. Ведае, што гэта для мяне найлепшы падарунак. Неяк дзядзька прывёз з Масквы, дзе ён вучыўся ў Нафтавым інстытуце, каробку з 24 алоўкамі. Яна была як скрыня з двума паверхамі. Там былі алоўкі, якіх у мяне раней не было — бэзавы, персікавы, смарагдавы. Маё шчасце было бязмежным! Я так радавалася падарунку, што спачатку нават маляваць не магла. Адкрывала каробачку, глядзела на алоўкі і проста любавалася. Потым даставала кожны па чарзе, нюхала, запамінала новы колер…

Альбомаў у мяне колькі хочаш, толькі маляваць там мне хутка надакучвае. Што цікавага? Сядзі за сталом і малюй. Іншая справа — за канапай на шпалерах. І хавацца цудоўна… Заходзіць бабуля і пытае:

— А дзе ж мая памочніца?

Сяджу ціхенька, як мышка, малюю патроху і, вядома ж, маўчу. Бабулечка ж не проста так мяне кліча, значыць, нейкую справу знайшла. Ну, пайду я нешта рабіць, а натхненне пырхне, як птушанятка, і паляціць… Дзе ж я тады яго шукаць буду?

Ну вось, шпалеры за канапай размалявала, давядзецца перабрацца некуды яшчэ — пад стол, за крэсла, пад ложак, за печ… А там, дзе цемнавата, падсвечваю ліхтарыкам, які неспадзявана знік у дзядзькі Міхася, ён і не заўважыў гэтага… Нарэшце справа даходзіць да альбомаў. Вырываю старонкі, склейваю ў адзін вялікі аркуш, на маленькім жа маляваць не цікава…

* * *

Да гэтага часу памятаю захапленне і радасць творчасці, якія свецяць мне скрозь гады і гады. Шкада, што ніводнага малюнка з тых часоў не засталося… Жаданне маляваць перадалося і майму сыну. Калі Уладу было гадоў пяцьшэсць, ён таксама маленькія аркушы аб’ядноўваў у адзін вялікі, а гэтаму ж яго ніхто не вучыў. Перадалося па генах, ці што? Сын маляваў пустэльню, пальмы, заход сонца, нейкія сінія горы — усё тое, што пабачыць гадоў цераз дзесяць, калі мы разам упершыню адведаем Егіпет. Вось такая містыка — у нашым будучым, як дрэва ў зярнятку, жыве нашае сёння… На жаль, у школе Уладзік ужо не маляваў. Яму паказалі, як маляваць правільна, і жаданне знікла. Пырхнула некуды, не злавіў… Але сынавы малюнкі я берагу. І калі бывае адпаведны настрой — разглядаю, успамінаю яго маленькім, сябе ў дзяцінстве і такі родны пах алоўкаў.

# Жорны

У кладоўцы, на габляванай дзядулевымі рукамі лаўцы, ляжаць жорны. Два круглыя камяні з дзіркай па цэнтры рухаюцца нібыта самі па сабе, нібы бабуліны рукі ім і не дапамагаюць. Як бабуля ні стараецца, мука ўсё роўна сыплецца не толькі ў скрыню, але й на лаўку, на падлогу, нібы снег патроху цярушыцца. Я сяджу каля бабулі на маленькім услончыку і малюю па белым першую літару свайго імя — «І». Потым яе засыпае мукой, і я зноў малюю… Ёсць у гэтым нешта магічнае — жорны, мука на падлозе і літара, якая падкрэслівае маю прысутнасць у гэтым свеце…

Жорны рыпяць, нібы размаўляюць глухім старэчым голасам — шапялява, хрыпата. Складваючы далонькі птушачкай, я набіраю з шурпатага мяшка пшаніцу, падсыпаю ў вусце жорнаў, якое бабуля называе горлам, жорны глытаюць зерне, перажоўваюць сваімі каменнымі зубамі, цярушаць муку ў скрыню.

— Бабуля, а калі ўжо снег пойдзе? Нейкая незімовая зіма ў нас выдалася…

Не дачакаўшыся бабулінага адказу, жвавай сарокай пераскокваю з кладоўкі ў сенцы, клацаю халоднай клямкай. Ногі і рукі — у сенцах, а галава з вясёлымі кудзеркамі — на вуліцы. Цікава, што там змянілася, пакуль мы муку малолі?

— Не, снег не ідзе… Толькі дробны дождж. Мабыць, наша зіма прастудзілася. Чхае і носам хлюпае…

Я ўявіла Зіму ў ваўнянай бабулінай хустцы і ў белых валёнках, якія бачыла ў Дзеда Мароза з кніжкі-размалёўкі. Зіма сядзіць на хмарцы звесіўшы ногі і чхае так, што аж дрэвы трасуцца. У Зімы такі доўгі нос, што да вершалінаў дрэваў дастае. Дрэвы стаяць панурыя, як мокрыя куры… Ну які тут Новы год, калі Зіма прастудзілася?

— Інка, ідзі ў хату, а то захварэеш! Што я потым тваёй маме скажу? — страшыць мяне бабуля з кладоўкі. Страш не страш, бабулечка, а я ведаю, якая ты добрая. Нібы крычыш на мяне, а вочы ўсміхаюцца, маршчынкі — нібы сонечныя праменьчыкі. Сонейка па ім — прыг-скок, прыг-скок, нібы ў «класікі» гуляе. Толькі цяпер няма сонейка. Дажджыць…

— Баба Мура, я ўжо вяртаюся. Што на такой мокрай вуліцы рабіць?

Бягу да бабулі, яна расхінае ватоўку і хавае мяне пад паху. Адтуль, з цеплыні, назіраю, як круцяцца жорны, як сыплецца мука…

— Бабуля, адкуль у нас гэтыя жорны?

— Ад дзеда Івана, ад яго бацькоў… Калі іх раскулачвалі, не толькі карову з цялушкай, але і ўсе гаспадарчыя прылады забралі, гэтыя жорны таксама хацелі ў калгас здаць. Ужо на калёсы пагрузілі, павезлі… А потым чамусьці выкінулі каля лесу. Можа, каню цяжка стала…

Адзін з першых дзіцячых успамінаў — калі я заглядваю з вуліцы ў кладоўку праз падслепаватае на заходзе сонца маленькае акенца і ўсё, што там бачу, падаецца мне таямнічым, казкавым. Асабліва жорны, іх ні з чым не зблытаеш. Яны прыйшлі да нас пешшу ад самага лесу. Каменныя ногі сунулі па шэрай лістападаўскай траве, і яна рыпела, стагнала ад болю, бо надта цяжкое каменне… Дарэчы, дзядуля распавядаў мне, што ёсць такія камяні, што рухаюцца па зямлі, і крыжы такія ёсць…

Я знаходжуся ў тым шчаслівым узросце, калі свет яўны сплятаецца са светам уяўным — казачным, міфічным, як дзве рознакаляровыя ніткі ў рукавічкі, сплеценыя маёй бабуляй. У гэтай ранішняй свядомасці ўсё яшчэ шчыра і непадзельна, узнёсла і радасна. Краіна фантазіі, дзе ўсё магчыма, рэальна існуе, як гэтая мука, што патроху цярушыцца на падлогу. Зноў і зноў пішу на ёй «І», першую літару свайго імя…

Яшчэ трохі — і пойдзе снег, накрые халодную чорную зямлю цёплай белай коўдрай, і будзе ўсім жучкам-павучкам цёпла і зацішна, і нікога з іх не пакрыўдзяць. Яны задрэмлюць пад снегам, каб дачакацца вясны… А пакуль цярушыцца мука, цярушыцца мука… І ўжо зусім хутка Новы год.

## На Вялікдзень сонца грае

Калі я ўпершыню адчула прысутнасць Бога ў сваім жыцці? Можа, тады, калі босая бегла па сястронскім бальшаку, даўно, яшчэ да асфальту, і пыл курыўся пад нагамі, падымаўся вышэй, аж да плеч, і кожная пылінка свяцілася, як маленькае сонца, а на душы было так вольна й весела, што не думалася пра шчасце, а проста прарывалася з глыбіняў: «Слава Богу! Слава Богу!» Адкуль з'явіліся тыя словы, я не ведала. Можа, іх раней вымаўляла бабуля? Але не, яны гучалі менавіта маім голасам, гэта была я і не я, нешта большае за мяне… Радасць ува мне і была Богам… Пасля было некалькі выпадкаў, калі захплівала дух ад прыгажосці краявіду або нейкай кветкі — ландыша, сон-травы, званочка, рамонка. Ад таго дотыку мне чамусьці хацелася плакаць, на вочы набягалі слёзы, і свет выглядаў яшчэ прыгажэйшым, нібы быў прамыты першароднай чысцінёй. Я думала: «Вось Бог, Ён у красе, якую бачу…»

Калі хварэла бабуля, я ўжо ўмела маліцца. Прыціскалася лобам да прахалоднага акна і паўтарала словы: «Божанька, добры, міласэрны, абаронец усіх дзяцей і ўсіх старэнькіх, зрабі так, каб мая баба Мура не памерла, а паправілася, а я Табе за гэта абяцаю не падманваць, слухацца дарослых і не хваліцца…» Я думала, што Бог — гэта міласэрнасць, Ён набліжаецца, калі некага шкадуеш усім сэрцам… У дзяцінстве Бог блізка, нават калі ты не заўсёды выконваеш абяцанні… А потым… потым мы аддаляемся ад сваёй шчырасці ў часе і прасторы, і ўсё больш не выконваем свае абяцанні. Ды ўсё роўна Ён з намі, бо шкадуе і даруе…

* * *

У гэты дзень я прачнулася рана, каб нават расу абагнаць. Трэба ж пабачыць, як сонейка на золку грае. Бабуля ўжо вярнулася з царквы. Пасачкі ў яе кошыку, аж свецяцца, аж зіхцяць ад радасці, так і хочацца пакаштаваць. Мы разам пяклі іх учора, і яйкі лушпіннем цыбулі фарбавалі. Ну, папраўдзе, гэта ўсё бабуля рабіла, а я толькі дапамагала — даставала з-за печы аж залатую цыбулю, лушчыла яе, пасачкі на вышыты ручнічок ставіла. Ой, яны такія гарачыя былі,

што пёкам далонькі пяклі, і дыхалі… дыхалі, як жывыя. Я і зараз адчуваю гэтую цеплыню, нібы ў далонях б’ецца нечае сэрца…

Учора я так прасілася з бабуляй да царквы, так прасілася… Але яна мяне не ўзяла, бо йшла на ўсю ноч. Сказала, што я яшчэ малая і ноч у царкве не вытрымаю.

— Пабудзь дома з дзядулем, добра выспіся, а я раненька вярнуся і пакажу табе, як сонца грае…

Усю ноч мне снілася, як па небе лётаюць цэрквы, паскі і птушкі, зіхацяць залатыя купалы, і крылы ў птушак таксама залатыя. А паскі нібы храмы, дзе Бог жыве, таму яны дыхаюць цеплынёй і жыццём…

— Бабуля, пойдзем хутчэй на сонца глядзець! — хапаю бабулю за руку і цягну на вуліцу. Але яна не спяшаецца: спачатку падыходзіць да абраза Божай Маці, які вісіць у кутку на кухні, хрысціцца, шэпча малітвы. І я станаўлюся побач, задзіраю галаву, малюся Богу, як сама ўмею.

— Божанька, няхай усе будуць здаровымі і ніколі не паміраюць — і мама, і бабуля, і тата, і дзядуля, усе-ўсе нашы родныя і няродныя няхай таксама жывуць вечна і будуць шчаслівымі. І нават сыны бабы Франі, хоць яны п’яніцы і на яе шыі сядзяць, няхай ім таксама будзе добра. Божанька, няхай баба Даша памірыцца з дзедам Васілём, Зіна вырасце і закахаецца ў добрага хлопца, і каб Алег стаў урачом, як яго матуля, цётка Таіса. Хачу, каб дзед Панас часцей да нас у госці прыходзіў, і каб мама з татам не сварыліся і ў вёску да мяне прыязджалі не толькі на выхадныя… А яшчэ дай, Божанька, каб больш ніколі не было вайны…

Хрыстос на абразе Казанскай Божай Маці яшчэ зусім немаўлятка, але ўсё бачыць і малітву кожнага з нас чуе. А Маці Божая — прыгожая, але дужа сумная. Яна свайго Сына да сэрца прытуляе, і так ёй хочацца, каб маленькі Ісус быў шчаслівы… Ці ведае яна, як потым усё павернецца? Мне бабуля расказвала, што потым, калі Божанька вырасце, яму здрадзяць вучні, а людзі, якія яго раней праслаўлялі, захочуць, каб Ён памёр на крыжы… А Немаўлятка на іконе ўжо ведае пра гэты свой лёс, і Маці Божая ведае, таму такая сумная… Але сёння асаблівы дзень — Божанька ўваскрэс! Гэта

значыць, што смерці няма і ўсе мы будзем жыць доўга-доўга. Гэта як дарога, якая ідзе за небакрай, і няма ёй канца…

Ікона Казанскай Божай Маці належала бацькам маёй бабулі, Данілу і Вользе, іх раскулачылі, саслалі ў Сібір, і болей пра іх нічога не ведалі… Ды гэта не значыць, што дарога маіх прадзедаў абарвалася. Проста яны пайшлі за небакрай, а бабуля засталася, нарадзіла маму, дзядзьку Івана і дзядзьку Міхася, а яны — усіх нас, сясцёр і брата. І калі нашая дарога таксама сыдзе за гарызонт, нашы дзеці і ўнукі будуць вось так стаяць і глядзець удалеч, думаць, што канца-краю гэтай дарозе няма…

У вайну абраз Казанскай Божай Маці ўратаваў бабу Муру і маму. Калі яны хаваліся ад фашыстаў у лесе і пачынаўся абстрэл, бабуля садзіла на калені малую маму і захінала абразом, як чароўным шчытом. Аднойчы яны сядзелі ў акопе, і снарад разарваўся зусім блізка. Іх штурханула паветранай хваляй, і па абразе дзінькнуў асколак — адзін, другі… Паглядзелі пасля і пабачылі, што са зваротнага боку, які быў падшыты нейкай металічнай пласцінай — дзве выбоіны. Так бы і абарвалася іхняе жыццё, калі б не абраз. Божанька і Божая Маці дапамаглі выжыць усяму нашаму роду…

…Калі памерла мая бабуля, я ў Палтаве адчула, што абраз кліча мяне. Забрала яго з пустой асірацелай хаты ў Сястронках, павесіла на сцяну ўжо ў сваім доме. Калі глядзела на Святыя Лікі, у першы момант нават галава круцілася: цёмныя, нібы прытрушаныя пылам часу, Ісус і Багародзіца выпраменьвалі цяпло…

* * *

— Ну вось, памаліліся і добра, цяпер можна ісці глядзець, як таньчыць сонца, — сказала баба Мура і зірнула ў мае вочы. У гэты момант я адчула, як дабрыня Багародзіцы з карых вачэй бабулі ўліваецца ў маё сэрца, і гэтае сэрца становіцца такім вялікім, што можа ўмясціць у сябе і бабулю, і нашу хату, і двор, і царкву, і цэлую вёску, і ўсю маю Радзіму з яе птушкамі і дрэвамі, жытам і васількамі…

Мы стаялі на ганку і глядзелі, як над лесам узыходзіць сонца. Яно пяшчотна кранalася верхавінаў дрэў, і яны хі-

сталіся туды-сюды, нібыта ў танцы. Вакол сонца гарэў арэол, які нагадваў мне німб на абразах…

— Вясёлка, глядзі бабуля, якая вакол сонца вясёлка! — крычала я і падскоквала, як маладзенькае казлянятка, толькі б даўжэй бачыць гэткае дзіва. Тады бабуля ўзяла мяне на рукі, і разам з ёй я стала нашмат вышэйшай. Проста над лесам я пабачыла сонечную дарогу, якая ідзе за гарызонт, і няма ёй ні канца, ні краю…

## Каса

Баба Матрона ў сваім дзяцінстве не была надта прыгожай, але ніводная з яе сяброўак не мела такой доўгай касы, ёю дзяўчынка ганарылася больш, чым іншыя ганарацца сваёй красой. Мура лічыла касу таемным скарбам, але пра гэта не гаварыла нікому, каб не сурочыць. На святы яна расчэсвала цёмныя, прахалодныя на дотык, нібы крынічныя струменьчыкі, валасы, уплятала ў косы чырвоныя і белыя атласныя стужачкі, апранала найлепшую сукню і ехала з бацькамі на кірмаш у горад. На хлопцаў Матрона ўжо пазірала, але здалёк, саромелася старэйшай сястры і матулі. Ну якая яна дзеўка ў свае чатырнаццаць год? Так, сцяблінка…

Матрона жыла з бацькамі, старэйшымі братамі і сястрой на хутары, які з усіх бакоў агартаў кашлаты яловы лес. Можа, цераз гэты лес у хаце хутка цямнела, асабліва восенню. Зазвычай усе родныя клаліся спаць рана, гадзін у восем вечара, а Мура яшчэ доўга сядзела з нейкай кніжкай каля акна, а потым запальвала свечку і пад гэтае няпэўнае міргатлівае святло ўяўляла сябе пасярод тых падзей, нібы грала на сцэне. Пад гэтыя мроі Мура пачынала драмаць, каб потым прачнуцца з першымі праменьчыкамі сонца, недарма кажуць: хто рана ўстае — таму Бог дае. Каб не галадаць, купіць сабе нешта прыстойнае, зрабіць сякія-такія прыпасы на зіму, усім у сям'і даводзілася шмат працаваць. Раней Дударэнкі лічыліся спраўнымі гаспадарамі, а пасля рэвалюцыі іх пачалі называць кулакамі, пагражалі, што забяруць у калгас усю іхнюю худобу для агульнага карыстання. Бацька не хацеў запісвацца ў калгас, які, на яго думку, складаўся насамрэч з лайдакоў.

— А што такое кулак? — разважаў бацька Даніла. — Гэта не калі ўсе роўныя, а калі ўсе родныя, як пальцы трымаюцца адзін аднаго. Той лапік зямлі, што мы маем, ён жа… як і хлеб, прасякнуты нашым потам, потам дзядоў. Таму і родны, і дарагі… А ў калгасе… што там роднае? Гэта як адзенне з чужога пляча…

У нядзелю, яшчэ да золку, Матроніны бацькі запрэглі каня ў калёсы і паехалі на базар у Полацк. З сабой узялі старэйшых дзяцей, а Матрону пакінулі дома за гаспадыню. Дзяўчынцы трэба было падаіць карову, накарміць свіней і курэй, згатаваць есці, вывесці Зорку пасвіцца, пакуль яшчэ траву не падмарозіла, дзякуй Богу, сёлетні кастрычнік худобу шкадуе. Усю сваю гаспадарку Матрона ведала на памяць, бо з шасці гадоў дапамагала бацькам: і ў хаце, і на гародзе, і ў полі. «Вось бы яшчэ паспець збегаць у лес па грыбы, падсмажыла б на вячэру, — думалася Матроне, — бацькі б парадаваліся…»

Яна варыла бульбу свінням, калі ў двор, на падводзе, запрэжанай параю коней, прыехалі незнаёмыя людзі — жанчына ў чырвонай касынцы і двое мужчынаў у скураных куртках. Ад аднаго пагляду на тых незнаёмцаў веяла лютым холадам, Мура аж здрыганулася. Нават не прывітаўшыся, пачалі распытваць пра бацькоў — куды паехалі, навошта, калі вернуцца… Паводзілі сябе, як гаспадары: заглядалі ў свіран, адрыну, заходзілі ў хату, лазілі на гарышча, нешта запісвалі…

— Што вам тут трэба? — спытала Матрона, і голас яе задрыжаў ад хвалявання.

— Будзем у вас дабро канфіскоўваць. Ленін сказаў дзяліцца, а вы тут… жыруеце, — са з'едлівай усмешачкай вымавіла жанчына і, адштурхнуўшы Матрону, зайшла ў хлеў, адвязала карову, вывела на падвор'е. Зорка, павярнуўшы галаву ў бок Матроны, сумна замычэла, нібы адчула нядобрае, і ў яе вільготным воку заблішчэла слязіна.

— Як вы можаце?! Гэта злачынства! Карова не ваша, а наша! Не аддам! — дзяўчынка рашуча ўхапілася за Зорчыны рогі…

— Таварышы, дзе вы там х… грушы акалачваеце? Адчапіце ад мяне шчанючку, замінае працаваць! Ё… — жанчына хрыпла выялася, сцёбнула Матрону па спіне вяроўкай, якой намагалася абматаць Зорчыны рогі, бо карова вырывалася. Да гэтага часу мужчыны палілі на ганку, нібы не збіраючыся прадпрымаць рашучых дзеянняў, але, пачуўшы загад камісаршы, мабыць, жанчына была сярод іх галоўнай, увобміг кінуліся да Матроны. Дзяўчынка вырывалася, крычала, кусала мужчынаў за рукі. Тады адзін, маладзейшы, схапіў яе за касу і пацягнуў да плота.

— Сапраўды шчанючка, ё… глядзі ты, Хведар, яшчэ й кусаецца. Такіх трэба садзіць на ланцуг… Зараз прывяжу малую сучку да плота, няхай сядзіць тут замест сабакі, свой гаўняны двор ахоўвае…

«А дзе ж гэта наш Шарык, чаму яго не чуваць?» — падумалася Матроне, і раптам лес абрынуўся на яе сваёй ратавальнай чарнатой, праглынуў усё, што дзяўчынка бачыла перад тым, а найперш люты, прыгожы твар з блакітна-вадзяністымі вачамі…

Ад жаху, болю, абразы Матрона страціла прытомнасць, а калі ачуняла, у двары ўжо нікога не было. Паўсюль валяліся нейкія анучкі, раструшчаная мэбля, шкло. Каля будкі ляжаў задушаны Шарык. Дзяўчынка паспрабавала падняцца з зямлі, але не змагла. Яе прыгожая доўгая каса была наматана на штыкеціну драўлянага плота, для надзейнасці перавязана вяроўкай.

«Няўжо гэта людзі?… Яны ж горшыя за звяроў… — Жах павярнуўся да Матроны, зазірнуў у твар ваўкалакам, прабег па хрыбетніку ледзяным ветрам. Толькі думка пра родных — дзе яны, што з імі — змусіла дзяўчыну не страціць прытомнасць зноў. «Што рабіць?.. Што рабіць?.. А раптам гэтыя пачвары зноў сюды вернуцца? Трэба ўцякаць у лес, неяк ратавацца… Як вырвацца адсюль, як адвязацца ад плота?..» Матрона пабачыла разбітую бутэльку, вось бы дацягнуцца. Нарэшце ўдалося падчапіць вялікі асколак… «Нарэшце… Вось… Гэта будзе мой ножык…» Матрона шкуматала, пілавала аскепкам шкла сваю касу і вяроўку, па далонях, аж да локця, цякла кроў, капала на траву, і ёй здавалася, што гэта

яе дзявочая прыгажосць плача крывавымі слязамі. Падсвядома, голасам спрадвечнага звярынага інстынкту, яна разумела тую ваўчыцу, што перагрызае ўласную лапу, каб вырвацца са сталёвых кіпцюроў пасткі…

…Два дні Матрона хавалася ў лесе. Дзяўчынка баялася вярнуцца дамоў і зноў пабачыць тых жахлівых незнаёмцаў, якія разбурылі яе звычны шчаслівы свет. А калі, здранцвелая ад холаду і голаду, усё ж вярнулася на хутар, сядзіба сустрэла яе хатай-пусткай, выбітымі вокнамі, паламаным плотам. Бацькоў, братоў і сястры нідзе не было. У двары яна не пабачыла аніводнай жывёліны, акрамя пеўня з перабітым крылом. Певень хадзіў па двары, як паранены камандзір знішчанага войска, і толькі круціў галавой: «Дзе я, дзе я, дзе я?» Матрона адчула, што ў гэты момант, на гэтым спляжаным лапіку роднай зямлі для яе не існуе істоты даражэйшай за гэтага пеўня-інваліда… Прадонне зірнула Матроне ў вочы, і некалі дарагое, роднае, дзяціннае раптам стала чужым і незнаёмым. Каля плота, скруціўшыся агіднай вужакай, ляжала яе дзявочая каса.

## Вочы сэрца

Скончылася кіно. Ідзём з бабай Мурай з клуба, толькі снег пад валёнкамі парыпвае — з вечара добра падмарозіла. Наперадзе бягуць нашы цені — бабулін і мой, даўжэйшы і карацейшы. Цені такія хуткія, што мы за імі не паспяваем.

— Вось так і жыццё, — разважае бабуля. — Жывеш сабе, а яно бяжыць, як твой цень, заўсёды наперадзе. Толькі ўчора, здаецца, была маладухай, а ўжо і спіна крукам, і валасы пасівелі… Зазірну ў люстэрка, ці ж гэта я? Сама сябе не пазнаю… Вось табе і смешкі з бабінай плешкі… Не паспела нажыцца, а ўжо і паміраць трэба…

— Ды што ты, баба Мура? Ты яшчэ дваццаць пяць гадоў пражывеш! — упэўнена цакачу першае, што прыйшло ў галаву, бо ў параўнанні з маімі пяццю дваццаць пяць гадоў здаюцца вечнасцю. — Зараз, бабулечка, даганю твой цень, і пачнеш жыць спачатку!

Бягу з бабуліным ценем навыперадкі. Ад мяне, шэльма, не ўцячэш, яшчэ трохі — і злаўлю цябе, зацугляю!.. Дабег-

шы да ліхтара, спыняюся, крута разварочваюся і, раскінуўшы рукі, лячу назад, да бабулі, лобам уразаюся ў яе выходную заінелую плюшаўку. Мая шэрая шапка ляціць у снег, але я гэтага не заўважаю, бо моцна прыціснулася да бабулі. Мне хочацца, каб яна жыла доўга і больш ніколі не думала пра тое жахлівае…

— Ластаўка ты мая дарагая… — Бабуля падымае шапку, абтрушвае снег, надзявае на маю спацелую галаву, завязвае шнурочкі пад горлам. Яе вочы становяцца вільготнымі. «Толькі не плач, баб Мура, толькі не плач», — паўтараю ў думках. Бабуліны слёзы я не проста бачу — адчуваю, нават у цемнаце, нават калі свае вочы заплюшчваю. Мне здаецца, што недзе глыбока ў сэрцы ёсць іншыя вочы, якія бачаць лепш за звычайныя і значна далей…

— Баба Мура, а ці ёсць вочы ў сэрца? — пытаю і ўжо наперад ведаю адказ, бо зашчыпала так, нібы мыла ў вочы патрапіла. Такая пяшчота раптам агарнула, што нават снег пад нагамі пачаў раставаць, і птушкі заспявалі, і вясна прыйшла… Вось што зрабілі чароўныя вочы сэрца!

…Пасля той размовы мая бабуля пражыла амаль 25 год. Бываюць такія моманты: скажаш нешта — і як маланкаю спаліць, усё збудзецца… Апошні раз я пабачыла бабулю, калі прыехала да свайго дзядзькі Івана ў Зялёнку, ён даглядаў знямоглую маці. Настаў момант, калі бабулю зусім перастала цікавіць жыццё. Яна ляжала ў сваім невялічкім светлым пакойчыку, сухенькая, маленькая, як дзяўчынка, і проста глядзела ў столю. Што яна ўспамінала, пра што думала?.. Я праглынула здрадлівы салёны камяк у горле і загаварыла з ёй:

— Бабуля, гэта я, твая ўнучка Іна, да цябе ў госці прыехала…

Баба Мура нічога не адказала, нават галаву ў мой бок не павярнула. Яна знаходзілася недзе далёка ад мяне — у сваім дзяцінстве, юнацтве, маладосці… Прычасала яе сівыя змарнелыя валасы рудым касцяным грэбнем, узяла руку ў сваю, як птушачку. Бабуліна далонька была такая лёгкая і празрыстая, нібы парцалянавая, і сонейка скрозь яе прасвечвала…

— Гэта ты, Аля? — нечакана спытала ў мяне бабуля. Мабыць, у тым залюстраным свеце яна пабачыла сваю дачку, маю маму. Магчыма, яе рука ў гэты момант гайдала калыску… Усе часы для бабулі зліліся ў нешта адзінае, і якая розніца, дзе пачатак і дзе канец таго адвечнага вяртання-развітання… На стужцы жыцця дзяўчынка Матрона дагнала свой цень.

## Іванька малодзенькі

1.

Лета. Лаўлю апошнія промні дня. Сонца павольна садзіцца за лесам. Яшчэ адзін дзень скончыцца, пяройдзе ва ўспамін, стане мінулым. Калі я думаю пра сённяшні дзень, найперш успамінаецца падарожжа ў лес. Можа, і занадта сказаць — падарожжа, проста гуляла пад вечар, як звычайна, а тут — падарункі, сардэчныя, мілыя… Падарожжа… Нешта дарагое ёсць у гэтым слове… Дарагая дарога. Няхай будзе падарожжа…

«Дубочак зялёненькі, Іванька малодзенькі…» Да кожнага дубочка ў сасновым лесе хочацца дакрануцца і заспяваць гэтую просценькую, вядомую з дзяцінства песеньку. Ёсць у ёй нешта шчымліва-роднае. Можа, яе спявалі мае бабуля з матуляй? Перагукваюся з імі…

2.

У нашай сям'і было аж два Іваны — дзядуля і дзядзька, дзядзя Ваня, як я яго называла. Гэта ён — «Іванька малодзенькі», бо добра памятаю яго маладым… Дзядзя Ваня нечым нагадваў мядзведзіка — добры, нешматслоўны, як і дзядуля, трохі нязграбны. У дзядзькі былі пшанічнага колеру густыя валасы і вялікая галава, нават шапку патрэбнага памеру не проста было купіць. «Гэта таму, што дзядзя Ваня вельмі разумны, бо ведае не толькі нашу мову, але і звярыную. Ён працуе веты… вета… адным словам, доктарам Айбалітам, во!» Гэта я маленькая кажу, як бы за кадрам. У маёй ранішняй свядомасці казкі спляталіся з рэчаіснасцю, і я ўяўляла свайго дзядзьку то Іванам — каровіным

сынам, то Іванам Царэвічам. Каб стаць Іванам Царэвічам, дзядзьку патрэбна было пралезці праз вуха нашай каровы Малышкі. Гэта, зразумела ж, адбывалася ноччу, калі ўсе спалі. Аднойчы я прачнулася сярод ночы і пабачыла, што ў хляве гарыць святло. Хацелася пайсці паглядзець, што там адбываецца на самай справе, можа, тады і пабачыла б тое пераўтварэнне… Але ёсць рэчы, якія нельга пабачыць, падглядзець, бо знікнуць чары… А дзіва такі адбылося — у Малышкі нарадзілася цялё. Мой дзядзя Ваня палову ночы нашай кароўцы дапамагаў. Я не адыходзіла ад цялятка некалькі дзён, гадавала соскай з бутэлькі, як маленькага, бо ў Малышкі спачатку зусім не было малака. «Гэта ад стрэсу, — патлумачыў дзядзька Йван, — бо першыя роды». Я не ведала, што такое стрэс, але гладзіла цялё па вялікай цёплай галаве з белай зорачкай на лобе і думала: «Дык вось хто каровін сын на самай справе!» Казка перацякала ў жыццё, якое было не менш цікавым…

3.

У бабулінай і дзядулевай хаце шмат карцін. Вядома, не арыгіналаў, а рэпрадукцый, ды яны мяне ўсё роўна зачароўвалі, нібы былі пераходам у свет фантазіі, акном у казку. «Незнаёмка», «Дзеці, якія хаваюцца ад навальніцы», «Іван Царэвіч на шэрым ваўку». Стоп! Дык гэта ж мой дзядзька Йван! На гэтую карціну я магла глядзець, як заварожаная, колькі заўгодна часу, уяўляла сябе царэўнай на руках у Іванькі малодзенькага. А воўк на карціне хоць і вялікі, зубаты, ды зусім не страшны. Дзядзя Ваня ведае мову звяроў, яму лёгка з ваўком дамовіцца, яны нібы браты па крыві. І хоць лес навокал густы і страшны, мне весела: мы з Іванькам малодзенькім скачам у чароўнае трыдзявятае царства, дзе ніколі не будзе бяды і суму…

4.

Дзядзька Іван скончыў ветэрынарны інстытут у Віцебску, гэта пасля арміі ўжо, дзе ён служыў танкістам. Ёсць нават фота — дзядзька ў шлеме на танку. Больш пра армію я нічога не ведаю. Таму і распавядаць не буду. Дык вось. Амаль адразу пасля інстытута дзядзя Ваня ажаніўся. Прывёз у

Сястронкі чарнавокую красуню Марыю, Маню, так мы ўсе яе называлі. Маня прыехала ў Сястронкі са сваімі братамі. Гэта, мабыць, ужо было іхняе з дзядзькам Іванам вяселле, адзін з першых маіх успамінаў. Вось і фота такое ёсць — мы стаім каля веранды, побач шмат вясёлых родзічаў і моладзі, а я зусім малая, гады тры-чатыры ўсяго… Дзядзька Косця, Манін брат, быў чарнявы, каравокі і кучаравы, як і яна, і страшэнна мне падабаўся. У цёцю Маню я таксама закахалася з першага погляду, яшчэ раней. Вядома ж, брат і сястра не звярталі на мяне ніякай увагі, таму я лазіла пад вясельным сталом, дзе маладыя і госці сядзелі радочкамі, як кветачкі на ручніку, і непрыкметна шчыпала ўсіх за ногі. Цёцю Марыю шчыпаць было весялей, яна смешна войкала, глядзела на дзядзю Ваню і рабіла выгляд, што не разумее, хто гэта зрабіў. Тады мама выцягвала мяне з-пад стала, трохі ўшчувала, але не моцна, бо потым ласкава пытала: «Што ты будзеш есці, Іначка?» Ну вось, нарэшце хоць нейкай увагі дачакалася…

Ноччу моладзь спала на падлозе покатам, бо ложкаў і канапаў на ўсіх не хапала. Дзяўчаты з хлопцамі шапталіся, валтузіліся, жартавалі, дзяўчаты пішчалі, і я не магла заснуць, прасілася на падлогу, але матуля мяне, вядома ж, не пускала, хоць і ўклаліся мы непадалёк, на бабуліным ложку за шафай. «Вось і стаў мой дзядзька Іванам Царэвічам… — думала я, засынаючы. — Будуць цяпер з Маняй жыць у трыдзявятым царстве доўга і шчасліва…» Ці сталася так, як мне марылася, ці былі сужэнцы шчаслівымі? Няхай будуць, бо я так хачу!.. Потым у дзядзькі Івана і цёткі Марыі нарадзіліся дзяўчаты — спачатку Святлана, а потым Аксана, мае стрыечныя сёстры. Ды гэта ўжо іншыя ўспаміны, іншая гісторыя…

## Ахоўнік памяці

Дзядзька Іван — ахоўнік нашай сямейнай памяці. Ужо не памятаю, калі ў яго з’явіўся фотаапарат «Зеніт» у карычневым скураным футляры, магчыма, дзядуля падараваў, ці нехта з яго сяброў. Гэта не істотна, галоўнае, што дзякуючы дзядзьку ў нас засталося шмат фотаздымкаў часу майго ма-

ленства… Вось ляжыць смешнае лупавокае немаўлятка ў сарочачцы навырост, кулачкі да грудзей прытуліла, нажаняткі крыж-накрыж. Няўжо гэта я? Няўжо гэта той пачатак, які мяжуе з небыццём, і дзяўчыначка на фота яшчэ чуе анёлаў, вунь як шчасліва ўсміхаецца, не ведае, што наперадзе столькі ўсяго рознага, не заўсёды радаснага і шчаслівага. Анёлы ведаюць, але маўчаць…

Вось я трохі падрасла. Стаю з катом Васькам на руках каля гасцявога ложка з накрухмаленым падзорнікам. Ложак высокі, з пуховай пярынай, каб мне туды залезці, трэба ўслончык падстаўляць, і там, на гары, я буду ўяўляць, што сяджу на воблаку… А кот Васька такі вялікі, як палавіна мяне. Абхапіла яго пад пярэднія лапы, а заднія — амаль да падлогі дастаюць. Трымаю моцна, хоць і цяжка мне, а кот хоць бы што, ні мур-мур, значыць, не баіцца, давярае, бо я яму нібы матуля… Цераз некалькі дзён Ваську саб'е машына, я нават плакаць не змагу, толькі буду хапаць ротам паветра, як рыбіна, выкінутая на бераг, так мне будзе балюча… Мы з татам пахаваем ката, і я буду ўспамінаць свайго сябра ці не штодзённа: «Вось жыве Васька недзе ў сваім каціным раі і ў вус не дзьме, не ведае, як я па ім сумую…» Ды слязамі рады не дасі. Каб неяк зменшыць той сум, тата падаруе мне Чарныша, кацяня выскачыць з татулевай кішэні, як чарцяня з табакеркі…

А вось мы з бабуляй сядзім на ганку каля нашай хаты. Плота яшчэ няма, яго пазней паставяць, і знікне тая прастора за нашымі спінамі, дзе праглядаецца куточак вёскі з хатай Алега і Вадзіма… Мы з бабуляй у вясёлых паркалёвых хустачках, нібы сястрычкі — старэнькая і маленькая. Я ў байкавай сукенцы з круглым каўнерыкам, цёмных нагавіцах да каленяў і тапках на босыя ногі. А на правым тапку — дзірка, з яе вялікі палец вызірае: «Хру-хру, прывітаннейка!» Часам вясковыя хлопчыкі дражняць мяне Інка-свінка, я крыўдую і нават у бойку кідаюся, бо не ведаю, што хлопцы, якія дражняцца, хутка падрастуць і пачнуць у мяне закахвацца. Вось і фота таго часу — мой дзень народзінаў. Мы з Алегам абняліся, а Вадзім з Ігарам цераз стол на нас хітранька паглядаюць, можа, бачылі, як мы цалаваліся, калі

гулялі ў хованкі. Тады Алег прызнаўся мне ў каханні, а Вадзім так і не наважыўся, бо дужа сціплы, да таго ж малы — на два гады малодшы за нас з Алегам. Калі мы вырасцем, жыццё раскідае нас па розных краінах, і я ўжо ніколі не пабачу хлопцаў, даведаюся толькі, што Алег стаў урачом-хірургам, а Вадзім — міліцыянерам. Што з Ігарам, які яго лёс? Не ведаю. Мабыць, і не здагадваецца, што ўспамінаю пра яго з цеплынёй…

А вось фотаздымак, можна сказаць, гістарычны. Ён зафіксаваў момант, калі дзядзька Міхась прыйшоў з войска ў адпачынак. Мы з мамай сядзім у фатэлі з круглай лакіраванай спінкай, а дзядзька стаіць за намі, паклаў рукі на матуліны плечы. Я ганаруся такім прыгожым дзядзькам, ён у вайсковай форме з іголачкі, на грудзях — знакі выдатніка службы, на поясе — рэмень з бліскучай бляхай. Толькі чаму я ў валёнках і цёплай кофце? Мабыць, у хаце халодна. Пра свята гавораць толькі прыгожыя банты ў маіх касічках ды маміны нафарбаваныя вусны. Матуля карыстаецца памадай толькі «на выхад», зразумела, што здымкі не абы-якая нагода навесці красу… Дзядзя Міша прыйшоў з арміі — у хаце свята! Бабуля напякла пірагоў, дзядуля дастаў з лёхаў віно-слівянку, дзядзька Іван падабраў ужо лепшыя пласцінкі на вечар. Вунь яны ляжаць акуратным стосікам каля радыёлы. Колькі ж тут дзядзьку Міхасю год? Мабыць, не больш за дваццаць. А мне — тры з паловай. За некалькі хвілінаў да здымак я прызналася дзядзьку, што ўжо ўмею лічыць да дзесяці.

З дзядзькам Іванам фотаздымкаў амаль няма. Ён, як і большасць фатографаў, не любіць здымацца. Шырокі ў плячах, высокі, ён дужа мне нагадвае Іллю Мурамца з вядомай карціны. А працуе Айбалітам: кароў лечыць і розных іншых жывёл. А фатаграфаванне — так сабе, хобі, як кажа матуля. Дзядзька Іван стварыў сабе фотакуточак у прылазніку нашай лазні і там варожыць над здымкамі. Часам і мяне з сабой бярэ, не дужа ахвотна, ды куды мяне падзець, калі ў вочы заглядаю ды на шыі вісну лісічкай-сястрычкай: «Дзядзечка, родненькі, ну калі ласачка…» І там, у цішы прылазніка, я назіраю сапраўднае дзіва: на вільготнай паперы

ў ванначцы з ружовай вадой павольна з'яўляюцца людзі, фрагменты будынкаў, дрэвы, вёсачка Сястронкі… Усё, што засталося ў мінулым, пераходзіць у гэта імгненне, а потым у будучае — родныя твары, вочы, усмешкі, паварот галавы, спадзяванні…

Перакладаю стосік фотаздымкаў, нібы гартаю старонкі кнігі жыцця, якую напісаў нехта вялікі там, на сёмым небе, куды не дабегчы і не даляцець… Вось чыёсьці вяселле. Дзяўчаты сядзяць на лаўцы. Красуні, аж свецяцца: шыньёны па модзе, кароткія крымпленавыя сукенкі, туфелькі на высокіх абцасах. Вясёлыя, смяюцца-залiваюцца… Хлопцы з чубамі з-пад фартовых кепак набакір стаяць трохі наводдаль, робяць выгляд, што дзяўчат не заўважаюць, а самі чакаюць не дачакаюцца, калі ж дзед Васіль пачне іграць на сваім трафейным гармоніку. Заграе Васька-гарманіст, і хлопцы пачнуць запрашаць дзяўчат на танец… і закахаюцца… і згуляюць вяселле… і народзяцца ў іх дзеці… і будзе яшчэ шмат усяго рознага, чаго я нават уявіць сабе не магу… Ды найбольш хочацца, каб усе яны былі шчаслівымі і праз дзясяткі год. Такімі шчаслівымі, як на гэтым старэнькім фотаздымку, у чароўным імгненні, якое спыніў мой дзядзя Ваня.

## Тры мядзведзі

Мы з дзядзькам Іванам ляжым на сене і глядзім на зоркі. Прыгажосць… Нават гаварыць не хочацца. Я ўдзячная дзядзьку за тое, што ён узяў мяне начаваць у пуню. Бабуля спачатку не пускала, казала, што ноччу я змерзну ці праваліся ў шчыліну на сене, са мной заўсёды нешта трапляецца… Але дзядзя Ваня паабяцаў, што будзе сачыць за мной уважна. Не хвалюйся, бабуля, усё ў нас будзе добра!

Дзядзька Іван — маўчун з маўчуноў, з ім не пагаворыш, як з дзядзькам Міхасём, ды яму і не трэба гаварыць: паглядзіць, бровамі павядзе — і ўсё становіцца зразумелым… Дзядзька накрыў мяне коўдрай да носа, я прытулілася да яго і адразу адчула сябе так утульна і ўпэўнена, нібы мы адно цэлае, а зоркі так блізка, што можна дакрануцца рукой. Дзядзька Іван высокі, шыракаплечы, нечым падобны да

мядзведзя. З аднаго боку ён, вялікі мядзведзь, з другога я, маленькі, а паміж намі — мой плюшавы мядзведзік Міша, і ўсе разам мы глядзім на зоркі… Гладжу мядзведзіка па галаве і думаю: напэўна, ён уяўляе, што я — ягоная маці-мядзведзіца, гэткая ж вялікая і цёплая, як дзядзя Ваня для мяне. Вось ляжым мы на сене, тры мядзведзі, і глядзім на зоры… І раптам…

— Іна, а ты ведаеш, што Вялікая Мядзведзіца — гэта сузор'е, сем зорак? Я табе намалюю яго раніцай, тады ты лёгка знойдзеш яго на небе.

— «Вя-лі-ка-я мядз-ве-дзі-ца», — паўтараю крыху працяжна, каб лепш уявіць сузор'е. Дзядзя Ваня, адкуль ты ведаеш, што я толькі што думала пра мядзведзяў? Падымаю свайго Мішу на выцягнутых руках да неба, і ён на фоне зорак раптам становіцца серабрыстым, нейкім таямнічым, нетутэйшым… і толькі адарванае вуха яго псуе. Мне сорамна перад дзядзькам Іванам, што я не дагледзела свайго сябра, ён жа ветэрынар і добра ўсё бачыць, але тактоўна маўчыць, і я абяцаю сабе, што заўтра ж прышыю мядзведзю вушка, трэба ж яго нарэшце вылечыць…

Ах, як жа на сенніку цудоўна пахне сенам! Успамінаю гарачыя ліпеньскія дні сенакосу, калі дзядуля са сваімі сынамі выходзяць касіць траву. Мы з мамай і бабуляй пакуль толькі назіраем, якія спрытныя нашы мужчыны, як трава падае ім пад ногі духмянымі зялёнымі хвалямі. Усе трое моцныя, упэўненыя ў сабе. Тры дарогі. След на зямлі… У гэтыя хвіліны я нават не заўважаю, што дзядуля на адной назе, што яго пратэз рыпіць пры кожным руху… Вж-жык, вж-жык — і вільготная ад расы трава роўненькімі радочкамі кладзецца на ўзмежак… Дзядзька Міхась крыху адстае ад іншых, бо самы малодшы і спяшаецца. Ён хоча ўсіх абагнаць, трохі мітусіцца… ды я гэтага не заўважаю, ён мне такі мілы і дарагі, як толькі сэрца вытрымлівае… Вж-жык — трава падае пад касой дзядзькі Івана. Я станаўлюся на яго сцежку і сваімі маленькімі граблямі (дзядуля змайстраваў) пачынаю ламаць тугі грэбень травы, дапамагаю рукамі, расцярушваю траву, каб яна хутчэй сохла на сонцы. Тое ж самае робяць бабуля і мама, яны паглядаюць

на мяне, не могуць нацешыцца. Вядома ж, я хутка стамлюся, папрашуся адпачыць пад кустом, але гэта будзе пазней. Пакуль я поўная жадання працаваць нароўні з дарослымі…

— Ой, якая ты малайчына, Інуся, падрастае матуліна памочніца! — дзядзька Іван мяне падхвальвае, а я яшчэ больш стараюся, гэта нічога, што сонца пячэ, рукі станіліся, у носе казыча і чхаць хочацца…

…Успамінаю ўсё гэта пад зоркамі на сенніку на мяжы шчасця, якое яшчэ не ведае, што яно шчасце. Усведамленне прыйдзе пазней, і дакрануцца да таго шчасця можна будзе толькі словам. Усё знікае, акрамя слова ў кнізе жыцця… Можа, гэтыя тэксты аднойчы прачытаюць зоркі, такія недаступныя, далёкія і блізкія адначасова, чужыя і родныя ўсім, хто іх бачыць… Ляжу каля дзядзькі Івана і на мяжы між сном і яваю адчуваю, што буду жыць вечна і тыя, каго я люблю, таксама будуць жыць вечна. Застанецца Вялікая Мядзведзіца і мой плюшавы мядзведзік з адарваным вухам… А зоркі падморгваюць праз малюсенькія дзірачкі ў даху і ні пра што такое не думаюць. Проста назіраюць, як мінулае дакранаецца да будучага на ўскрайку Айкумены дзяцінства, якое яшчэ не ўмее лічыць час.

## Апельсіны

Першыя мае ўспаміны пра дзядзьку Міхася звязаныя з апельсінамі. Цяпер гэтай заморскай садавінай нікога не здзівіш, а ў маім маленстве апельсіны былі страшэнным дэфіцытам. Іх «выкідалі» на прылаўкі пад Новы год, і людзі выстойвалі даўжэзныя чэргі, каб купіць прысмакі да святочнага стала.

Дзядзька Міхась вучыўся ў Маскве і апельсіны прывозіў у Сястронкі пасля чарговай сесіі. Сям'і ў яго яшчэ не было, таму ўся ўвага даставалася мне. Калі я атрымлівала з яго рук доўгачаканыя памаранчавыя сонейкі, то проста захлыналася ад шчасця. Апельсіны пахлі Новым годам, вялікім горадам і… цудам. Так, менавіта, цудам. Дастаткова з'есці хаця б адзін апельсін — і цуд здарыцца, у дзверы пастукаецца! Дзядзьку Міхася я ўяўляла добрым чараўніком, але не

старым суровым дзедам з доўгай барадой, як часта бывае ў казках, а спрытным юнаком — вясёлым і сімпатычным.

Аднойчы дзядзька Міхась прывёз апельсіны за пару тыдняў да Новага года. Наша хата адразу напоўнілася святочным настроем, нібы Новы год ужо пачаўся. Ах, якая смаката гэтыя апельсіны, проста самі ў рот просяцца! Але я, выхаваная дзяўчынка, падзялілася апельсінам з дзядзькам, аж тры долькі яму дала, а тое, што засталося, запіхнула сабе ў рот, і, павольна высмоктваючы духмяны сок, праглынула… Вельмі хацелася з'есці яшчэ адзін апельсін, але ў гэтае ж імгненне я падумала пра тату з мамай — няхай ім будзе прыемны сюрпрыз на Новы год! Падарунак схавала ў надзейным месцы пад ложкам з карункавым накрухмаленым падзорнікам, запіхнула далёка, у самы куток, каб і самой не лёгка было дастаць, спакуса ж. План быў такі: калі мама з татам прыедуць у вёску віншаваць мяне з Новым годам, я іх павіншую першая, пачастую апельсінамі. «Во, якая разумніца, — пахваліла я сама сябе, — скажу, што самастойна, без бабулі і дзядулі з'ездзіла ў Полацак і купіла там кілаграм апельсінаў для сваіх любых бацькоў. Толькі б яны часцей прыязджалі да мяне ў вёску… А так я іх чакаю-чакаю, ніяк не дачакаюся… Вось калі мама з татам пакаштуюць мае чароўныя апельсіны — увесь наступны год будуць лётаць да мяне, як на крылах!»

Кожны дзень раніцай і вечарам, перад сном, я залазіла пад ложак і глядзела, ці на месцы мае чароўныя апельсіны, ці не дабраліся да іх мышы? Не дабраліся, ляжаць сабе жывыя-здаровыя ў папяровым пакеце з намаляваным чырвонай фарбай Дзедам Марозам. Дзень у дзень я хадзіла каля ложка, гладзіла рукой халаднаваты падзорнік, мне вельмі хацелася з'есці хаця б адзін апельсін, ды, натхнёная высакароднай мэтай, я трывала.

Недзе сярод тыдня да мяне ў госці прыйшлі Алег з Вадзімам, родныя браты, якія жылі каля сястронскай сажалкі, непадалёк. Нават не памятаю, калі я пачала з імі сябраваць? Цяпер мне здаецца, што браты былі ў маім жыцці ці не ад нараджэння. Алег — мой равеснік, Вадзім — на два гады малодшы, яны паўсюль з'яўляліся разам, нават апраналі-

ся аднолькава, нібы блізнюкі. Струсіўшы снег са сваёй шэрай шапкі, Алег, як старэйшы, прывітаўся за двух, а поглядам адразу пачаў шныпарыць па хаце — што ў мяне новага з’явілася з часу іхніх апошніх адведзін. Я паказала некалькі новых дыяфільмаў, дзве пласцінкі… «Не густа, — сказаў Алег, — мы ж да цябе тыдзень не заходзілі».

Вось мы перагулялі ва ўсе магчымыя і немагчымыя гульні, пераглядзелі карцінкі ва ўсіх кніжках і… засумавалі. Нехта прапанаваў згуляць у хованкі. Хованкі дык хованкі! Мне выпала шукаць, а братам хавацца. Я доўга лічыла да дваццаці, з усёй адказнасцю намагаючыся не збіцца на другім дзясятку, нарэшце пайшла шукаць братоў. Спачатку зазірнула за печ. Бярозавы венік шоргнуўся са сцяны на падлогу. Кот Васька, які драмаў на цёплай ляжанцы, дзіка завыў і кінуўся мне пад ногі. Здаецца, ён, бедалага, спужаўся болей, чым я…

Працягваючы пошукі, я абышла ўсе зацішныя месцы і куты ў вялікім пакоі, зазірнула пад стол, нават кладоўку не абышла ўвагай. Братоў нідзе не было. «Мабыць, у спальні схаваліся», — падумала я і, пераступіўшы невялікі парожак, рашуча адчыніла дзверы.

Салодкая апельсінавая хваля абдала мяне з ног да галавы, нават у носе заказытала. Слёзы навярнуліся на вочы, бо я адразу ўсё зразумела. Куляй кінулася пад ложак, але было позна. На падлозе валяўся пусты пакет і шкарлупіны, а Алег з Вадзімам дзялілі апошні святочны апельсін. Пароўну, на два кавалачкі.

## Інвалідка

Аднойчы майму дзядулю Івану, як інваліду вайны, да Дня перамогі падарылі машыну з ручным кіраваннем. Яна была невялікая, прысадзістая, чымсьці падобная на хрушча. Яе сінія бакі зіхацелі на сонцы, выклікаючы захапленне і зайздрасць усёй вясковай дзятвы. Я ганарылася сваім дзядулем і яго новенькай машынай. У інвалідную каляску, «інвалідку», як мы яе называлі, магло сесці ўсяго двое дарослых. Дзяцей, вядома ж, больш. Часам мы запіхваліся ў кабіну, як у рукавічку, чацвёра ці нават болей, і дзядуля катаў нас па

колу ў панскім скверыку або па адзінай асфальтаванай дарозе нашай невялікай вёскі.

За рулём я часцей памятаю дзядзьку Міхася, хоць дзядуля і не дазваляў яму браць машыну — вядома ж, які дзядзька «круць-верць», вечна ў яго ўсё ламалася. Дзядуля бярог адзіны транспарт у сям'і, і яго можна зразумець. Міхась кіраваў машынай кепска. Аднойчы ён праехаў з сябрамі на дзедавай машыне так, што потым яе прыйшлося трактарам выцягваць з канавы.

І ўсё роўна мой дзядзька Міхась быў самым лепшым у свеце! Факт. Таму, калі ён прапанаваў мне з'ездзіць у лес па чарніцы, пакуль дзядуля працуе ў кузні, я з радасцю пагадзілася. Дзядулю вырашылі нічога не казаць, каб не хваляваць. Гэта ж ясна: калі ён вернецца з працы, мы будзем ужо дома з поўнымі кошыкамі чарніц. Я ведала, дзе дзядуля хавае ключы ад гаража, таму хуценька прынесла іх дзядзьку Міхасю. Мы лёгка завялі машыну і … толькі нас і бачылі!

Пакуль ехалі па асфальце, усё было выдатна, ды калі звярнулі на лясную дарогу, дзядзька Міша прыкметна захваляваўся. Спрабуючы аб'ехаць ямы і купіны, інвалідка падскоквала, трэслася, гайдалася з боку ў бок. Дзядзька Міхась ад напругі ажно пачырванеў. Раптам ён неяк няўдала крутнуў руль, і мы, не ўпісаўшыся ў паварот, урэзаліся ў раскідзістую сасну. Я трэснулася лбом аб ветравое шкло, яно не разбілася, але гуз на лобе выскачыў вялізны. Было балюча і смешна, я рагатала і раўла адначасова. Памятаю, як дзядзька Міша мяне суцяшаў і прасіў нічога не гаварыць дзядулю. Вядома ж, не раскажу, сябры ўмеюць захоўваць таямніцы.

Усё б нічога, ды пасля ўдару ў дзедавай інвалідцы нешта сапсавалася. Калі дзядзька Міхась спрабаваў яе завесці, машына спачатку чмыхала, потым кашляла, нарэшце хруснула і зусім заглухла. Дзядзька Міша пакалупаўся ў маторы, але гэта не дапамагло. Мы паспрабавалі разам зрушыць інвалідку з месца, але нашых сіл не хапіла.

— Ё-маё! Прыйдзецца бегчы ў вёску і клікаць некага на дапамогу. Можаш, Інка, пакуль пасядзець у машыне, мяне пачакаць, — няўпэўнена сказаў дзядзька Міхась, але я не

пагадзілася. Машыну пакінулі ў хвойнічку на месцы здарэння.

У Алега з Вадзімам, да якіх мы зайшлі ў першую чаргу, у гасцях былі сваякі — дзядзька Пятрусь і цётка Ніна. Яны адразу ж прапанавалі сваю дапамогу. Трое дарослых і трое малых адправіліся ў лес ратаваць інвалідку. Па дарозе да нас далучыліся Ігар з татам і Людка з мамай, а таксама дзед Ягор са сваёй кабылай Серафімай. Па бальшаку на трактары ехаў дзядзька Віталь. Ён спытаў, куды ідзе столькі народу. Прыйшлося і яму расказаць нашу гісторыю…

Калі натоўп ратаўнікоў зайшоў у лес, інвалідкі на месцы не аказалася. Тыя ж хвоі, тая ж дарога, а машыны і след прастыў.

— Спёрлі! Ё-маё! — выдыхнуў дзядзька Міша і, спатыкаючыся аб купіны і карчакі, кінуўся ўглыб лесу шукаць інвалідку. Нашы памагатыя замітусіліся, забегалі, але ўсё дарэмна.

І тут я пабачыла маю сяброўку Жанку з яе матуляй, якія ішлі па лясной сцяжынцы і неслі поўныя кошыкі чарніц. Калі яны параўняліся з нашай галаслівай кампаніяй, натуральна, спыталі, што здарылася і што мы тут усе робім.

— Гэта ўсё цераз нас… Мы з дзядзькам Міхасём паехалі на дзедавай інвалідцы збіраць ягады, ударыліся аб сасну, машына зламалася, а пасля мы яе згубілі… — усхвалявана апавядала я… яшчэ трохі — і зараву ўголас. А Жанка, сяброўка называецца, замест таго каб мяне суцешыць, толькі засмяялася.

— Сіненькая такая машынка, на хрушча падобная? Дык мы яе з мамай бачылі за два павароты адсюль.

Я з усіх ног ірванула ў згаданым кірунку, мне хацелася знайсці інвалідку першай. Вядома ж, гэта была яна, ззяла на сонцы сінім бокам і гора не ведала.

— Дзядзька Міша, ура, я знайшла нашу машыну!

Усеагульнай радасці не было межаў. Мы прывязалі інвалідку да калёс з Серафімай, нехта з дзяцей залез са мной у машыну, іншыя падселі да дзядзькі Ягора. Калі мы заехалі ў вёску, як чорт з табакеркі выскачыў дзядзька Віталь на сваім трактары і перагарадзіў дарогу. Прыйшлося спыніцца.

З кабіны марудна і нехлямяжа, рыпаючы пратэзам, вылез дзядуля. Ён ступаў цяжка, абапіраючыся на драўляны кіёк, які сам сабе змайстраваў. Я нават зажмурылася ад жаху, уявіла, як дзядуля Іван размахваецца гэтым кійком… Эх, бедны дзядзька Міхась! У мяне нават далоні сталі вільготнымі ад напружання. Але любоў да майго старэйшага сябра перамагла страх. Сціснуўшы кулачкі, я рашуча стала паміж дзядзькам Міхасём і дзядулям.

— Дзядулька, ну прабач нас. Гэта я вінаватая, бо вельмі хацела пакатацца, і ключы ў цябе сцягнула таксама я. Калі хочаш ударыць дзядзьку Міхася, пачынай з мяне!

У гэты хвалюючы момант нашы вясковыя памагатыя спачатку ціхенька, а потым усё гучней пачалі смяяцца. Напэўна, побач з дзядулем я выглядала нібы мыш перад сланом, аднак жаданне заступіцца за дзядзьку надавала мне рашучасці. І раптам дзядзька Міхась схапіў мяне на рукі, пасадзіў на шыю, і разам мы сталі нашмат вышэйшыя за дзядулю.

— Тата, я адрамантую тваю машыну, даю слова. Вось Інка не дасць збрахаць…

— Так, дзядуля, мы абяцаем! — падтрымала я дзядзьку Міхася.

— Яны абяцаюць! — паўтарылі Алег з Вадзімам, іх сваякі, Ігар з татам, Людка з мамай і нават дзядзька Ягор з кабылай Серафімай. Так-так, мне падалося, што нават Серафіма заржала і вымавіла гэтыя словы.

— Ладна, я вам веру, — сказаў дзядуля і, нарэшце, усміхнуўся. На самой справе, ён вельмі добры. Проста апошнім часам мы селі яму на галаву. Так кажа бабуля. Няўжо гэта праўда?

## Першы верш

У гэты чэрвеньскі дзень амаль з самай раніцы ішоў дождж. Давялося сядзець дома і сумна глядзець у акенца. Я задумала: калі далічу да ста і па дарозе пройдзе дзесяць чалавек, дождж перастане. Лічыла, збівалася, лічыла, збівалася… Дзясятай па дарозе прайшла баба Враня, і дождж сапраўды спыніўся. А цераз некалькі секунд і соней-

ка выглянула, недарма я веру ў дзівосы! Усё навакол тут жа зазіхацела — трава, лісце, кветкі. Нават цераз шкло я адчула, як духмяна пахнуць званочкі ў нашым палісадніку, як мякка аксамітныя цяжкія чмялі прызямляюцца на ружовую канюшыну…

Ф'юць! Толькі мяне і бачылі дома. Па лужынах, па цёплых лужынах, па траве скачу басанож. Немагчыма спыніцца, калі табе шэсць гадоў. Пырхаю, як няўрымслівая страказа. Якое шчасце, якая радасць! Маё сястронскае лета пахне ліпай. Хочацца не толькі ўдыхаць — піць гэтае паветра вялікімі салодкімі глыткамі, як малако з мёдам. Лета, сонца, пах ліпы кружаць маю галаву, нібы гайдаюся на арэлях між дзвюх бяроз у кругу. Круг — гэта такое месца, дзе дрэвы пасаджаны па колу, можа, яшчэ пан іх садзіў. Сярод гэтых бяроз, кажуць, раней стаяла альтанка і там пілі гарбату панскія дочкі, дзве сястры ў доўгіх сукенках у гарошак… Сястронцы не кажуць «кола», кажуць «круг», і ўсім ясна, пра што ідзе гутарка.

Шлёпаю па цёплых лужынах, сонечныя пырскі ляцяць у розныя бакі, і мне так весела, так прывольна жывецца ў нашай маленькай вёсачцы, якую з пачатку да канца можна прабегчы за дзесяць хвілінаў. Але мне хораша, што вёсачка такая маленькая, як і я, што ўсе тут адзін аднаго ведаюць, і здароўкаюцца па некалькі разоў на дзень. І я здароўкаюся, бо здароўя ўсім жадаю: і бабе Нюры, і бабе Фрузе, і дзеду Ягору, і дзеду Васілю — усім, хто жыве са мной побач на гэтай зямлі…

Асфальт на бальшаку паруе, па ім прыемна ступаць, адчуваючы вільготную цеплыню. Мне хочацца таньчыць пад дажджом, а не сядзець у хаце. Тады б я хутчэй вырасла, як тая півоня, якая толькі ўчора была пупышкай, а сёння ўжо раскрыла свае духмяныя чырвоныя пялёсткі. Нязмушаная, шчырая радасць замілавання жыццём перапоўнілі мяне, як бабулін парцалянавы кубачак з блакітнай кветачкай, і рыфмаваныя радкі паліліся самі сабой…

*Як хораша на вуліцы пасля дажджу!*
*Так! Так! Так! Гэта я іду.*

*Клён развесіў крылы пад акном,*
*Ліпа пахне мёдам і дажджом!*

Маленькім гарэзлівым чарцянём я заскочыла ў хату, закруцілася каля дзядзькі Міхася ваўчком.

— А я напісала верш! Толькі што… Толькі нікому не кажы, дзядзечка, добра? Гэта таямніца…

Прашаптала чароўныя радкі дзядзьку на вуха, нават вочы заплюшчыла ад хвалявання.

— Што? Не можа быць, — здзівіўся дзядзька, аж бровы падскочылі. — Няўжо ты, Інка, сама такі добры вершык прыдумала? Не магу паверыць… Асабліва пра ліпу прыгожа сказана. Не здзіўлюся, калі аднойчы пабачу гэтыя радкі на старонках тваёй кнігі. Напішаш кнігу? Толькі глядзі, і пра мяне не забудзься, напішы, як ты мне свой першы вершык прачытала. Добра?

— Канечне, напішу! Ты ж мой самы лепшы сябар. Толькі дарослым — ні слова, рот на замок. Інакш твае словы не збудуцца. Вось толькі заплюшчу вочы, палічу да дзесяці і загадаю жаданне…

## Мішкава гара

Бягу з Мішкавай гары расставіўшы рукі і веру, што ўмею лётаць. Колькі разоў бачыла, як буслы адрываюцца ад зямлі. Вось так разганяюцца, бягуць, а потым лёгка адштурхоўваюцца і… ляцяць. Нейкія імгненні яны яшчэ перабіраюць у паветры нагамі, як бы не заўважаюць, што ўжо не на зямлі, а ў небе. Птушыныя крылы такія вялікія і надзейныя, што ім і не страшна, я б лётала кожны дзень, калі б у мяне былі такія крылы…

Вось лячу я над нашай хатай…

— Прывітанне, бабуля, прывітанне, дзядуля! Гэта я, ваша крылатая ўнучка…

Лячу і думаю: якая ўсё ж такі маленькая наша вёсачка, нібы намаляваная. Хатка на хатку глядзіць — вокнамі ўсміхаецца. У бабы Фрузы — дым з коміна абаранкамі, значыць, печ топіць і пышкі смажыць. Якія ж смачныя ў яе пышкі

выходзяць, з такой сонечна-карычневай скарыначкай… Адкусіш кавалачак, сакавіты тлушч па барадзе цячэ…

— Баба Фруза, у цябе сёння пышкі з грыбамі ці з мясам? — крычу суседцы з-за хмаркі. Яна галаву задзірае, нешта гаворыць, ды я не чую, няма часу прызямляцца. Лячу далей, няхай пышкі пачакаюць…

Лячу… а пад маімі крыламі — рэчка з дзіўнай назвай Вір. Нават трохі страшна вымаўляць гэтае слова. Рэчка неглыбокая, але цячэнне ў яе хуткае. Таму малым дзецям у Віры купацца нельга, бацькі не дазваляюць, ды мы ўсё роўна купаемся, хаця б паблізу берага, каб дно пад сабой адчуваць… Лячу над Вірам, а поглядам ужо далёка-далёка за нашым лесам… Сястронскі лес лепшы, чым Заенскі, бо весялейшы, не такі густы, і чарніцы ў нас смачнейшыя… Лячу так далёка, што, здаецца, нават вырай вось-вось пабачу, цёплы казачны край, дзе птушкі зімуюць. Але ж цяпер лета, таму птушкі з выраю да нас прыляцелі, гэта іхняя Радзіма таксама.

Бягу з Мішкавай гары, а сама сабе думаю: магчыма, людзі раней былі падобныя да вялікіх птушак, а потым забыліся, што ўмелі лётаць. Нешта ў іх там здарылася, раз забыліся… А можа, вось што… Аднойчы пайшоў дождж, нават зліва. І ліў гэты дождж дзень за днём і ноч за ноччу. Людзі не маглі лётаць, таму што іхнія крылы сталі цяжкімі ад вады і слёз. Людзі-птушкі ратавалі адзін аднаго, сваіх дзяцей, унукаў. Смерць хадзіла так блізка, што некаторыя адчувалі яе ледзяны подых. У людзей-птушак тады было шмат клопату. Не да палётаў… А калі скончыліся дажджы і высахлі крылы, аказалася, што яны развучыліся лётаць. З таго часу памяць пра палёты жыве толькі ў нашых снах і мроях…

Што за дзіва гэтая Мішкава гара! Тут вецер адпачывае. Я нават ведаю, дзе знаходзіцца яго хатка. Ну, не хатка, а палац, ну, не палац, а замак… Але ж ветру не патрэбна столькі месца, колькі чалавеку. Вецер можа проста зачапіцца за галінку дрэва і вісець уніз галавой. Яму галоўнае зазямліцца, бо калі не зазямліцца, то зноў у свае нябесныя вандроўкі рване. Толькі яго і бачылі! Калі я бягу з Мішкавай гары, то

адчуваю вецер тварам. Гэта значыць, што ён пакуль тут, на сваёй радзіме. Толькі на роднай зямлі добра спіцца…

Калі па-шчырасці, то Мішкава гара не такая ўжо і гара, а горачка, не надта вялікая. Зімой мы з сябрамі тут на санках катаемся. Невядома, хто першы ў Сястронках назваў гэты пагорак гарой, і як яна стала Мішкавай, таксама не ведаю. Мне, канечне, такая назва падабаецца, бо адразу свайго дзядзьку Міхася ўспамінаю. А можа, гару назвалі Мішкавай, бо ён тут некага ўратаваў? Уратаваў і маўчыць. Вельмі сціплы герой мой дзядзька… Бягу з гары раскінуўшы рукі… А ластаўкі кружляюць над галавой, і буслы, і жаўранкі, і ўсе іншыя птушкі, якія памятаюць, кім мы былі раней і якое няшчасце з намі здарылася… Можа, яны ведаюць, чаму некаторыя людзі сталі злымі і жорсткімі, чаму зайздросцяць, крыўдзяць адзін аднаго?.. Добра, што ў нашых Сястронках такіх не шмат.

Бягу, бягу з Мішкавай гары… Яшчэ думаю, што на зямлі, а ўжо ў небе…

## Пра каханне

У маім сэрцы столькі любові, што немагчыма яе ўтрымаць. Яна накочваецца хвалямі, накрывае з галавой, потым адкочваецца, а я нібы ляжу на беразе мокрая і не магу зразумець, што ж са мной такое адбывалася… Кахала я суседа Ігара Прыстрэльскага, сяброўку Жанку, Шцірліца, валацугу з індыйскага фільма і нават мульцікавага Маўглі. Аднак больш за ўсіх мне падабаўся мой родны сімпатычны і добры дзядзька Міхась. Каханне было маёй таямніцай, навошта яму пра гэта ведаць?

Аднойчы дзядзька Міхась знайшоў сабе ў горадзе сяброўку і… закахаўся. Прывёз у вёску на агледзіны. Нявесту звалі Людміла. На ёй была светлая сукенка з ядвабу ў дробную кветачку, модны каштанавы шыньён і белыя туфлі на высокіх абцасах. «Прыгожая, — сумна падумала я. — Напэўна, хутка пажэняцца». Я нервавалася так, што мой твар пайшоў чырвонымі плямамі, а на вуснах ўскочыла болька. Каб ніхто не пабачыў майго няшчаснага выгляду, я схавалася ў

шафу. Бабуля і дзядзька па чарзе клікалі мяне снедаць, ды я так і не выйшла. Вядома, яны нават не здагадваліся, што я сяджу ў шафе і плачу, закусіўшы больку на губе і выціраючы слёзы бабуліным байкавым халатам…

Пасля абеду дзядзька Міхась з нявестай пайшлі гуляць. Я ціхенька выслізнула з шафы і, каб мяне не заўважылі, на дастатковай адлегласці пабегла за парачкай следам. Хавалася за кустамі, дзедавым гаражом. Недалёка ад фермы, каля плота закаханыя спыніліся. Я заскочыла ў стары свіран, дзе захоўвалі збожжа, да таго як здарыўся пажар, і прыталілася. З гэтага месца цудоўна праглядалася ўсё наваколле. Падсвядома разумеючы, што раблю нешта дрэннае, саромеючыся сваёй подлай рэўнасці, я назірала за дзядзькам Міхасём і Людмілай, нават не мяркуючы, што буду рабіць далей. Думкі ў маёй галаве раіліся самыя змрочныя… «Як жа я буду далей жыць без дзядзькі Міхася? Вось ён пад’едзе, яны з Людмілай пажэняцца, потым у іх народзяцца дзеці. А я? Што буду рабіць я?! Хто мяне будзе вазіць на машыне, чытаць кніжкі, дарыць апельсіны, каму я пачытаю свае новыя вершы? Дзядуля з бабуляй і тата з мамай — гэта зусім не тое. Яны ўжо даўно дарослыя, ім цяжка мяне зразумець… Эх, дзядзька Міша…» Нехта заварушыўся ў кутку свірна, я ўздрыгнула ад нечаканасці і жаху. Пад самай столлю галавой уніз вісеў брыдкі кажан. «Вось яна, здрада, — падумала я. — Кажан — гэта здрада…» У гэты момант Міша абняў Люду і пацалаваў. Бачыць гэткую карціну было вышэй маіх сіл. План помсты паспеў імгненна. Правёўшы далонькамі па абгарэлай сцяне свірна, потым па шчоках, размазаўшы сажу па твары, я выскачыла са схованкі і такім цудам-юдам панеслася на закаханую парачку.

— Ой, гэта хто такі? — здзівілася цётка Люда.

— Інка? Што ты тут робіш? А мы цябе шукалі-шукалі… — схлусіў дзядзька Міхась.

— Чаму ты такая замурза…

Слова «замурзаная» цётка Люда не паспела дагаварыць, бо я з разбегу ўрэзалася сваёй мурзатай мордачкай у яе прыгожую сукенку, ледзь не збіла з ног, абхапіла рукамі, усё больш вымазваючы сажай. Дзядзька Міша паспрабаваў

мяне адцягнуць, але я прыліпла намёртва. Дзіўна, але цётка Люда не крычала на мяне, а супакойвала. Напэўна, сваёй жаночай інтуіцыяй яна зразумела, чаму я так зрабіла, у адно імгненне. Прысеўшы на кукішкі, пагладзіла па галаве, абцерла мой твар, вільготныя ад слёз вочы…

— Іначка… бедная маленькая дурнічка… усё будзе добра, я абяцаю. Будзеш прыязджаць да нас у госці калі захочаш. Мы з табой абавязкова пасябруем…

А потым мы з цёткай Людмілай мылі запэцканую сукенку ў вялікім бабуліным карыце і разам смяяліся з гэтай прыгоды. А дзядзька Міхась, пакурваючы ўбаку, лагодна, злёгку прымружваючы вочы, усміхаўся. Ён любіў нас абедзвюх. Кожную па-свойму.

## Лазнік

Хадзіць у лазню без дарослых я баюся. А раптам Лазнік украдзе? У яго шурпатыя далоні з барадаўкамі на пальцах, сам увесь зараслы поўсцю, як мядзведзь, і валасы даўгія, да самай зямлі. Калі мы з матуляй мыемся ў лазні, я час ад часу паглядаю ў маленькае акенца на вуліцу. Мне трохі вусцішна: а што, калі Лазніка пабачу? Пакуль мыемся, ён на прызбе сядзіць і на чарацянай жалейцы грае. Толькі мы не чуем, бо нашы вушы закладзены парай, як ватай.

— Ой, мама, зноў мне ў вочы мыла залезла, ой, пячэ! Пацалуй хутчэй! — клічу маму, каб не думаць пра Лазніка. Матуля цалуе мае вачаняты, і на душы становіцца весялей. Яна мые мае валасы сунічным мылам, такім пахучым, што адразу лета ўспамінаю, але пена ўжо напраўду патрапіла ў вочы, хоць я іх сумленна заплюшчвала.

— Ой, пячэ, ой, шчыпле!.. — крычу, і мама зноў цалуе мае вочы. Яна палівае мае валасы з вялікай конаўкі, і на драўляныя дошкі лазні ліецца пахучая вада. Мне ўяўляецца, што з гэтай вады на мокрай падлозе вырастаюць блакітныя кветкі — зязюльчыны слёзкі, менавіта такія, што растуць каля нашага плота па дарозе ў лес. І вось падлога лазні — ужо не падлога, а лугавіна, а драўляныя сцены — не сцены, а жывыя дрэвы. У дрэваў вырастаюць новыя галінкі, на галін-

ках з’яўляюцца маладыя лісцікі, па іх поўзаюць божыя кароўкі…

— Інка, ты збіраешся сёння мыцца ці не? — строгі голас матулі выхоплівае мяне з зялёных прахалодных мрояў і вяртае ў гарачую лазню. Моцныя маміны рукі падхопліваюць мяне пад пахі і садзяць на цёплы, вільготны палок. Сяджу на палку, матляю лыткамі, пакуль матуля мыецца, а потым, нібы ўспомніўшы нешта важнае, ускокваю, станаўлюся на поўны рост.

— Глядзі, мама, на колькі я за мінулы тыдзень падрасла — ужо да столі рукой дакранаюся!

…У лазню мы ходзім кожную суботу, і гэта — маленькае свята для ўсёй нашай сям’і. Днём мужчыны носяць у лазню ваду, паляць печ-каменку. Вады трэба нагрэць шмат, каб на ўсіх хапіла — дзядулю, дзядзьку Міхася і дзядзьку Івана, бабулю, маму і мяне, русявую пырхаўку. Пырхаўкай мяне называе мама, бо я пырхаю, як пташка — вось я тут, а вось мяне ўжо няма, ніхто не пабачыць і не знойдзе… Мужчыны і жанчыны мыюцца асобна, па чарзе. Трэба ўсім паспець памыцца да заходу сонца, бо калі сонца зойдзе, у лазні чэрці мыюцца. Так гаворыць бабуля, але сама ніколі тых чарцей не бачыла. І яшчэ мне дзіўна, чаму неахайнага чалавека называюць брудным, як чорт, калі гэтыя рагацікі так любяць мыцца?..

Ляжу на цёплым палку на жываце, а матуля бярозавым венікам сцёбае мяне па спіне, нажанятах, па гладзенькай далікатнай дупцы — трохі мацней, каб добра адчула бярозавую пяшчоту. Мне не балюча, толькі трохі ласкотна, я смяюся, брыкаюся нагамі. Мама дадае пары, выплюхвае куфаль вады на гарачае каменне, яно сычыць, як вужака, і я проста захлынаюся ад гарачыні, глытаю пар і не магу праглынуць, моцна закашліваюся. Мама пужаецца, падхоплівае мяне на рукі, і, загарнуўшы ў белую прасціну, выносіць у прылазнік. Ох, нарэшце жаданая прахалода… Дыхаецца лёгка, нібыта толькі што на свет нарадзілася. Я абдымаю маму за шыю і раптам пытаю:

— Мама, а калі я нарадзілася, ты моцна радавалася?

— Канечне, моцна. Я вельмі цябе чакала, — адказвае мама, і яе прыгожыя карыя вочы становяцца вільготнымі.

— Чаму ты плачаш, мама, чаму? — Вяду пальчыкамі па дужках яе прыгожых броваў, адкідваю прыліплыя да смуглявага твару цёмныя валасы…

— Я не плачу, дачушка, проста мыла ў вочы трапіла…

Цалую матуліны вочы, як яна цалавала раней мае, але мыльнай вады на вуснах не адчуваю. Вочы салёныя на смак, і я разумею, што гэта напраўду слёзы. Няўжо мама плача ад таго, што ёй балюча ўспамінаць маё нараджэнне?..

— Я плачу ад радасці, што ты, дачушка, вырасла такой вялікай, што, стоячы на палку, можаш дакрануцца да самай столі…

Праз некалькі гадоў, калі я падрасла і пайшла ў школу, мама расказала, што, аказваецца, я магла і не нарадзіцца, што дактары, праз нейкую сур'ёзную хваробу, забаранілі ёй мець дзяцей, што я нарадзілася хваравітай і ў два гады перанесла запаленне лёгкіх… Таму матуля заўсёды хвалявалася за маё здароўе і жыццё…

…Калі б я магла сёння хоць на імгненне перанесціся ў лазню свайго дзяцінства, якое б гэта было шчасце!… Выціраю далонькай маленькае запацелае акенца і… раптам бачу зарослы кудлатай поўсцю твар Лазніка. «Не заплюшчвай вочы, Іначка, не пужайся, проста падміргні яму, нібы свайму добраму знаёмаму», — я нібы чую ўпэўнены і зацішны матулін голас… Смешны, зусім не страшны Лазнік усміхаецца мне ў адказ.

## Храпкі

Калі мне пераваліла за пяць гадоў, я ўпершыню папрасіла ў таты з мамай брацікa ці сястрычку. Да гэтага мне і самой жылося нядрэнна, але прыклад вясковых сяброў змусіў задумацца: чаму я адна ў Сусвеце? У Алега быў Вадзім, у Вадзіма — Алег, у Ігара — Соня. Я ж па-ранейшаму была аднаадзінюткая. Над мудрагелістым пытаннем, адкуль бяруцца дзеці, я доўга ламала галаву, нарэшце вырашыла спытаць у мамы. Яна ў гэты час крышыла капусту для баршчу і, калі пачула мае словы, застыла з ножыкам у руцэ.

— Адкуль бяруцца дзеці?.. М-м-м… А ты, Іначка, хіба не ведаеш?.. М-м-м… Дзяцей у капусце знаходзяць. Вось. Тры-

май храпку, пакаштуй, ведаеш, якая карысная! Вітаміны… Чым больш ты такіх з'ясі, тым хутчэй у цябе брацік народзіцца…

З наступнага дня я пачала зазіраць пад капуснае лісце, і, нічога там не знайшоўшы, цягаць з градкі качаны. Клала іх на дзядулеву калоду для колкі дроў, дзядзькі Мішавым сцізорыкам акуратна выразала сарцавіну, а ўсё, што заставалася, перакідвала цераз плот у агарод бабы Нюры. Шмат качарыжак з'есці я не магла, таму працэс зацягнуўся. Капусная градка лысела паступова, таму бабуля не адразу заўважыла прапажу. Калі залысіны сталі ўжо відавочнымі, яна забіла трывогу.

— Знікае некуды наша капуста, Іван, ты заўважыў? Дзе ж яна?

— А халера яе ведае! — дзядулю было не да капусты, бо чытаў свежую газету.

Абмеркаванне прапажы з Франькай і Уллянай таксама не прынесла карысці. Сяброўкі выказалі версію, што качаны магла пабраць баба Нюра, бо яе ўласная капуста ў гэтым годзе не ўрадзіла.

— Матроначка, гэта точна яна! Памятаеш, як Нюра яшчэ да вайны на твайго Івана паглядала? — развярнула тэму ў нечаканым кірунку баба Франя.

— Во-во, я сама бачыла, як яна Івану пышкі насіла, калі ты ў горад ездзіла, — падхапіла баба Ульяна і падміргнула бабе Франі. Абедзве сяброўкі зарагаталі, закашляліся, нібы слінай ядавітай падавіліся.

«Працягваць гэтую размову маёй бабулі непрыемна», — адчула я нават цераз шчыліну ў дзвярах. Рэпутацыю бабы Нюры трэба тэрмінова ратаваць, яна ж качаны не крала. Тады я рашуча адчыніла дзверы на ўсю шырыню і закрычала:

— Баба Франя, у цябе вароны ў агародзе гарох дзяўбуць, а ў цябе, баба Уля, каровы буракі топчуць!

Не ведаю, паверылі мне бабулі ці не, ды падхапіліся, як квактухі, ірванулі дадому. Калі сяброўкі зніклі, я ва ўсім прызналася бабулі, бо есці храпкі ў мяне ўжо проста не было сілаў. Папрасіла, каб бабуля матулі нічога не казала пра гэтае здарэнне, бо было сорамна…

Брат нарадзіўся неўзабаве пасля таго — усяго нейкія тры месяцы прайшло. Напэўна, чароўныя храпкі ўсё ж спрацавалі! Зімой брат жыў з бацькамі ў горадзе, а вясной, у канцы траўня, яго нарэшце прывезлі ў вёску. Я не магла налюбавацца сваім брацікам. Каравокі прыгажун-баравічок ужо самастойна поўзаў па разасланай на падлозе коўдры, смактаў свой палец і зусім не цікавіўся маімі цацкамі… Мне так хацелася хутчэй паказаць брацiка сябрам, што аж у носе казытала ад нецярпення. Уяўляю, як яны здзівяцца! «А вось мой Андрэйка», — шчаслiва скажу я, і няхай яны тады лопнуць ад зайздрасці…

— Інка, непрыгожа хваліцца! — сароміць мяне матуля. — Не хапала, каб Андрэйка падхапіў нешта ад хлопцаў. Можа, яны кашляюць, хварэлі ж нядаўна… — Матуліны аргументы, як заўсёды, пераканаўчыя. Што паробіш, я ўздыхнула і села маляваць Івана Царэвіча. «Вочы яму намалюю такія ж, як у майго брацiка. Во!»

Брат быў ціхмяным немаўляткам, таму матуля часта пакідала вазок на ганку, няхай хлопчык падыхае свежым паветрам, а сама, пакуль той спіць, мыла падлогу ці рабіла нешта іншае па-гаспадарцы. Ну што б вы зрабілі на маім месцы? Во-во… Хапаю вазок і лячу з двара, каб ніхто не заўважыў. Толькі мяне і бачылі! Але ж я ненадоўга, якіх-небудзь пяцьдзесяць хвілінаў. Мама і апамятацца не паспее, як мы ўжо будзем на месцы. Толькі Андрэя сябрукам пакажу і хуценька назад. Скажу: «Вось, глядзі, мамачка, брацік на месцы, а я, як ні ў чым ні бывала, двор падмятаю. І ніхто мяне пра гэта не прасіў, проста я працавітая дзяўчынка!» З такімі думкамі я весела каціла вазок па асфальце, а брацік ціхенька спаў, нават не здагадваўся, што вязу яго на агледзіны.

Алега і Вадзіма не прыйшлося доўга шукаць, яны каталіся на роварах па бальшаку. Мне карцела пакатацца з імі, свайго веліка тады яшчэ не было, але стрымалася, не папрасіла. Што той велік, цяпер у мяне ёсць брат, ён ужо поўзае і сядзіць, яшчэ трохі — і пачне хадзіць. Во!

— А ў мяне ёсць брат! Вось, палюбуйцеся! Ненадоўга з хаты прыкаціла, каб вам паказаць! — я аж захлыналася ад шчасця.

— Ну і што? — сказаў Алег. — І ў мяне брат. Вадзім.

— Дык ты не разумееш, Алег! Вадзім — твой стары брат, бо ён у цябе даўно, а мой брацік — новенькі. Паглядзі, якія ў яго аксамітныя ружовыя шчочкі, так і просяцца, каб іх пацалавалі! Пакуль ён маленькі, але калі вырасце, будзе мяне абараняць. Няхай толькі нехта паспрабуе пакрыўдзіць — адразу ў лоб…

Я не паспела дагаварыць, бо Андрэй прачнуўся і закрактаў. Ён рэдка плакаў, з дзяцінства быў спакойны і ўраўнаважаны. «Напэўна, усцаўся», — падумала я і паспрабавала нахіліць вазок, каб сцягнуць з малога мокрыя паўзуны. Вазок нахіліўся і перакуліўся прама на мяне. На шчасце, Андрэй, не забіўся, толькі спалохаўся. Усё адбылося вокамгненна, добра, што абапал бальшака расла высокая трава, пасадка апынулася мяккай.

— О-о-о! — сказаў брацік. Напэўна, на яго мове гэта азначала «як цікава…». Андрэй упершыню пабачыў свет на ўзроўні травы. Мне ж не да прыгажосці, трэба вырашаць практычныя пытанні, напрыклад, дзе пасушыць паўзуны. Я пасадзіла Андрэя пад кустом бэзу на ручнік, паклала побач некалькі бразготак, а сама палезла на разлогую бярозу, каб павесіць паўзуны на прасушку. Недзе чула, што вецер на вышыні дзьме мацней, чым унізе… Тым часам Алег падсадзіў Вадзіма ў Андрэеў вазок і як ні ў чым не бывала пакаціў па асфальце.

— Алег! Вадзім! Стойце! Што вы робіце?! Вазок разломіце! — крычала я з бярозы, але браты рабілі выгляд, што не чуюць. Куляй зляцела з дрэва, ды, калі апынулася на зямлі, браты былі ўжо далёка.

— Дурні няшчасныя, зараз жа аддайце вазок! Стойце, кажу вам!

Я бегла за братамі, і злыя слёзы халадзілі мае шчокі. Думкі, як пчолы, гулі ў галаве. «Даўно трэба было вярнуцца дадому… ж-ж-ж. Дурэпа… ж-ж-ж… Мама выявіць прапажу… ж-ж-ж… Брат адзін сядзіць пад кустом. Мама перастане мне давяраць і будзе прыязджаць у вёску яшчэ радзей, чым звычайна. Ж-ж-ж… Агледзіны праваліліся. Вядома ж, я няўдаха…» Думка пра Андрэя, які застаўся без нагляду, ака-

залася галоўнай і вызначальнай. «А раптам сабакі, а раптам цыганы, а раптам браціка нехта пакрыўдзіць?!» Рашуча выцерла слёзы, махнула рукой на братоў, развярнулася і пабегла да Андрэя. Хутчэй, трэба браціка ратаваць!

У той жа самы момант з хаты выбегла матуля, яе твар ад хвалявання пайшоў чырвонымі плямамі. Яна бегла па бальшаку мне насустрач і крычала:

— Дзе Андрэй?! Куды ты яго падзела, Інка?!

Я зрэзала вугал, каб падбегчы да Андрэя першай. Арыенцір — паўзуны, якія гайдаюцца на бярозе нібыта сцяг. Але тут… ё-маё! Андрэя на ручніку няма! Маё сэрца правалілася ў пяты: «Усё. Прапаў! Цыганы ўкралі!» Матуля нават не магла на мяне крычаць, яна сіпела, нібы захварэла на ангіну… Мы разам пачалі шукаць Андрэя… А ён тым часам ляжаў сабе на жываце пасярод паляны з дзьмухаўцамі і ў вус не дзьмуў. Матуля падхапіла Андрэя на рукі, пачала цалаваць, гушкаць на руках. Цяпер мы раўлі ўсе разам, так было весялей. «Эх, і навошта я павезла Андрэя на тыя агледзіны?» — падумала я пра сябе, а ўслых сказала:

— Мама, прабач мне, калі ласка, я болей не буду! Ніколі-нікалісенькі! Мне проста вельмі хацелася паказаць сябрам майго брата… Недарма ж я столькі храпак з’ела!

— Якія храпкі? — здзівілася мама. Ёй нават лупцаваць мяне расхацелася. Гэтыя храпкі былі такімі нечаканымі і недарэчнымі, што ўся яе злосць некуды знікла, як і не было. Мама, мама, ты так нічога і не зразумела. Прыйдзецца табе расказаць, дзякуючы каму Андрэй нарадзіўся. Хаця хваліцца, вядома ж, непрыгожа!

## Помста

У нас была радыёла і шмат розных пласцінак. Мне падабалася слухаць музыку і адначасова назіраць, як круцяцца чорныя бліскучыя дыскі, як па маленькіх баразёнках спяшаецца-вышывае голка. Цуд нараджэння гукаў хваляваў і заварожваў не менш за саму музыку. Папулярныя песні я магла слухаць гадзінамі. Усе гэтыя Амурскія хвалі з ландышамі, чорнымі катамі, Танечкай і заводскімі дзяўчатамі зліваліся ў адну неверагодную гісторыю, дзе я была ды-

рыжорам і спявачкай, галоўнай гераіняй і слухачкай. Мне здавалася, што кожная песня менавіта пра мяне, канечне, не цяперашнюю, а калі ўжо вырасту… У сваіх марах я бачыла горад з чырвонымі дахамі і пеўнікамі на дахах, і там, на плошчы, нейкі чалавек у старамодным капелюшы, дужа падобны да майго дзядулі Івана, стаяў на рагу мінулага, сучаснага і будучага, круціў сваю шарманку аздобленую каляровымі каменьчыкамі. На яго капялюш падаў снег ці дождж, а можа, яго замятала жоўтае лісце. Але ён стаяў і стаяў, а навокал гучала музыка…

Круціцца пласцінка… ідзе жыццё, а між гэтых мелодый і песень непрыкметна вырастаю я. Мне радасна, бо жыццё доўгае-доўгае, кожная яго старонка цікавая, а песня — новая, хоць я ўжо вывучыла шмат якія словы на памяць. Спяваю, спяваю… А яшчэ былі казкі і вершы: «Чырвоны капялюшык», «Папялушка», «Фініст — ясны сокал», «Казка пра мёртвую царэўну і семярых волатаў», «Мыйдадзір», «Доктар Айбаліт» і яшчэ шмат чаго, слухаць не праслухаць. Тэлевізара ў дзядулі з бабуляй на той час яшчэ не было, таму пласцінкі былі маёй адзінай сувяззю з прываблівым, незнаёмым светам, вельмі далёкім ад нашых Сястронак ці Полацка…

Усё б нічога, ды пласцінкі мне даводзілася дзяліць са сваімі дзядзькамі — Мішам і Йванам. Хоць дзядзька Ваня быў трохі старэйшым за Міхася, на танцы ў клуб яны часта хадзілі разам. Напэўна, адчувалі сябе першымі хлопцамі на вёсцы, бо бралі з сабой пласцінкі, а часам і радыёлу. Я шмат разоў прасіла хоць разочак узяць мяне на тыя танцы, ды браты прыдумлялі кучу прычын, каб адмовіць, і, вядома ж, не бралі. Смешныя такія адгаворкі, напрыклад, што я не ўмею танцаваць. Хлусня! Я танцую лепей за дарослых дзяўчат, бо даўно рэпеціругю перад вялікім люстэркам у спальні. Праўда, гэта бачыць толькі кот Васька, ён адзіны мой глядач. Калі ён кажа «мур-мур» два разы, гэта значыць, яму спадабалася, а калі адзін «мур» — то трэба яшчэ папрацаваць…

— Ты маленькая, — кажа дзядзька Міхась, — табе спаць рана трэба класціся, каб хутчэй вырасці. Дзеці — яны ж

ноччу растуць, і чым даўжэй спяць, тым хутчэй вырастаюць…

Гэтая адгаворка мяне найбольш засмучвала: што я, грыб нейкі пасля дожджычка ў чацвер? Няўжо калі я разок схаджу з дзядзькамі на танцы, ну якую-небудзь гадзінку там пабуду, то сон ад мяне невядома куды ўцячэ? Нічога, заўтра сон даганю і высплюся, як след. Ды і не маленькая я ўжо! Хутка ў школу. «А ў школе трэба вучыцца, а не на танцы бегаць», — скажа мне потым матуля. Ну як ім усім растлумачыць, што менавіта цяпер, у пяць год, самы час танцаваць! Я б, вядома, пабегла за Мішам і Ванем без дазволу, яны б гэтага да клуба і не заўважылі, проста… бабуля з імі заадно. Менавіта ў тыя суботнія танцавальныя вечары яна пачынае ўкладаць мяне яшчэ з вечара: казкі розныя чытае, добранькая такая. Нібы я не разумею: усё гэта для таго, каб мяне прыспаць яшчэ да таго, як дзядзькі на танцы пачнуць збірацца. Усе дарослыя аб'ядналіся супраць мяне маленькай! Ну і няхай, я ім яшчэ такое пакажу… Пашкадуюць…

І вось я прыдумала план помсты. Жахлівай і лютай! Такое прыдумала, такое… Я вырашыла памяняць дзіцячыя і дарослыя пласцінкі! Яны то і ляжалі на розных паліцах, чаго прасцей. У канверты з музыкай і песнямі я непрыкметна ўклала свае казкі і вершы. Ха-ха, успомняць дзядзечкі пра мяне, калі радыёлу ў клубе завядуць… Няхай патанцуюць вясковыя прыгажуні пад «Ката ў ботах» ці «Доктара Айбаліта»!

У гэты вечар бабулі нават не прыйшлося мяне доўга ўкладваць. Радуючыся сваім хітрыкам, хаваючы ўсмешку пад коўдрай, я, ужо засынаючы, падумала: «Чытай, бабулечка, казкі, я ўважліва слухаю… А вы, дзядзечкі, шчасліва адпачывайце, скачыце, не стамляйцеся!»

А прысніліся мне тыя самыя танцы. Нібы я ў акно гляджу, як там у клубе ўсё адбываецца. Ой, смешна, спасу няма!

— И вдруг зазвонил телефон…

— Кто говорит?

— Слон.

— Что вам надо?

— Шоколада…

Раптам бачу — дзядзечкі такія разгубленыя стаяць, усе з іх смяюцца, сястронскія мальцы з дзеўкамі пальцамі паказваюць… І да таго мне зрабілася іх шкада, што я заплакала і… прачнулася. Дзякуй Богу, дзядзькі яшчэ на танцы сысці не паспелі. Я з ложка саскочыла, ледзь на падлогу не звалілася, куляй кінулася да шафы і пачала пераапранаць пласцінкі. Калі зайшоў дзядзька Іван і пабачыў гармідар каля шафы, давялося ўсё яму расказаць…

— Вось ваша музыка, — кажу, — танцуйце сабе на здароўе! Не вельмі-то мне і хацелася ісці сёння з вамі…

У наступную суботу адзначалі дзень народзінаў дзядзькі Міхася, і ён паклікаў да нас сваіх сяброў і сяброваў. Вось дык падзея! Танцы самі да мяне ў госці прыйшлі! У гэты вечар ніхто мяне сілком спаць не ўкладаў, і я ператанцавала з усімі сястронскімі мальцамі. А на белы танец запрасіла свайго дзядзьку Міхася. Ён доўга кружыў мяне на руках пад «Амурскія хвалі», я смяялася і адчувала сябе самай шчаслівай дзяўчынкай на свеце. А пра сваю помсту я проста забылася, нібы яе і не было зусім. Дзядзька гушкаў мяне на руках пад цудоўную музыку, а я ўяўляла хуткія дарожкі пласцінкі, нібы бягу па іх босая і — расту, расту.

## Печ

Печ у бабулінай хаце — святло і цяпло. Кранаюся рукой шурпатай белай паверхні, і здаецца, яна дыхае, хукае, адагравае маю змерзлую душу. У хаце пахне зёлкамі, яны прытуліліся на сцяне ў запеччы, пірагамі і хлебам… Ды гэта толькі сон, бягу па яго ўтравелай сцежцы да сябе самой, не магу дагнаць… Сон творыць іншую рэальнасць, пераплятае мінулае з марамі, піша кнігу жыцця, дзе ўсё так яскрава, рэальна, аб'ёмна, як не бывае ў звычайным жыцці з яго трыма вымярэннямі. У сне вымярэнняў больш…

Печ давала жывое цяпло, карміла людзей і худобу, часам была ложкам, найлепш спалася на печы, асабліва зімой на разасланых дзядулевых кажухах. Тады і сны былі цікавейшымі. Часам мне здавалася, што печ можа рухацца і нават лётаць, на ёй можна ездзіць, як на кані, а казка пра Ямелю — зусім не казка…

Калі пад час матуліных зімовых «канікулаў» бацькі забіралі мяне ў горад, там была зусім іншая печ — прыгожая, абкладзеная кафлянай пліткай, але нейкая… чужая. Хутчэй за ўсё гэта была нават не печ, а пліта, і грэла яна толькі адзін пакой, у другім, у куце, прымасцілася нейкае круглае металёвае адаробла: вялікая труба да самай столі, якую чамусьці называлі печчу. Я думала: «Дзіўна, якая ж гэта печ, калі на ёй нельга спаць і пячы хлеб, я ўжо не кажу пра тое, каб лётаць, нават у снах такое цяжка сабе ўявіць». Першыя дні я радавалася, што прыехала ў горад да бацькоў. Мне куплялі розныя цацкі, вадзілі ў парк, але праз некалькі дзён я пачынала сумаваць па бабулі і дзядулю, сваіх вясковых сябруках і пачынала прасіцца ў Сястронкі. Аднойчы мне прыснілася бабуліна печ, што я на ёй лётаю, а дрэвы ўнізе такія сінія-сінія, нібы пад вадой, а мама, там у сне, кажа: «Гэта ж мора, марское царства». Выходзіць, што на печы можа не толькі лётаць, а яшчэ і плаваць…

Я ўжо не магла дачакацца, калі нарэшце вярнуся ў Сястронкі і пакаштую бабуліных бліноў з печы. Дома ўсё нейкае нясмачнае, можа, таму, што мне кожны дзень даюць нашча сэрца рыбін тлушч? Фу, брыдота! А мама гаворыць: «Вельмі карысна, ты ж, Іначка, слабенькая і дрэнна ясі»…

Калі я нарэшце вярнулася да бабулі і дзядулі ў вёску, яны з парога абвясцілі пра свае навіны: у хаце з’явілася новенькая газавая пліта з чырвоным балонам, бабуліна памочніца.

— А як жа печ? — спытала я расчаравана.

Дзядуля ў адказ толькі крэкнуў:

— Гэна… Іначка… разумееш… зручна. Будуць цяпер і печ, і пліта разам есці варыць. Не хвалюйся, пасябруюць!

Газавая пліта з печчу так і не пасябравалі. Бабуля паступова амаль перастала гатаваць стравы ў печы, і я ўсё радзей адчувала пах хлеба. Смажаныя на пліце блінцы ці сырнікі былі не такія смачныя, і я перастала іх чакаць…

Праз шмат гадоў пасля дзяцінства я прыехала ў родную вёску, каб пабачыць мясціны, дзе расла. У нашай хаце ўжо даўно жылі чужыя людзі, але зноў і зноў мяне цягнула да таго роднага, што не забываецца з гадамі, што грэе душу нават у халады. Новыя гаспадары дазволілі мне зайсці ў ха-

ту, ды я там ужо нічога не пазнала. А галоўнае, такое невымоўна-балючае — у хаце не стала печы! Салёны камяк падкаціў да горла, і сінія дрэвы затрапяталі аднекуль з прадоння… А тым часам новая гаспадыня шчабятала:

— Не пазнаяце роднай хаты? Ага? Дык мы тут усё перабудавалі, пачысцілі, мышэй вывелі… а печ выкінулі… ага… Што ёй тут рабіць? Толькі месца займала…

Дзе ты цяпер, жывое цяпло майго сястронскага маленства? Печ, нібы гліняная цацачка, трэснула, разбілася на шмат кавалачкаў, а можа, паляцела ў вырай разам з птушкамі, разам з душамі памерлых маіх бацькоў і дзядоў… Родныя, вяртайцеся хаця б у снах…

## Пуховая хустка з падпалінамі

Голас бабы Матроны гучаў так ціха, нібы прабіваўся праз воўну-завіруху. Я чула толькі асобныя словы, якія не складаліся ў лагічныя словазлучэнні і сказы. Прыслухалася, быццам лавіла патрэбную хвалю нябеснага радыёпрыймача, ды праз мяцеліцу прабівалася толькі нешта аддаленае, незразумелае… «Вочы сэрца… усё галоўнае адбываецца ў дзяцінстве… вяртайся… вяртайся… Маці Божая, Багародзіца, ратуй нас ад слова злога, ад чалавека ліхога, ад вока чужога, ад суроку ляснога… Вечар вужакаю сцелецца… прыйдзе ўсляпую… валёнкі на босыя ногі… халодна… але дойдзеш…»

Ужо дзесяць гадоў я жыла далёка ад вёскі майго дзяцінства, у горадзе паміж лесам і стэпам. Раз у год наведвала радзіму, бачыла бабулю, апошнім часам яе даглядаў дзядзька Іван. Цераз які тыдзень мне трэба было вяртацца дадому, я адрывала сябе ад родных мясцін па-жывому, і гэта было бясконца, па колу, нібы круціўся нябесны калаўрот, дзень за днём, ноч за ноччу пралася нітка майго жыцця. Раней, дзе б я ні была, якія б адлегласці і межы нас ні раздзялялі, я чула бабулін голас, сувязь між намі не перарывалася… А тут нешта здарылася, сапсавалася, нібы вялізны крумкач сваім крыллем накрыў неба маёй бабулі… Што там? Як яна? І дзядзька, як на ліха, не адказвае на мае званкі… «Бабуля, бабуля, дзе ты?!» — гукаю сэрцам у невядомасць. Цішыня,

ні слова ў адказ. І тады я рассцілаю на стале пуховую хустку з падпалінамі на баку (ледзь не спаліла ў дзяцінстве), разгладжваю рукамі паверхню, быццам навобмацак намагаюся адчуць бабуліна дыханне. Гляджу ў акно. Завіруха. І толькі снег навокал…

* * *

Словы «бабуліна дэпрэсія» я пачула ад матулі: яна прыехала ў Сястронкі не на выходныя, як звычайна, а нечакана ў чацвер. Да гэтага бабуля ўжо некалькі дзён ляжала ў сябе за шафаю пад ватнай стракатай коўдрай, час ад часу стагнала і не ўставала. Дзядуля варыў ёй кашу ў бляшаным, яшчэ вайсковым, кацялку, я замотвала кашу шэрай пуховай хусткай (няхай самлее і набухне) і карміла бабулю, як немаўля: «За маму, за тату…» Бабуля адкрывала рот, не жуючы глытала кашу, я глядзела ў яе пагаслыя вочы і не знаходзіла свайго адбітку. Баба Мура мяне не заўважала, нібы драмала з расплюшчанымі вачыма. Дзядуля кpraктаў на ложку за сценкай, праца валілася ў яго з рук. Мы не ведалі, што з бабуляй рабіць і як ёй дапамагчы.

— Ты ж, Божа ж мой, якое гора, якое гора, — паўтараў дзед Іван, калі да нас заходзіў яго сябар Панас Малёваны. — Мурка з ложка не ўстае, другі дзень ляжыць лежма…

— А што здарылася, можа, няшчасце якое? Можа, ты яе, Ванька, нечым пакрыўдзіў, адлупцаваў ці што? Век звекаваць — усяго спазнаць…

— Ды што ты, Панас, здурэў? Я на Мурку за ўсё жыццё слова кепскага не сказаў, не тое каб руку падняць… Учора ранкам яшчэ нічога было, усё, як звычайна: падаіла карову, працадзіла малако, а потым лягла на ложак, сказала, што паляжыць, адпачне, а ў абед не ўстала. Франьку паклікаў, каб карову падаіла… Кухару тут сам, як магу… А Інцы — усяго шэсць гадоў, якая з яе дапамога?

— А ці было такое з Муркай раней? Во гора дык гора…

Мой дзед пачухаў патыліцу, уздыхнуў:

— Было-то было, дык даўно адгуло… ужо забыўся пра тое страшнае… Доўга расказваць…

— А ты паспрабуй, можа, душу адпусціць, лягчэй стане…

— Можа ж… Ды як бы ж… Мурка мая з маладосці гарачая, успыхвае, як запалка, па слова ў кішэню не лезе, а я — маўклівы, ты ж мяне ведаеш. Разумею, пераажываю, толькі выказаць не магу, усё ў душы трымаю… Бывае, такое накоціць, успаміны франтавыя ці нешта яшчэ, душу рве, а маўчу… Розныя мы, разумееш?.. Ай, што там гаварыць, усё жыццё пражылі, а не паразумеліся… Ды не пра тое я, бачыш, як мяне па завуголлях думкаю носіць… Нервы Мурку ўпершыню накрылі, калі Алька за Лёньку замуж выйшла. Памятаеш Лёньку Сцяржанова, першага Альчынага мужыка? Матрона тады яе так прасіла, маліла, на калені падала, каб замуж не спяшалася, каб пахадзілі хаця б як людзі, у вочы адно аднаму паглядзелі… Не! Нічога не дапамагло, Алька ж упартая, хто б там маці слухаўся… А Лёньку праз год у цынкавай труне прывезлі… Мараком быў. Па ўсім свеце матаўся. А яна — усё адна, усё чакае… Дачакалася…

Дзед Іван разрэзаў даланёй паветра, як буханку хлеба, вочы яго асалавелі, навярнуліся слёзы, ды ён стрымаўся, не заплакаў, толькі ўсхліпнуў неяк высока, па-жаночаму.

— Што там, у той Сірыі, здарылася, так да канца і невядома. У порце хімікаты нейкія ўзарваліся, ці што, а Лёнька там аказаўся ў ліхую гадзіну. Цёмная гісторыя… А Мурка ўсё гэта ў сваёй уяве даўно пабачыла. Ну, можа, не ўсё, а труну дакладна пабачыла… Да таго ж Алька за Лёньку не па каханні выйшла, а так, назло Уладзю Мацкову, кавалеру свайму ранейшаму, нешта там у іх не зраслося. Пасварыліся, можа, ці што… Маладыя. Дурныя. Дык Алька ў тое сваё нешчаслівае замужжа, як у ваду халодную, скочыла. «Супраціў сэрца гукае няшчасце», — як вар'ятка паўтарала тады Мурка… Вось жыве ў ёй нейкая таямнічая сіла, нешта такое яна разумее, чаго мы з табой не ведаем і не бачым… Вайну прайшоў, а, верыш, часам бабы баюся, сорам прызнацца… А калі Алька маці не паслухалася, адбылі мы тое горкае вяселле, Мурка нібы інтарэс да жыцця страціла. Не ўставала, не размаўляла ні з кім, есці не варыла… Завезлі мы яе тады ў бальніцу, цэлы месяц не было. Вярнулася дадому, нібы такая, як і раней, толькі ціхая занадта, уся ў сабе, нібы нейкая думка яе грызе і грызе, трымае, не адпускае. А праз год Лёньку ў

труне прывезлі… Зноў нервовы зрыў, зноў бальніца… Потым адышла, забыліся мы, дзякуй Богу, пра тое жахлівае… Цераз два гады Алька за Славіка замуж выйшла, Інка нарадзілася. Пашкадавалі яны аддаваць дзяўчынку ў яслі, хварэла часта малая. Прывезлі ў Сястронкі на выхаванне. У нас тут жа ж малако, мёд, чыстае паветра… Ну, ты ж разумееш… Унучка — наша з Матронай шчасце, за дзяцей так не хваляваліся. Я часам думаю, што Мурка любіць Інку, як Альку недалюбіла. Часам, як забудзецца, унучку Аляй называе, а Інка і не пярэчыць… Добрае дзіця, шчырае… Не разумею, што на гэты раз з Матронай здарылася? Ні з таго ні з сяго… Здаецца, ніякай прычыны не было… Можа, мінулае яе дагнала, а можа… будучае?..

* * *

Глажу бабулю па галаве, ды бачу ў яе вачах толькі гурбы снегу. Нібы нейкая жанчына брыдзе цераз поле па калена ў снезе, і так ёй адзінока, так халодна… Хто гэта? З якога часу? З якога жыцця?.. Вялізны крумкач зляцеў з яліны, закрыў крыллем паўнеба… «Не дзяўбі маё сэрца, крумкач, бяду не прадказвай!» Хто гэта крычыць? Можа, бабуля, можа, матуля, а можа, і я сама, нібы мы ўтрох ідзём цераз поле, а след адзін… Спужалася. Ускокваю, бягу на кухню, дзе абраз Казанскай Божай Маці вісіць у куце. Малюся, як магу, той дзіцячай шчырай малітвай, якая гукае па паўночным беразе, а на паўднёвым яе пачуюць. Не ўмею, а малюся, гавару, што адчуваю, што на душу кладзецца:

— Маці Божая, дабратворная, родная, даражэнькая, маці ўсіх дзяўчатак і хлопчыкаў, уратуй маю бабулю, дапамажы ёй выйсці са снягоў яе смутку, даруй ёй правіну, што не даравала яна маёй неслухмянай матулі, а матулі даруй, што не пачула і не зразумела бабулю. Няхай баба Мура адчуе маю любоў, і няхай гэтая любоў загарне яе душу ў пуховую хустку, захавае ад усіх крумкачоў. Ты памятаеш, найсвяцейшая Багародзіца, як калісьці ў сакавіку, якраз на свой дзень народзінаў я знайшла ў дровах кукалку з вусенем? Два месяцы за ім назірала, хукала ў тую шчыліну, каб вусеню стала цяплей. А потым з кукалкі вылупіўся мятлік…

Я хачу, каб бабуліна душа адагрэлася, як гэтая кукалка, каб ёй хапіла нашага цяпла і любові. І я, і дзядуля, і матуля будзем хукаць на бабуліну душу, каб яна ачуняла і прачнулася… Дапамажы, Багародзіца, прашу цябе… А яшчэ ратуй тую жанчыну невядомую, якую я пабачыла ў бабуліным зачараваным сне. Яна ідзе за сваім родным цераз завіруху, ёй халодна, цяжка, але зрабі так, каб яна дайшла… Даруй ёй і зразумей…

Раніцай бабуля прачнулася вясёлай і бадзёрай, як і раней. Хваробы як не было. Матуля радавалася, што на гэты раз абышлося без бальніцы, а дзядуля, здавалася, гатовы быў скакаць на адной назе, а калі б у яго была другая, пайшоў бы ўпрысядкі. Усе смяяліся, жартавалі, і толькі я маўчала пра сваю таямніцу… А навошта гаварыць, словамі можна парушыць чары… З таго часу я чула бабулін голас, як бы далёка ні была, калі ў сне, а калі і наяве. Паміж намі ўтварылася нябачная сувязь, дзе час пульсуе не толькі з мінулага ў будучыню, але і наадварот…

* * *

У маім сэрцы жыве не толькі мая памяць, але і ўспаміны родных людзей. Сэрцу цяжка, і яно б'ецца моцна-моцна, хутка-хутка. «Тахікардыя», — кажа матуля. А мне чуецца — «птаха-кардыя», так больш зразумела, бо адкуль тады я ведаю ўсё пра палёты? Мне здаецца, што калісьці, вельмі даўно, я была птушкай, лётала, дзе мне захочацца, над усімі сястронскімі Вірамі (рэчкай малой і вялікай, малы Вір — для дзяцей, вялікі — для дарослых), над дамамі з блакітнымі аканіцамі і чарацянымі прычолкамі, каровамі і пастухамі, рамонкамі і званочкамі. А цяпер я лётаю па нашай хаце. Печ з залатымі вязанкамі цыбулі, з партрэтамі маладых бабулі з дзедам, тузінам дзядзек, цётак і дзяцей, каго я нават не ведаю, усе яны на картачках у карычневых драўляных рамах, а я да іх блізка-блізка, бо лётаю, і мне радасна, лёгка-лёгка, нібы я пярынка. Чамусьці толькі сцен не бачу, і сябе не бачу гэткай, як цяпер, з ножкамі-ніткамі, усмешлівым ротам, а зуба то няма, бабуля ўчора мышцы аддала. Я лётаю па хаце, як па храме, абраз Казанскай Божай Маці ў куце, бабуля ёй заўсёды моліцца, і я малюся, толькі таемна. Маці Божая

ўверсе, пад самай столлю, як пад небам, залатой фарбай маляваным, і мне так весела, так радасна, што спяваю «ой, дзяўчаты, ой, красуні», а далей толькі «ля-ля-ля», бо слоў не ведаю. Гэта мне сон такі прысніўся, проста ўспомнілася, калі матуля гэтае сваё «птаха-кардыя» вымаўляла. Толькі б і рабіла, што мяне лячыла. Мама дае мне таблеткі, а я іх выплёўваю і пад падушку ў цэлафанку хаваю. Ужо цэлы мяшочак назбірала. Потым птушак лячыць буду, у іх таксама сэрца хутка б'ецца. Ведаю гэта, бо не раз адагравала птушачак у далонях. Сэрца ў іх такое хуткае і маленькае, як жылачка на маёй скроні. Мабыць, там у людзей жыве птушачка, проста яны пра гэта не ведаюць. Аднойчы такое было: верабейка на зямлю з дрэва зваліўся ў моцны мароз, яго дадому прынесла, цёплую вадзічку з рота ў дзюбку ўпырсквала. Дзякуй Богу, ачуняў. Вось так. Мама мяне лечыць, а я лячу птушак. У нас з імі — «птаха-кардыя». А яшчэ я бабулю вылечыла, толькі матулі пра гэта не скажу…

* * *

Калі мне споўнілася дваццаць тры — памерла мама. Яе прывезлі на грузавой машыне ў Сястронкі, і мужчыны дзядулю падымалі на табурэтцы ў кузаў, каб ён развітаўся з дачкой. Дзядуля дажыў да дзевяноста гадоў, а памёр ад звычайнай прастуды. А можа, проста надышоў яго час, ён стаміўся жыць і папрасіўся да сваёй дачкі… У мае трыццаць тры памерла бабуля. Перад смерцю яна спявала. Ужо не пазнавала нікога з родных, а свае дзявочыя песні добра памятала. Спявала некалькі гадзін без перапынку….

І вось нешта ў маім шчаслівым свеце сапсавалася… Роспач уначы ўпаўзала ў сэрца вужакай, скручвалася каля дзвярэй і не выпускала мяне з майго новага дома. Каб знайсці адказы на пытанні, якія мяне хвалявалі, у думках я падыходзіла да нашай хаты ў Сястронках, заглядала ў вокны, ды нікога там не бачыла. Запусценне і бязладдзе панавалі ў нашай некалі гасціннай вясёлай хаце, і толькі абраз Казанскай Божай Маці па-ранейшаму вісеў на месцы. Багародзіца дапамагла бабулі пагукаць мяне апошні раз, пакуль тая яшчэ была на мяжы свядомасці, але ўжо бачыла чарацяны човен, які пераправіць яе на другі бераг неба. Бабуля

прасіла забраць абраз з пустэчы, на якую ператварылася наша хата. Ікона без чалавечага цяпла губляе сілу. Дзень і ноч ткалі свае чароўныя дываны, прыходзіў няпэўны час, калі толькі пачынала развіднець, час між ваўком і сабакам (раніца — не раніца і ноч — не ноч), калі губляліся сэнсы і ўспаміны, а канец і пачатак не супадалі. Людзі, такія блізкія раней, рабіліся далёкімі, іх раскідвала па розных куточках свету, і яны не ўспаміналі адзін аднаго, забывалі родную кроў і мову… А Маці Божая малілася за нас усіх — жывых і мёртвых, бо толькі праз боль і пакуты можна адчуць сэрцам сэрца, вярнуць і вярнуцца…

Дакранаюся да бабулінай ваўнянай хусткі, разгладжваю далонямі, адаграваю дыханнем, як птушачку, і спыняецца мяцеліца, і сціскаецца час, які раздзяляе мяне з маёй радзімай, тым першапачатковым зярняткам, родным, шчымліва-пяшчотным… Там, у бабуліным сне-трызненні, гэта я іду цераз завеі, іду, каб забраць тое, што належыць толькі мне, тое, у чым злучыліся радасць і пакута нашага роду. Ужо дастаткова болю і гора! Цераз завеі я крочу да роднай намоленай іконы, якая кліча мяне з пустой, занесенай снегам па вокны хаты. Яна просіцца да відушчага сэрца, каб яно сагрэлася і вымавіла галоўнае, некалі недамоўленае…

* * *

Пасля таго як бабы Матроны не стала, я прыехала ў Сястронкі і забрала абраз з пустой адзінотнай хаты. Загарнула Маці Божую з Немаўлём у пуховую бабуліну хустку і правезла праз дзве мяжы. Цяпер мы разам молімся за тых, хто пайшоў у вечнасць і не дараваў, за тых, хто не папрасіў прабачэння і не развітаўся, за тых, хто жыве цяпер і хто прыйдзе ўжо пасля нас. Дзеці, унукі, праўнукі пройдуць па нашых слядах і прадоўжаць кругазварот жыцця… Вымаўляю недамоўленае, слухаю не пачутае… Круціцца бабулін калаўрот, круціцца, круціцца… Праходзячы праз гады і стагоддзі, зямныя і нябесныя берагі, прашу ў Багародзіцы паратунку, збавення, даравання для ўсіх, каго люблю.

# ТАЯМНІЦА САМАРОБНАЙ ШАФЫ

«А цяпер ідзі… за гэтай сцяной пачынаецца ўжо проста дарога да бацькі…»

*Алег Лышэга*

## Мой тата

Ноччу глядзела на зорнае неба і думала, што, магчыма, душы памерлых людзей знаходзяць свой прытулак на далёкіх планетах, якіх мільярды мільярдаў, дзе няма войнаў і пакутаў, дзе ўсім хопіць месца. Хацела пабачыць у сне бацьку, бо 18 жніўня — дзень яго смерці, а прысніўся ўлюбёны акцёр Алег Янкоўскі. Магчыма, такім чынам тата намагаўся перадаць мне сваё прывітанне… Раней з бацькам мы часта глядзелі на зоркі й размаўлялі пра тое, што, магчыма, недзе на далёкіх планетах жывуць разумныя істоты і вось так, як і мы, у тое ж самае імгненне стаяць, задраўшы галовы, і глядзяць на нас. Мы для іншапланецян — зоркі, святло ад якіх ідзе нават тады, калі іх саміх ужо няма…

Мой тата быў летуценнікам. Рамантычная і мройная я менавіта ад бацькі, які захапляўся фантастыкай, легендамі й міфамі, усякімі дзіўнымі прыроднымі з’явамі і трохі містыкай. Яго прафесія была абсалютна зямной і празаічнай — інжынер-будаўнік, хоць і скончыў лясны тэхнікум. Калі б бацька стаў ляснічым, як мой дзед і прадзед, то, магчыма, я б нарадзілася ў вёсцы, паблізу лесу, як усе мае продкі, а не ў Полацку. Люблю Полацк, але заўсёды цягне да лесу, мабыць, завуць гены. Лес — лёс…

У бацькі было шмат непраяўленых ці не заўважаных большасцю здольнасцяў, напрыклад, ён умеў стракатаць сарокай і цяжка было адрозніць яго голас ад сапраўднай птушкі… Тата трохі рыфмаваў, прыдумляў смешныя вершыкі на дні народзінаў сваіх калег, розныя святы. Перад тым чытаў і мне, смяяўся, мабыць, уяўляў тых людзей з разяўленымі ад здзіўлення ратамі. Часам пісаў заметкі на тэму будаўніцтва ў раённую полацкую газету «Сцяг камунізму» (цяпер «Полацкі веснік»), і яму падабалася гэтая справа. Бацька быў вясёлым і камунікабельным па сваёй прыродзе, яму падабалася спяваць і танчыць, ды жыццё ва ўмовах жорсткай эканоміі фінансавых сродкаў не дало актыўна праявіцца гэтым яго здольнасцям. Выпіць мог, але хутчэй сімвалічна, за кампанію. Ён сапсаваў сабе страўнік яшчэ ў дзяцінстве, калі даводзілася есці бліны з лебяды ды мёрзлай бульбы. Яго маці, мая баба Маня, у дваццаць сем год засталася ўдавой з двума дзецьмі, бо дзеда арыштавалі й расстралялі ў 1937 годзе. Дзяўчынка, бацькава сястра Валя, памерла ад менінгіту ў маленстве, тата выжыў, але ўсё жыццё быў хваравлівым…

Бацька быў «акуратыстам»: за стол не сядзе, не памыўшы рукі, не пойдзе на работу ці ў госці ў нясвежай кашулі. Яму падабалася апранацца з густам, магчыма, так праяўлялася шляхетнае карэнне, насіў капялюш з шырокімі палямі. Калі сустракаў знаёмых, здароўкаўся першым, ветліва нахіляў галаву. Ёсць дужа смешнае фота, дзе малады тата стаіць на плоце на адной назе ў паліто і капелюшы. Побач дрэва, за якое ён трымаецца, магчыма, ад некага хаваецца і непрыкметна стракоча сарокай. Ён заўсёды нешта выдумляў, жартаваў, да канца сваіх дзён быў тым маленькім хлопчыкам, які аднойчы задрамаў, а прачнуўся дарослым.

Неяк тата купіў сабе гармонік. Марыў навучыцца граць на слых, ды так і не давёў справу да канца. Нерваваўся, калі ў яго не выходзіла падабраць знаёмую мелодыю, твар пакрываўся чырвонымі плямамі ад напружання, кучаравыя валасы макрэлі на лобе, ды бацькавага цярпення хапала толькі на пачатак песні, далей ішла суцэльная какафонія, якая дужа мне падабалася, бо смяшыла. Я падыходзіла да

сур'ёзнага бацькі, абдымала, і яму рабілася смешна з самога сябе. Ён дазваляў мне націскаць кнопачкі-гузікі, як на душу кладзецца, а сам толькі расцягваў гармонік, як цыганскі мех. Музычныя практыкаванні перарасталі ў суцэльную гульню, мы заходзіліся ад смеху аж да ікаўкі, пакуль не прыбягала мама і не разганяла нас па розных пакоях, бо задурылі галаву… Калі да нас прыходзілі госці, напрыклад, на мой ці братаў дзень народзінаў, у пэўны момант застолля бацька даставаў з антрэсоляў шафы гармонік, насавічком выціраў пыл і пачынаў граць. Не надта ў яго выходзіла, але запал і энергія перакрывалі фальшывыя ноты.

— Ай, Слаўка, які з цябе музыкант, курам на смех. Не муч ты людзей!

Гэта гаворыць мама, яна такі канцэрт не вытрымлівае першай, бо лічыць, што любую справу трэба або рабіць якасна, або не рабіць зусім. Матуля злуецца, а нам з братам весела. Тата яшчэ й спяваў пад гэтую сваю музыку…

У вольны час бацька любіў вудзіць рыбу, марыў купіць сабе надзіманы човен. У Варонічах, дзе ён нарадзіўся, цячэ цудоўная рэчачка Вушачка, чыстая, хуткаплынная. Калі я там бываю, адведваю магілы бацькі, бабы Мані й цёткі Мілі, пасля таго доўга стаю на мосце і ўглядаюся ў маляўнічую далеч. «Рэчачка-рэчка, чаму ж ты ня поўная?..» — гэтую песню тата дужа любіў… Грошы з невялікай зарплаты інжынера (120 рублёў з прэміяльнымі), вядома ж, адкладаліся, ды потым знаходзілася нешта больш неабходнае для сям'і, і татаў човен так і заставаўся марай…

Вера ў Бога, як і яшчэ шмат чаго ў ягоным жыцці, заставалася нерэалізаванай. Яна жыла ў бацькавым сэрцы хутчэй на ўзроўні падсвядомасці, генетычнай памяці. Хоць ён і быў хрышчаным каталікам, непрыкметна маліўся часам, у касцёл не хадзіў, баяўся, што нехта пабачыць і тады яго выганяць з работы. Гэта быў савецкі час, а тата працаваў у райвыканкаме. Калі тата моцна захварэў і ведаў, што жыць яму засталося мала, сам неяк загаварыў са мной пра Бога. Яму хацелася верыць у жыццё пасля смерці. Мы дагаварыліся, што, калі «той свет» існуе, ён неяк перадасць мне «адтуль» вестачку. Пакуль што не дачакалася, калі не лічыць адзін

дзіўны сон… Аднак сон — рэч хімерная і незразумелая, хутчэй метафара, нешта набліжанае да паэзіі… Як бы там ні было, але насуперак усім матэрыяльным законам мне хочацца верыць, што плыве сёння лёгкая бацькава душа па зорных рэчках, такіх прыгожых, што нам і не снілася, плыве без чоўна і ветразяў, як можа плыць толькі душа добрага чалавека.

## Мару

Мне падабаецца ляжаць на высокім бабуліным ложку, як на воблаку, і глядзець у неба. І няхай гэтае неба ўсяго толькі столь, пафарбаваная белай фарбай, я шчаслівая, бо там столькі розных цікавінак, усіх тых сучкоў-чарвячкоў, то бок месцаў, дзе яны былі да таго, як пагаблявалі дошкі. Малюю сваёй уявай па небе-столі, не магу спыніцца ні на хвіліну. Усе гэтыя трэшчынкі-рысачкі нагадваюць мне бабуліны маршчынкі. Не хвалюйся, бабулька, думай, што я сплю. На самай справе ў абед спаць не хочацца. Гэта не тое што раніцай, калі сон пяшчотна гладзіць па галаве, закалыхвае, і гайдаешся, гайдаешся на яго цёплых хвалях… Мілата… Прачынаешся з адчуваннем шчасця. Глядзіш у акно. А там яблык на галінцы нібы прамаўляе: «З’еш мяне!» І ўжо не хочацца далей кунежыцца ў ложку. Адчыняеш акно, выскокваеш у сад на лапік шаўкавістай травы, яшчэ вільготнай ад расы. Трава расступаецца, пакідаючы адбіткі босых ног і ранішняга сну. Зрываеш яблык, угрызаешся ў яго мякаць. Які ж ён смачны! Нават калі сківіцы зводзіць ад гэтай кісляціны, а ён усё роўна смачны.

— Інка, ты зноў грызеш зяляпухі? Жывот забаліць!

Гэта бабуля мяне пабачыла, хоць я намагалася выслізнуць непрыкметна. Ага, значыць, яна заўважыла адчыненае акно, гэты выхад у казачны свет, поўны гукаў, шэпту травы і кветак, спеваў птушак, суладдзя галінак і неба…

— Бабуля, ты не разумееш ці што? Я ж павінна прывітацца з новым днём! Калі пакаштую зялёны яблык, даведаюся, пра што яблыня размаўляе з ветрам…

…Усё гэта было раніцай, а ў абед я проста ляжу і разглядаю малюнкі на столі. Як дзіўна: сучкі і трэшчынкі пера-

мэбля: трохі абпаленая, але жывая, канапа, таршэр, кніжная шафа… Гэта тое, што бацькі Ігара разам з суседзямі выцягнулі з пажару. Хата стаяла чорная, як пашча ў чорта, дах абваліўся, яго, вядома ж, прыйдзецца нанова адбудоўваць, але Ігар сказаў, што вясковыя мужчыны абяцалі дапамагчы. Хутка будзе талака. Складуць зруб і да восені на месцы старой, пагарэлай, будзе стаяць новая хата.

Я сядзела са сваімі сябрамі на канапе ў жоўтыя кветачкі і думала, што ўсё скончылася больш-менш добра менавіта таму, што я вельмі гэтага хацела, што перапісала трагічны сцэнар пажару ў сваім уяўленні… І ніякая я не фантазёрка, а сапраўдная чараўніца! Кожны чалавек — чараўнік, калі вельмі гэтага захоча і паверыць у сваю сілу. Адчуванне таямніцы перапаўняла мяне гордасцю: «Я моцная і смелая, хоць і маленькая. Няхай ніхто мяне не пахваліць, не скажа слоў удзячнасці, няхай пра маю барацьбу са страхам і перамогу ніколі не даведаюцца, не гэта галоўнае! Не трэба баяцца навальніцы. Не трэба баяцца…»

## А снег ідзе…

Сяджу ў хаце, гляджу ў акно. Бабуля не пускае на вуліцу. Па-першае, мяцеліца, па-другое, я чмыхаю… Сядзеў сабе чмых на дрэве, і раптам зваліўся на маю шэрую шапку з труса, калі я снегавіка ляпіла. Думала — кацяня, аказаўся — чмых.

— Апчхі! Апчхі! — вось і зараз чмыхаю, а так хочацца пагуляць на вуліцы, скочыць з ганка ў сумёт, нават калі будзе снегу з галавой, не страшна. Яшчэ цікавей, калі з галавой…

…Вось сяджу я ў сумёце, на самым дне, а свет навокал такі празрыста-малочны, і гукі глухія, як быццам мяне ватай з усіх бакоў абклалі, быццам я — ёлачная цацка паміж першай і другой рамамі. На зіму дзядуля ўстаўляе другія вокны, каб у хаце было цяплей. Між рамамі кладуць вату, а на вату — цацкі, каб весялей было ў вокны глядзець. Так што прадчуванне Новага года пачынаецца з лістапада, а паслясмак застаецца аж да красавіка, калі дзядуля другія рамы з вокан дастае… Вось і цяпер гляджу на цацкі і ўспамі-

наю, як мы ялінку ставілі, як прыбіралі, якім смачным быў мамусін торт, як свяціліся бацькавы вочы…

А снег ідзе… Куды ідзе — невядома, бо ўсе шляхі пазамятала. Няўжо ў снегу ёсць ногі? Калі і ёсць, то вельмі караценькія, таму я іх не бачу, як ні прыглядаюся. І дзень цяпер кароткі, а ночы доўгія. Калі на вуліцы цёмна, я больш сумую па маме і тату… Не, усё ж такі гэта чалавек ідзе, а снег сыплецца, як тая мука, што бабуля прасявае скрозь сіта… Снег заўжды з'яўляецца нечакана і неяк па-новаму. Сёння з неба падаюць такія пухнатыя кажухі, што здаецца, яшчэ трохі — і яны ўкрыюць не толькі наш сад, але й хату з галавой — спачатку па вокны, потым па страху, а потым будуць толькі коміны са снегу тырчаць. Вылезу з хаты цераз печ, пакуль бабуля на сваёй машынцы навалачку строчыць… Па паху дыму з комінаў зразумею, хто дзе жыве. Вось мінаю хату бабы Нюры, — яе дым пахне пышкамі… Цётка Таіса, мама Алега і Вадзіма,варыць халоднае. Нюхаю паветра. Смаката! Толькі я не есці прыйшла, а з сябрамі пагуляць. Пастукаю, і браты выйдуць цераз комін на вуліцу. А тут я. Прывітаннечка! Будзем разам катацца на санках з іхняга даху, такога высокага, што месяц можна рукой дастаць…

Во колькі цікавага магло б адбыцца, пакуль я каля акна стаю і на снег гляджу. Бабуля на вуліцу не пускае. У мяне хустка вакол горла завязана, сукенка байкавая ў гарошак, цёплая кофта, на нагах — валёнкі. А ў руках — мандаліна. Гэта дзядзька Іван дзедаву мандаліну са сцяны зняў, каб мяне сфатаграфаваць.

— З Новым годам! — крычу з 1971-га ў 2021-ы, можа, нехта пачуе. — Усё ў нас будзе добра, вось пабачыце!

А снег ідзе, а снег ідзе…

## Панас Малёваны

— Інка, адчыні дзверы дзеду Панасу, у мяне рукі ў цесце, — крычыць бабуля з кухні, як быццам я не чую, хто да нас прыйшоў.

Калі дзед Панас заходзіць у наш двор, яго пачуеш не толькі з хаты, але й з гарышча і пограба. Такі ўжо ў яго голас — узмацняльнік не трэба. Нават калі ён закрычыць ка-

ля бальніцы, яго каля клуба пачуюць, хоць клуб і бальніца знаходзяцца на пачатку і ў канцы вёскі. Я адчыняю дзверы дзеду Панасу і вісну на ягонай шыі. Ён хапае мяне на рукі і пачынае круціць вакол сябе, нібы віхор леташняе лісце. Бабуля хаваецца за печку разам са сваім цестам, дзядуля збірае ў кардонную каробку разабраныя гадзіннікі, бо дзед Панас акрамя гучнага голасу мае нястрымны тэмперамент, — там, дзе з'яўляецца Малёваны, пачынаюць лётаць зэдлікі, слоікі і сподачкі, нібы ў іх вырастаюць крылы.

— Інка, зараз жа пакінь дзеда Панаса ў спакоі, ён і без цябе ўвесь посуд у кухні раструшчыць! — Бабуля мяне страшыць, а сама ўсміхаецца, бо крыўдаваць на дзеда Панаса проста немагчыма… Малёваны ставіць мяне на зямлю, цмокае ў шчаку бабулю, здароўкаецца з дзядулем, уключае радыёлу, і ўсё гэта робіць адначасова, быццам у яго не дзве, а цэлых шэсць рук.

— Ну, што вы тут робіце, гаўрыкі, сумуеце без мяне? — смяецца Малёваны і падхоплівае басам папулярную песеньку пра заводскую дзяўчыну Танечку, — «Ах, Танечка, на санчках каталась ты ўвесь дзень…»

Панас Малёваны — даўні сябар майго дзядулі, але гадоў на дзесяць маладзейшы, весялейшы і нікольki не падобны характарам. Мой дзядуля — спакойны, негаваркі, разважлівы, а Малёваны — эмацыйны, хуткі, як віхор. Дзядоў яднаюць ваенныя ўспаміны і пяшчотныя адносіны да мяне. Сваіх дзяцей і ўнукаў у Малёванага няма. Жонка пакінула яго бабылём гадоў дваццаць таму, збегла ў горад да палюбоўніка, як пляткараць бабулі ў вёсцы. Ну, што тут сказаць? Дурная ў дзеда Панаса была жонка, ну як пробка. Я б такога вясёлага, сімпатычнага дзеда ніколі не кінула.

Дзед Панас праваяваў усяго год, на фронце яго моцна кантузіла, нават памяць на нейкі час страціў. Доўга лячыўся ў шпіталі, памяць вярнулася, але моцныя болі галавы засталіся. Кантузія час ад часу нагадвае Малёванаму пра вайну, не дае жыць спакойна. Калі дзеду пачынае моцна балець галава, ён бяжыць у лес, каб ніхто не пачуў, як ён крычыць і стогне. Дзядуля казаў, што Малёванаму бывае так цяжка, што ён аб дрэва галавой б'ецца, каб заглушыць той няс-

церпны боль. Калі прыступ праходзіць — Панас Малёваны дадому вяртаецца. Зноў вясёлы па-ранейшаму: жартуе з вясковымі бабулькамі, да маладзіц заляцаецца, нібыта нічога і не было.

Дрэнная, канечне, у мяне звычка падслухоўваць. Бывае, пачую такое, што лепш бы ніколі не чула. Баба Франя — вядомая ў вёсцы пляткарка, баба Улляна — такая ж, бо лепшыя ж сяброўкі. Час ад часу яны заходзяць да нас пачасаць языкамі, а заадно з’есці кавалак пірага з капустай, бо вядома ж, якая мая бабуля цудоўная гаспадыня.

— Як вы думаеце, дзяўчаты, чаму ад Панаса Малёванага жонка сышла? — пачала Франя і сёрбнула малака са слоіка, які стаяў на стале.

— Скуль я ведаю? Можа, у яго агрэгат пасля кантузіі не працуе? — хмыкнула Улляна, запіхваючы ў рот кавалак пірага.

— Вось ты і правер, Улечка, калі ён цябе наступны раз каля печы прыцісне…

— А ты правярала? — баба Уля аж падавілася пірагом, закашлялася.

— Не сорамна вам, дзеўкі, свае зубы ўстаўныя скаліць? Забыліся, па колькі вам год? — не стрымалася нарэшце, далучылася да размовы мая бабуля, якой брыдка было слухаць усю гэтую дурню. Баба Франя на зэдліку аж падскочыла:

— А колькі б не было, Мурачка, жартаваць не забараняецца! Не рабі выгляд, што ты святая Матрона! Нармальнай бабе да смерці мужыкі сняцца…

Аднойчы Панас Малёваны ўзяў да сябе цыганоў. Ну, не зусім падабраў і не зусім на дарозе, але нешта накшталт гэтага… Як тыя цыганы з’явіліся ў Сястронках, ужо ніхто не памятае. Прачнулася вёска аднойчы вясной, а цыган з цыганкай і двума блізнятамі паставілі намёт непадалёк ад крамы, дзе раней была панская сядзіба, і сталі ў ім жыць. Хоць і касавурыліся на іх людзі, але не чапалі, бо тыя таксама дрэннага нічога не рабілі. Бліжэй да восені нарадзіла цыганка трэцяе дзіцё, і з гэтага моманту пачаліся ў іх з цыганам спрэчкі, скандалы, часам аж да бойкі. Гармідар стаяў

такі, нібыта каля крамы не адна сям'я жыве, а цэлы табар! Ніхто не ведаў, што з гэтымі цыганамі рабіць, але баяліся іхніх праклёнаў. Аднойчы, калі яна была яшчэ маладой, бабу Улю пракляла цыганка, дык з таго часу ў яе левае вуха заклала на ўсё жыццё. Нават знахарка Іваніха не дапамагла.

Аднойчы раніцай Панас Малёваны пайшоў у краму хлеба купіць і пабачыў на ганку маладую цыганку з вялікім сіняком пад вокам. Яна плакала і прыціскала немаўлятка, захутанае ў старую стракатую коўдру. Побач плакалі блізняты, хлопчык і дзяўчынка, а цыгана і след прастыў… Панас Малёваны падумаў-падумаў дый забраў цыганку з дзецьмі да сябе ў хату. Пашкадаваў. Вырашыў, няхай сабе пажывуць хаця б да вясны, разам весялей будзе.

— Сябрук твой з глуздоў на старасці год з'ехаў, — маўчала-маўчала дый не вытрымала баба Мура. — Не хапала, каб на той год цыганскі табар у нашай вёсцы пасяліўся і Панас з імі парадніўся!

— Ну што яны табе зрабілі, Мурка, гэтыя цыганы? Няхай сабе жывуць. Дый Панасу весялей з імі, ёсць пра каго турбавацца… Колькі можна аднаму ў хаце вецер па вуглах ганяць?

З гэтага часу Панас Малёваны ў нас пачаў з'яўляцца ўсё радзей. Раней, калі дзеда доўга не было, я сама бегла да яго ў госці, гуляла с сабачкам Шарыкам, але цяпер толькі назірала здалёк цераз дошкі дзіравага Панасавага плота… Тым часам цыганка паводзіла сябе ў дзеда Панаса нібыта гаспадыня — у двары на штыкетніку раскінула коўдры, каб прасушыліся, верасень быў на дзіва сухі і цёплы, выцягнула з хаты ўсе дзедавы падушкі, пакрывалы, настольнікі, перамыла бялізну. На паркане віселі яе стракатыя спадніцы, дзіцячыя распашонкі, сарочкі, кашулі, штаны. Двор Панаса Малёванага ператварыўся на карабель на сямі ветразях. У якія далі-далёкія плыве гэткі карабель? Якое цыганскае шчасце шукае?..

Аднойчы вечарам я пабачыла, як дзед Панас сядзіць з цыганкай на прызбе і спявае. Тужліва так, з пачуццём… А гэта я ўжо ніяк не магла вытрымаць! Лепш бы ён слоікі біў у нашай хаце ды зэдлікі пераварочваў! Я аж кулачкі сці-

снула ад злосці. Слёзы паліліся з маіх вачэй. З усёй немінучасцю я адчула, што назаўжды страціла майго лепшага дарослага сябра… Адчай агарнуў мяне, як восеньскі туман, я прыбегла ў хату і схавалася ў вялікую шафу з бабулінымі выхаднымі сукнямі, праплакала там, можа, з гадзіну, аж пакуль не задрамала. Баба Мура з ног збілася мяне шукаць…

Цыган з'явіўся ў вёсцы недзе праз месяц, ужо лужыны на дарозе добра падмарозіла. Пакуль Малёваны ездзіў у горад па прысмакі для дзяцей, цыган пабіў вокны ў яго хаце і знік разам з цыганкай і немаўляткам. Старэйшых дзяцей цыганы не забралі, так па іх і не вярнуліся.

— Куды бегчы, дзе іх шукаць? — жаліўся дзед Панас. — Вядома, які гэта народ, перакаці-поле — сёння тут, заўтра там…

Аддаць дзяцей у інтэрнат дзед Панас не наважыўся, пашкадаваў. Так і прыжыліся ў дзедавай хаце двое цыганят — Рада і Міхай.

Сястронскія дзеці аказаліся не такімі добрымі, як дзед Панас. Яны абражалі, дражнілі цыганят, асабліва Міхая.

— Міхай, Міхай, у ж…пу дулю піхай! — крычалі, і Міхай кідаўся біцца з нашымі хлопцамі… Але паступова да цыганяці прывыклі і пачалі зваць проста Мішка, бо ніхто не хацеў звязвацца з дзедам Панасам, які, калі яму баліць галава, і забіць можа, бо сябе не памятае ў тыя моманты. Шчыра кажучы, гэта я хлопцаў настрашыла, каб яны, нарэшце, ад Мішкі адчапіліся.

## Дзед Васіль і яго гармонік

Сядзім з дзедам Васілём на лаўцы каля прыпынка, калышам нагамі. Дакладней, калышу нагамі я, бо ў дзеда Васіля толькі адна нага. Ён прыйшоў з вайны інвалідам, як і мой дзядуля, але дзед Васіль не носіць пратэз, лічыць яго цяжкім і нязручным. Яму лягчэй хадзіць на мыліцах. Дзед Васіль вельмі падобны да жорава — худы і цыбаты — і, калі ідзе па бальшаку, падскоквае на адной назе, нібы падранак, які ніяк не можа ўзляцець.

— Дзед Васіль, а якім аўтобусам твая Жанка прыедзе — ранішнім ці пасля абеду? — пытаю, каб неяк пачаць раз-

мову, невядома, колькі нам яшчэ чакаць… Бачу, што стары хвалюецца: то на свае рукі, то на дарогу паглядае. Я таксама хвалююся, бо чакаю свайго тату, ён учора не прыехаў, можа, хоць сёння будзе… Мне да прыпынка блізенька — рукой падаць, яго нават з нашага акна відаць, а дзеду Васілю скакаць сюды на адной назе амаль з канца вёскі. І скача, бо любіць сваю Жанку. Жанка — фігурыстка, ну, не тая, што танцуе, а тая, што на каньках наперагонкі бегае, — канькабежка. Яна ходзіць у спартыўную секцыю ў Наваполацку. Але для мяне яна ўсё роўна фігурыстка. Уяўляю Жанку фігурысткай, бо люблю глядзець фігурнае катанне па тэлевізары. Гляджу і думаю: а раптам там Жанку пабачу? Мы даўно з ёй сябруем, але рэдка бачымся. Да свайго дзядулі Васіля яна прыходзіць вельмі рэдка. Нават калі прыязджае, адразу бяжыць да сваёй бабы Дашы, якая жыве ў іншым канцы вёскі, далёка ад дзеда Васіля. Жáнчыны дзед і баба разышліся вельмі даўно, яшчэ задоўга да таго, як Жанка нарадзілася. Пасля вайны дзед Васіль пайшоў жыць да жанчыны, якую кахаў яшчэ да вайны… Усё ў іх вельмі складана і заблытана… Можа, калі-небудзь раскажу, але не цяпер, бо мы з дзедам Васілём сядзім і на дарогу глядзім. Кожны з нас маўчыць пра сваё…

Мне першай абрыдла маўчаць. Не хачу пытаць дзеда Васіля пра Жанку або пра бабу Дашу, бо, калі спытаю, яго сэрца забаліць, як тое месца, дзе раней была нага. Так бывае, мне дзядуля Іван расказваў: хоць нагі ўжо няма, баліць яна амаль кожны дзень… Спытаю ў дзеда Васіля лепш пра гармонік, каб у яго настрой падняўся.

— Дзед Васіль, а дзе ты свой гармонік узяў? — пытаю, хоць ужо некалькі разоў гэтую гісторыю чула. Стары вярнуўся з вайны з гармонікам, як мой дзядуля з мандалінай. Але ж у дзядулі — свая гісторыя, а ў Васіля — свая.

— Гітлера забіў і яго гармонік забраў, — гэта дзед Васіль жартуе. Ведаю, што гэта няпраўда, і дзед Васіль ведае, але ж ад такой хлусні нам весялей становіцца абаім…

Мой дзядуля расказваў, што Васіль дайшоў аж да самага Берліна. А параніла яго за некалькі дзён да Перамогі. Гісторыю з гармонікам дзед Васіль кожны раз расказвае па-рознаму, брэша, як лён чэша, не разбярэшся, дзе праўда, а дзе

хлусня. Ды хлусня дзеда Васіля заўжды выглядае цікава, як бы там ні было на самай справе…

— Не верыш? Вось слухай, ага… раскажу табе чыстую праўду… Іду гэта я па Берліне і радуюся, што мы перамаглі фашыстаў. Раптам бачу — прыгожы такі будыначак, чыстае акно, кветкі… і з гэтага акна нейкі недабіты фрыц па мне з аўтамата цэліць. Я паспеў схавацца за дрэва і дастаць з кішэні гранату, якая ў мяне заўсёды ў правай кішэні ляжыць на ўсякі выпадак. Дык вось, ага… Кідаю ў акно тую гранату: выбух, разбітае шкло пырскае ва ўсе бакі! Забег я ў той будынак, гляджу — а там нібы Гітлер ляжыць, толькі маладзейшы, жыццё на нітку павесіў, стогне, жывы, значыць жа, гад. Гляджу, а каля яго ложка, на зэдліку, гармонік стаіць. Прыгожы такі гармонік, кнопачкі на сонцы паблісквающь, і больш нікога ў хаце няма. Не стаў я таго фрыца дабіваць, забраў толькі з сабой яго гармонік, як прыз ці медаль за адвагу… Калі прыйшоў дадому, нічога не заставалася, як навучыцца на гэтым гармоніку граць. Чаму ж ён будзе проста так ляжаць, пылам прыпадаць, ага… Гармонік, як медаль, на грудзі не прышчэпіш. Навучыўся на ім іграць, на слых…

— Дзед Васіль, ты забыўся ці што? Цябе ж паранiла яшчэ да перамогі… Як жа ты йшоў па Берліне, на мыліцах скакаў ці што?

Васіль аж крэкнуў ад незадавальнення, трохі прызадумаўся, але тут жа выдаў новы варыянт аповеду.

— Вось я і кажу… Ага… Кінуў я гранату… Выбух… На зямлю падаю, нага баліць страшэнна, бо асколкам зачапіла… Гарлаю несамавіта, так баліць, аж не магу, але ж паўзу, паўзу… Запаўзаю ў будынак — а там немец ляжыць, на Гітлера падобны… Ну, а далей усё было, як я табе і расказваў…

Дзед Васіль такі смешны, калі свае гісторыі расказвае, — нос чырванее, вочы блішчаць. У пэўныя моманты ён пляскае ў далоні, прытопвае здаровай нагой… Думаю, з яго мог бы выйсці сапраўдны артыст, калі б не пачалася вайна. Кажуць, што ён і хацеў быць артыстам, ды жыццё зусім інакш павярнулася…

…Кожны дзень у той жа самы час дзед Васіль прыходзіць на аўтобусны прыпынак і чакае сваю ўнучку Жанку. Яго

сын Мікола, ужо больш за 10 гадоў як з'ехаў за мяжу на заробкі. Другая жонка памерла, а баба Даша, не даравала яму здрады, пакрыўдзілася насмерць. Так і жывуць у розных канцах Сястронак двое нямоглых старых, і нават калі выпадкова бачацца, не здароўкаюцца, робяць выгляд, нібы не ведаюць адно аднаго. Дзед Васіль праводзіць бабу Дашу доўгім сумным поглядам, разумеючы, што гэта назаўсёды — вось так глядзець ёй услед і ніколі не паклікаць, не загаварыць… Так што, акрамя Жанкі, у дзеда Васіля нікога няма. Але, так, я зусім забылася пра гармонік, на якім стары грае на вясковых вяселлях і гісторыю якога кожны раз расказвае па-новаму.

## Ваўкалака

Калі дзверы ў магазін адчыняе кульгавы Воўка, усе бабулі і цёткі, якія там знаходзяцца, цішэюць і замаўкаюць. Дзядзька глядзіць на ўсіх спадылба, цяжкім суровым поглядам, і ад гэтага погляду мне хочацца ператварыцца ў мышаня і забіцца ў якую-небудзь шчыліну. Воўка ніколі не вітаецца першым, а калі з ім паздароўкаюцца, толькі галавой кіўне ў адказ, маўчыць, як нямы. Доўга ў магазіне не затрымліваецца: купляе хлеб, трохі круп, кавалак гаспадарчага мыла, пачак папяросаў «Беламор» і, прыпадаючы на правую нагу, кавыляе да выхаду. Цяжка сказаць, колькі яму год — можа, 50, а можа, і ўсе 70. Кудлаты, сухі тварам, зарослы чорнай з сівіной барадой, Воўка жыве бабылём, ні з кім не таварышуе. «А што калі гэты дзядзька — ваўкалак?» — думаю я, і холад прабягае дрыжыкамі па маёй спіне.

— Воўка прыбіўся да нашай вёскі адразу пасля вайны, — распавядае мне бабуля. — Выкапаў зямлянку метраў за сто ад апошняй сястронскай хаты, буржуйку сабе змайстраваў, і стаў жыць, як мядзведзь у бярлозе. Ужо больш за дваццаць год прайшло пасля вайны, усе вясковыя жыхары сабе новыя хаты зладзілі, а Воўка так і жыве ў сваёй зямлянцы. Воўк ваўком. Ну, яшчэ нейкі хляўчук зрабіў, каб плотнічаць. Воўка кульгавы — добры цясляр. Усе ў вёсцы гэта ведаюць і, каб не ехаць у горад, замаўляюць яму розную мэблю — ку-

фэркі, зэдлікі, сталы, шафы… Рукі ў яго залатыя, а вось нелюдзімы такі ўдаўся, што Божа збаў.

Мне здаўна карцела даведацца Воўкаву таямніцу. Хто ён, адкуль прыйшоў, няўжо заўсёды быў такім ваўкаватым, як зараз? Было трохі страшна думаць пра Воўку, але ж цікава. Гэта як у кашмарным сне — хочаш прачнуцца, а не можаш, страшна, але цікава, што ж будзе далей… Мяне ўсё больш і больш цягнула да ваўкаватага дзядзькі. Пайду ў лес у ягады ці грыбы, а сама наразаю кругі непадалёк Воўкавай сялібы, добра, што яна знаходзілася каля самага лесу. І вось аднойчы мне пашанцавала…

Гэта было напачатку верасня. Самы грыбны час. Ужо пачало вечарэць, але слінявыя маслюкі самі прасіліся ў кошык. Я не магла спыніцца, збіраючы грыбы, усё глыбей заходзіла ў лес. Пра Воўку нават забылася. Канечне, дарослыя не дазвалялі мне хадзіць адной у лес, але я не заўсёды іх слухалася, парушала гэтыя забароны. Ніколі не баялася заблудзіцца, бо царства дрэваў — мая родная стыхія. І дзед мой, і прадзед былі леснікамі… Тата кажа, што Снарскіх лес любіць, а я тату веру…

Воўку я пабачыла з-за маладога алешніку, дакладней, спачатку пачула шоргат лісця пад яго нагамі. Азірнулася, гляджу — Воўка. Як заўсёды, змрочны, ідзе неяк надта хутка для сваёй кульгавай хады, нібы спяшаецца некуды, і кошыка ў яго руках няма. Сцішылася за кустом, як мяне і няма. Прапусціла Воўку наперад, на адлегласць свайго бачання, і ціхенька пабегла следам. Перайшлі поле, узмежак, невялікі сасновы лясок, і раптам перад вачамі адкрылася вялікая паляна з рэшткамі нейкіх будынкаў, парослых хмызам, травой. «Нібыта тут вёска была калісьці або хутар», — падумала я і ўспомніла бабуліны аповеды пра хутары, з якіх сышлі людзі яшчэ перад вайной, калі быў моцны голад. Я назірала за кульгавым Воўкам, а ён паводзіў сябе так дзіўна, што думкі пра ваўкалака зноў замітусіліся ў маёй галаве. Дзядзька падышоў да вялікай ямiны, зараслай травой (такіх шмат было ў лесе, мы з хлопцамі называлі іх акопамі, на самай справе гэта варонкі, куды патраплялі бомбы), паглядзеў уніз, а потым загаласіў, як за памерлым, упаў на зямлю і па-

чаў качацца па траве. Ён стагнаў і выў, нібыта воўк, хапаўся рукамі за траву і вырываў яе з карэннем… Ад жаху валасы падняліся на маёй галаве. «Зараз ён кіне ножык, тры разы цераз яго перакуліцца і… стане ваўком. — Я ўявіла, як ў кульгавага Воўкі адрастаюць воўчыя іклы і кіпцюры… — Калі ён пабачыць мяне, то разарве на дробныя кавалачкі… Казала мне бабуля, каб я не хадзіла адна ў лес…» Заплюшчыла вочы моцна-моцна, затуліла іх вільготнымі далонькамі, ужо збіралася бегчы назад, дадому, але куды бегчы, калі я не запомніла дарогі… Жах-жахлівы… Па маіх лытках пацякла цёплая вільгаць…. ды я на гэта нават увагі не звярнула, похапкам выскачыла з-за раскідзістай бярэзіны, за якой хавалася.

— А-а-ай! Пашкадуй мяне, дзядзька Валодзя! Я ведаю, што ты ваўкалака! — закрычала я ахрыплым, нейкім зусім не дзіцячым голасам. Кульгавы Воўка перастаў галасіць і цяжкім поглядам паглядзеў на мяне:

— Ты хто і што тут робіш?

— Я… я… Грыгаронка ўнучка, Інка.

Маё паяўленне тут, сярод лесу, было такім нечаканым, што Воўка забыўся на свае воўчыя справы і стаў звычайным дзядзькам, здзіўленым, трохі разгубленым. У рэшце рэшт ён згроб мяне ў ахапку, як вязанку дроў, пачаў суцяшаць. Ад такой нечаканай пяшчоты я заплюшчыла вочы і зараўла яшчэ больш, заліваючы слязьмі яго кудлатую бараду, прапахлую тытунём і зямлёй.

— Дзядзя Валодзя, а я думала, што ты — воўк, ваўкалака… Яшчэ трохі — і перакінешся.

— Дурненькая, — пяшчотна сказаў кульгавы Воўка і пагладзіў мяне па галаве. — А чаму гэта ты адна ходзіш у лес? Хіба табе бабуля з дзядулем дазваляюць?

— Не-а, не дазваляюць… Але я ўсё роўна хаджу, бо не магу дома ўседзець, калі ў лесе столькі грыбоў… — Я ўжо не галасіла, а толькі ўсхліпвала, паклаўшы галаву на плячо Воўкі, які аказаўся зусім не такім жудасным, якім я сабе яго ўяўляла. Нарэшце зусім асмялела і наважылася задаць пытанне, якое даўно мяне хвалявала.

— А што ты тут робіш, дзядзя Валодзя? У цябе нават кошыка няма…

Кульгавы Воўка асцярожна паставіў мяне на зямлю, намацаў у кішэні пачак «Беламору» і запалкі, прыкурыў папяросу… Дзядзька маўчаў, а яго погляд хаваўся ў цемры ўласнага мінулага, нявыказаных, засмяглых жахаў… Зацягнуўся раз, другі, а далей папяроса гарэла сама па сабе, аж пакуль не апаліла пальцы, тады ён войкнуў, выпусціў недапалак з рук і нібыта прачнуўся ад сну.

— Разумееш, я тут некалі жыў… і жылі тыя, каго я любіў больш за жыццё…

Воўкавы вочы звечарэлі, і такі там быў сум, такое гора, што я пашкадавала, што завяла гэтую размову. «Хіба з такімі вачамі гавораць пра любоў?» — падумалася, ды я не перабівала, баялася збіць з думкі і без таго нешматслоўнага чалавека.

— Калісьці мы жылі на гэтым хутары, ён называўся Падлеснае — мая жонка Тамара, дачка Ярына і я. Калі я пайшоў на вайну, дачка і жонка засталіся тут. Угаворваў жа я Тамару паехаць да сястры ў Полацк, разам было б лягчэй выжыць, ды яна і слухаць не хацела. Упартая… Сказала, што тут мяне дачакаецца… Спачатку я атрымліваў з дому лісты, жонка часта пісала мне на фронт, а потым перастала… Адчуваў жа сэрцам, што нешта такі ў іх здарылася, ды не хацелася верыць… А калі вярнуўся і пабачыў вось гэтую яміну на месцы хаты і двара, адразу ўсё зразумеў…

Дзядзька запаліў яшчэ адну папяросіну, ды яна зламалася ў яго руках… Ён скамячыў пачак, бо там ужо не засталося папярос, хацеў кінуць на траву, ды запхнуў у кішэню… Паглядзеў на мяне…

— Не ведаю, ці зразумееш ты ўсё гэта?.. Малая ж зусім… ды трэба мне выгаварыцца, хоць нейкай жывой душы расказаць… бо гавару толькі з дрэвамі… Ці ў сне з роднымі гэтаксама гавару… Дык вось… Спярша хацеў нешта з сабой зрабіць, не хацелася жыць, і ўсё… Як я без іх? Ды падумаў, што гэта вялікі грэх, вось так рукі на сябе накласці… бо калі такое ўчыню, ніколі не сустрэну жонку і дачку на тым свеце… Хто яго ведае, як там, але ж… можа, і недарэмна ка-

жуць такое людзі… Хачу сустрэцца там з імі хаця б пасля жыцця. Гэтая надзея і трымае на свеце… Чаму сюды прыходжу?.. Гэтая яміна нібы магілка іхняя, тут недзе яны ляжаць… А яшчэ засталася… яблынька, яна адзіная ўцалела з усяго нашага саду. Калі ўжо зусім кепска, прыйду сюды, сяду пад яблыню, прыціснуся да яе плячамі і, верыш, становіцца трохі лягчэй. Тады мне здаецца, што я не адзін…

— Дзядзя Валодзя, ты ж напраўду не адзін! Вось я… А цябе ж яшчэ бачыць і шкадуе Бог! Вось ён паслаў мяне на дапамогу, каб я ўсё пабачыла, і адчула, і зразумела… Мне так сорамна, што я такое пра цябе раней думала… нібыта ты ваўкалак. І яшчэ сорамна… што я ўпісялася ад жаху, як маленькая…

Пасля гэтага здарэння, я пачала хадзіць да дзядзькі Уладзі ў госці амаль штодня. Мы размаўлялі на розныя тэмы, я расказвала пра свае крыўды і радасці, пра сваіх сяброў. Нарэшце дзядзька паказаў, што знаходзіцца ў ягоным хлеўчуку… На паліцах стаялі цацкі, якія ён выстругаў з дрэва ўласнымі рукамі — качачкі, конікі, зайчыкі, сабачкі. Некалькі цацак Воўка падарыў мне, а іншыя пакінуў для сваёй дачушкі, каб яна ведала, што бацька кожны дзень пра яе успамінае… Калі дзядзька Валодзя пагаліўся і падстрыгся, то аказаўся зусім не старым і нават сімпатычным. Праз нейкі час ён пачаў будаваць сабе новую хату, а я пайшла ў школу. Ды гэта ўжо зусім іншая гісторыя…

## А мне не балюча…

Калі ў Сястронках вяселле, дык гуляе ўся вёска. Галоўнае, каб сталоў і лавак хапіла. Ставяць іх літарай «т» цераз усю хату, і панеслася… На вяселле запрашаюць і дарослых, і дзяцей, і зусім старэнькіх. Свята — дык жа для ўсіх свята! Ужо не памятаю, хто жаніўся, а хто замуж выходзіў, але там я пабачыла… ЯГО. Насупраць нас з мамай сядзеў прыгожы вясёлы хлопец гадоў сямнаццаці з русявым кучаравым чубам, блакітнымі вачамі. Як на першы погляд — нічога асаблівага, але яго ўсмешка — сціплая, далікатная, нібы ён усіх трохі саромеўся, мяне зачапіла. Нешта адбылося глыбока ўва мне, нібы стрэлкі гадзінніка пабеглі хутка-хутка: перад-

зімовая імгла, мяцеліца, першыя пралескі, ландышы, суніцы, яблыкі, жоўтае лісце, — і так па коле, па коле, ляцела мая душа ў тое невядомае, чаму і назвы тады яшчэ не ведала, але ж адчувала, адчувала… Калі Пятрусь глядзеў на мяне сваім сарамлівым поглядам і нашыя вочы сустракаліся, я раставала, нібы масла на сонцы, і спаўзала пад стол. Матуля падхоплівала мяне недзе на паўдарозе да падлогі, вяртала на месца, але праз хвіліну я зноў спаўзала, і ўсё паўтаралася спачатку. Шчокі палымнелі, я прыкладала да іх пустую шклянку дном, каб неяк суцішыць хваляванне, ды гэта не дапамагала. Вясельны стол быў застаўлены рознай смакатой, адны галубцы чаго вартыя, ды ежы для мяне нібыта не існавала — я бачыла толькі блакітнавокага красунчыка насупраць. Сэрца выскоквала з грудзей, бухкала, як дзедаў молат па накавальні. Матуля ніяк не магла зразумець, што са мной адбываецца, краналася далонню лоба, а раптам тэмпература, нядаўна ж хварэла… Я таксама не разумела, што са мной, папрасілася на свежае паветра, больш не магла вытрымліваць такога напружання.

— Мамуся, я хуценька, толькі куранятак пакармлю, туды — і адразу сюды, ты нават засумаваць не паспееш…

Матуля дапамагла апрануцца, і я пабегла на двор… Але і там лягчэй не стала: рабіла выгляд, што гуляю, а сама праз акно падглядвала за сваім каханым. У рэшце рэшт нехта з дарослых звярнуў увагу на мае незвычайныя паводзіны. Пачалі распытваць, што ды як, і я не вытрымала — падзялілася таямніцай…

І тады мяне вырашылі з Пятром сфатаграфаваць.

— Ідзі сюды, Іначка, не бойся, ты яму таксама падабаешся…

Для дарослых, напэўна, гэта было нечым дзіўным, незразумелым, вясёлым, а я тады ўпершыню адчула не толькі закаханасць, але і першае расчараванне ў людзях… «Як маглі дарослыя расказаць Пятру маю таямніцу? — у скрусе думала я. — Напэўна, і ён смяяўся з мяне, не верыў, што такое магчыма…» Першы сорам, першы страх быць асмяянай, разгубленасць, няўпэўненасць… Усё гэтыя пачуцці віравалі ўва мне і вырываліся з плачам на свабоду… Я па-

бегла па сястронскім бальшаку, звярнула да лесу, толькі б далей ад гэтага вяселля, няшчырых, злых людзей, глытала на хаду слёзы, як атруту, здавалася, памру тут і зараз. «Вось і ўсё. Вось і ўсё…» Канец лістапада быў халодным, нібы снежань, снегу яшчэ не было, ды зямлю ўжо сціснуў першы, надзіва люты мароз. Хацелася ўмерзнуць у гэтую глебу, як крыга. Скінула сваё футрачка, каб хутчэй бегчы, каб ніхто не дагнаў, не знайшоў, не пасмяяўся… «Ніколі не вярнуся на тое дурное вяселле, няхай там нячысцікі скачуць, лепш замерзнуць у лесе, сустрэць ваўкоў, ператварыцца на ваўкалака… «Смейцеся! Смейцеся! — думала я, — толькі мне не балюча! Мне не балюча!»

Ужо каля самага лесу мяне дагналі, падхапілі на рукі, захуталі ў цёплую коўдру, ды ўсё ўва мне здранцвела, анямела, нібы я — ужо не я. Раптам стала абыякава, што са мной будзе адбываецца далей. Абмякла, скарылася… «Няхай будзе, што будзе…»

А потым мяне паставілі побач з Пятром і сфатаграфавалі. Так і засталося ў нашым сямейным альбоме смешнае фота: разгубленае куранятка ў футрачку і валёнках, а поруч, прысеўшы на кукішкі, сімпатычны вясёлы юнак. І надпіс прыгожым матуліным почыркам на зваротным баку: «Іна са сваім “жаніхом”. Тры гады дзевяць месяцаў».

## Земляное сонца

Баба Франя была нават нейкай нашай раднёй, не кроўнай, а праз дзядулевага брата, Міколу, якога я зусім не памятаю. Трохі яны пажылі разам, сына Пецьку нарадзілі, але потым нешта ў іх пайшло не так: сварыліся — мірыліся, сварыліся — мірыліся, а потым узялі і разышліся. Франька знайшла сабе іншага мужыка — горкага п’яніцу Шурку. Невысокі той дзядок, падобны на злоснага гнома, на дзяцей зыркаў з-пад лоба, а бывала, што і мыліцай замахваўся, проста так, дзеля парадку, каб баяліся. Цераз дзень Шурка лупцаваў сваю жонку, і яна прыбягала да маёй бабулі жаліцца на жыццё, выцірала слёзы замусоленым выцвілым фартушком, бабуля ёй спачувала, як-ніяк, а нібыта радня.

— Ды кінь ты свайго Шурку, колькі ўжо можна мучыцца! Наш Колька табе быў не такі, хоць не піў і не біў, а гэты алкаголік што, падабаецца?

— Ой, Мурачка, лацвей табе жыць за Грыгаронкам… Чужую бяду рукамі развяду, так? Як жа я Шурку пакіну, куды пайду? Выганю — дык здохне недзе пад плотам. Шкада… Жалею яго, дурня…

— Сама ты дурэпа, як рэпа! Цярпі тады… што слёзы праліваць?

У бабы Франі ад Шуркі было трое сыноў — Генька, Сашка і Колька, дарослыя ўжо дылды. Сядзелі ў маці на шыі, і, як і бацька, у чарку заглядалі. Адным словам, жыццё ў Франькі было беспрасветным, і таму я яе шкадавала. Як пабачу на вуліцы — то пернік прынясу, то апельсінам падзялюся, мне дзядзька Міхась з Масквы прывозіў, ён там вучыўся ў нафтавым інстытуце. Баба Франя ніякіх прысмакаў не бачыла, усё ішло на гарэлку. Толькі прывязуць у магазін — ужо стаіць у чарзе сярод першых. Насіла мужыку і сынам, тыя сароміліся выходзіць на вуліцу п’янымі…

Неяк баба Франя паабяцала мне паказаць земляное сонца. «Што гэта такое за дзіва-дзіўнае?» — я ўвесь час пра гэта думала, і нават сон прысніла. Земляное сонца нібыта жыве ў гары, як каменная кветка з казкі Бажова, дзядуля мне такую чытаў… Вось расколваецца гэтая гара, прыгожая такая, як вясёлка, і адтуль выкочваецца сонца. «Яно ж залатое», — кажа баба Франя ў маім сне. Я бяру сонца ў рукі, а яно не пячэ, толькі цёплае трохі, і вясёлка па ім скача…

Баба Франя паабяцала паказаць мне земляное сонца назаўтра, калі прыгоніць карову з поля. О, якія жаданыя тыя хвіліны чакання! Невыпадкова кажуць, што чаканне шчасця нават большае за самое шчасце… За бабай я падглядвала праз агарод, таўклася каля іхняй лазні, ледзь у сажалку не звалілася, але ў хату зайсці не наважвалася, баялася ўсіх тых п’яніц, якія сядзелі ў яе на шыі… І вось нарэшце мара, як хмара, — блізка-блізенька! Франька ідзе па бальшаку, гоніць дадому сваю аднарогую карову Зорку. Бягу да яе, махаю рукамі, як крыламі…

— Баба Франя, дык жа ж калі ты мне ўжо пакажаш земляное сонца?! Маё шчасце ўжо зачакалася! А ты… А я… Фух! Стамілася бегаць каля тваёй хаты і земляное сонца чакаць!

— Калі-калі? Дык вось… хоць цяпер. — Не спяшаючыся, яна прывязала карову да плота, правяла поглядам іншых кароў, якія, калыхаючыся, нібы вазы з сенам, праплылі па бальшаку. — А зараз, Іначка, заплюшчы вочы і дай мне сваю руку. Толькі не падглядвай, інакш земляное сонца не адчуеш…

«Вось яно… нарэшце збудзецца…» — мара замуркатала голасам майго ката Ваські, калі гладжу яго па галаве… Я моцна-моцна заплюшчыла вочы і даверліва працягнула бабулі сваю далоньку.

— А цяпер прысядзь, дзетачка, вось так, малайчына… — Баба Франя асцярожна ўзяла маю руку і рэзка тыцнула яе ў вялізны цёплы каравяк.

Яшчэ знаходзячыся ў сваім чароўным казачным свеце, я нават не зразумела, што ж такое на самай справе адбылося…

— Вось табе і земляное сонца! — Баба Франя рагатала, як шалёная, аж плот, на які яна апіралася, дрыжаў, а я разглядала сваю брудную далоньку, нібы бачыла ўпершыню… Хацелася крыкнуць бабе Франі «замры!», так мы з сябрамі крычым, калі гуляем у «Мора хвалюецца», а пасля расплюшчыць вочы і пабачыць, што ўсё гэта толькі гульня або сон, жахлівы, непрыемны, але сон… Вось я прачнуся, і ўсё будзе па-ранейшаму. Сонейка скіне з неба сваю вясёлую вясёлку, і я пабягу па ёй далёка-далёка ад злоснай дурнаватай бабулі, ад свайго сораму, крыўды, спадзяванняў, якія не збыліся…

* * *

…Бабу Франю я сустрэла праз шмат гадоў пасля свайго дзяцінства. Ужо нікога са старэйшых сястронскіх родных не было, у нашай хаце жылі чужыя людзі, якія спілавалі нават стагадовую елку каля акна. Ужо было цяжка пазнаць дарагія мясціны, якія зараслі, адзічэлі, нібы ператварыліся на нейкі залюстроўны свет, халодны, незнаёмы… А баба

Франя яшчэ жыла. Мяне пабачыў цераз агарод яе ўнук, калі расказала, хто я і што тут раблю, запрасіў у хату…

Баба Франя была такая старая, што нават забылася, колькі ёй гадоў… можа, сто, а можа, і больш. Бясколерныя вочы слязіліся, ужо амаль не бачылі, яна гублялася ў мінулым, блыталася ў сучасным, але ўсё ж пазнала мяне. Сказала: «Каб ты ведала, Іначка, як я стамілася жыць… Шуркі, сыноў ужо даўно няма, а я ўсё жыву і жыву…» Праўнук і ўнук бабы Франі палуднавалі ў суседнім пакоі, я бачыла іх праз адчыненыя дзверы, яны спрачаліся пра нешта, мацюкаліся. На стале, неахайна засланым старымі газетамі, акрамя нейкай бульбы, сала і агуркоў стаяла недапітая пляшка гарэлкі і яшчэ адна поўная, але ўжо адкаркаваная. Зразумела, што і гэтыя нашчадкі бабы Франі закладаюць за каўнер. «Якое няшчасце… такое вялікае жыццё… Ці была ў ім хоць нейкая радасць і… сэнс?» — падумала і спужалася ўласных думак. Ці ж можна асуджаць нечае жыццё, яго не пражыўшы? Тут бы са сваім разабрацца… Мне было страшэнна шкада бабу Франю, ды я больш не магла знаходзіцца ў гэтай тлумнай няўтульнай хаце, выбегла на чыстае паветра… Жахліва было нават азірнуцца. Здавалася: калі азірнуся — ператваруся ў саляны слуп… «Ці развіталася я з бабай Франяй?» Успамінаю, успамінаю — і ніяк не магу ўспомніць.

## Баба Даша і дзед Васіль

Баба Даша так моцна пакрыўдзілася на Жанку, што нават не хоча з ёй размаўляць. Сядзіць сабе моўчкі і гузікі на халаце прышывае. Вочы яе як гэтыя гузікі — круглыя і маленькія, і сама баба Даша такая маленькая і кругленькая, як здобная булачка. Яна добрая, але зараз злуецца, і не толькі на Жанку, але й на мяне, за кампанію. А Жанка што? А Жанка нічога — схадзіла да свайго дзеда Васіля ў госці, адведала проста. Калі б баба Даша магла, яна б пасадзіла Жанку ў торбу і насіла б з сабой — куды баба, туды і Жанка. Кроку маёй сяброўцы без бабінага дазволу нельга ступіць.

Вось сядзім мы з Жанкай за сталом і ў карты гуляем — у «мокрую курыцу». Гульня адпаведнае настрою. На двары — дождж. Калі б не дождж, мы б з Жанкай гулялі на вуліцы,

а так сядзім і на злосную бабу Дашу паглядаем. У паветры такая напруга — хоць ножыкам на кавалкі рэж. Толькі ці дапаможа? Эх, баба Даша, ну пры чым тут Жанка, калі вы з дзедам Васілём пасварыліся на ўсё жыццё? Няўжо і да смерці не даруеце адно аднаму? Дзед бы і рады памірыцца, ды баба, як няскораная партызанка, маўчыць і нават у яго бок не глядзіць. А Жанка між імі як масла паміж лустамі хлеба — то дзед яе раўнуе да бабы, то баба да дзеда. Так і жывуць…

Гэтая гісторыя пачалася яшчэ да вайны, калі Жанкі і ў памоўцы не было, а яе маці, цётка Святлана, толькі нарадзілася. Тады дзед Васіль і загуляў… Не падабаецца мне слова «загуляў», лепш «закахаўся». Вось, напрыклад, мой сябар Алег у мяне закахаўся, і яму б не спадабалася, калі нехта сказаў бы «загуляў»… Але пра дзеда Васіля, тады яшчэ маладога мужчыну, усе казалі менавіта «загуляў». Адным словам, пакінуў ён бабу Дашу з маленькай Светкай і на год старэйшым Алікам і пайшоў жыць у прымакі да Райкі Сташкоўскай. Чым яна прывабіла Васіля, бабы й да сёння плёткі плятуць — кажуць, што Райка была гарачая, а Дашка — халодная. Што гэта азначае, ніяк не магу зразумець: гарачай або халоднай можа быць гарбата, каша, суп у рэшце рэшт… Пры чым тут сястронская цётка? Ды як бы там ні было, а перабраўся дзед Васіль у іншы канец вёскі, туды, дзе жыла Райка. Паплакала баба Даша, пагаравала, ды што рабіць — стала жыць без мужыка…

— Дзед Васіль усю кроў бабуліну выпіў, — гаворыць Жанка. — Не я гэта сказала, а мая мама. Яны з братам Алікам і вокны хадзілі біць да Райкі, і вароты дзёгцем мазалі — нічога не дапамагло. А калі ў яе ад Васіля хлопчык нарадзіўся, Колька, яны такое прыдумалі, што і вымавіць страшна… Вырашылі немаўля ўкрасці і прадаць цыганам! Мама казала, што перад вайной у вёсцы шмат было цыганоў. Табарам стаялі каля лесу.

— І што, укралі? Прадалі?! — я аж рот разявіла ад жаху.

— Ды не, не прадалі. Кольку пашэнціла — вайна пачалася. Калі б не вайна — точна ўкралі б. Ведаеш, якая мая мамка рашучая? Раз — і адрэзала, раз — і адрэзала!

— Што адрэзала? — па маёй спіне прабеглі мурашкі.

— Дзяроўня ты неасфальтованая! — смяецца з мяне Жанка. — Гэта значыць, што мамка як скажа, так і зробіць. Рашучая, значыць. Як вайна пачалася, ёй усяго шэсць гадоў было, як нам з табой зараз, а дзядзьку Аліку — сем.

Дзед Васіль пайшоў на вайну. Адваяваў. Перад самай перамогай яго моцна параніла. Вярнуўся ў Сястронкі з гармонікам і без нагі. Доўга лячыўся перад гэтым у шпіталі. Дзед дахаты, а ў Райкі іншы мужык жыве — здаравенны такі, Вярнігара прозвішча. Ён і выглядаў як асілак, прозвішча, на дзіва, адпавядала. Калі скончылася вайна, гэты Вярнігара прыехаў у Сястронкі даглядаць свайго хворага бацьку і на Райку вока паклаў. Прысуседзіўся. Кантужаны, але ўсё пры ім. Тры месяцы пасля перамогі Васіля не было, і Райка падумала, што яе мужык загінуў, прапаў без вестак. Не пісаў ёй Васіль са шпіталя ні слова, саромеўся, што без нагі. А калі вярнуўся, Райка ўжо з іншым жыла… Вось і паскакаў дзед Васіль да бабы Дашы мірыцца… Яна яго ў хату не пускае, а ён слязамі заліваецца, кажа, што ўсё жыццё сваё перакрэсліў, калі да Райкі пайшоў. Дзяцей сваіх абдымае, цалуе, таксама прабачэння просіць… Пашкадавала яго баба Даша. Даравала. Прыняла.

Некалькі гадоў жылі добра. Святланку ды Аліка гадавалі. У дзеда Васіля пенсія добрая. Ён не шкадаваў грошай на дзяцей і бабу Дашу.

— Ведаеш, Інка, якая ў маёй мамкі была найлепшая цацка ў дзяцінстве? Лялечны домік. Тут ні ў кога такога не было. Яго дзед Васіль з Нямеччыны прывёз. Мамка ўсё жыццё марыла пра такі сапраўдны дом, і каб татка з імі ў гэтым доме жыў…

Усё б яно і нічога, ды дзед Васіль засумаваў. Сядзе ўвечары на прызбе, возьме свой гармонік і нешта такое тужлівае грае, быццам не жыццё ў яго з бабай Дашай, а пакута. Аказваецца, ён увесь гэты час Райку Сташкоўскую не мог забыць. А як Кольку, сына свайго ад Райкі, у вёсцы пабачыць, то лепш бы і не бачыў. Хлопчык ужо не памятаў свайго роднага бацьку, думаў, што ён сын Вярнігары, і ад гэтага сэрца дзеда Васіля балела яшчэ больш.

І раптам здарылася нечаканае. Пайшоў Вярнігара ў лазню мыцца, доўга парыўся там з мужыкамі, сваімі сябрамі, можа, і гарэлачка там была, а потым пачалі яны ў рэчку скакаць. Гэта быў канец сакавіка, толькі лёд сышоў. Скочыў Вярнігара ў ваду і… не вынырнуў. Сэрца спынілася. Ад кантрасту тэмператураў, дактары сказалі… І пачаў Васіль зноў у Райчын бок паглядаць…

— Ты чула, Матрона, Васька ж зноў хоча з Дашкай памірыцца. Старыя ўжо, хутка паміраць, кажа… Забыўся, як другі раз Дашку з дзецьмі пакінуў і сышоў да Райкі Сташкоўскай… — гэта баба Улляна з маёй бабуляй вясковыя падзеі абмяркоўвае, і сённяшнія, і колішнія. — І Вярнігару тады Райцы дараваў, і крыўду сваю пераскыў… Мёдам у яе паміж ног намазана, ці што? Глядзі ж ты: добрыя бабы жывуць без мужыкоў, а да такіх, як Райка-б…, у чарзе стаяць…

…І тады баба Даша свайго Васіля пракляла. Сказала ў нядобры час на голыя дрэвы нейкае такое страшнае слова, што ён моцна захварэў. Ванітавала дзеда, жывот моцна балеў. Ледзь не памёр. Ніякія дактары, ніякія лекі не дапамагалі. А пасля таго, як дзед Васіль ачуняў, у яго знік інтарэс да жанчын. Хадзілі яны з Райкай нават да Іваніхі здымаць порчу. Дала знахарка нейкія зёлкі, ваду пашаптала, ды не дапамагло яму тое лячэнне…

З Райкай Сташкоўскай дзед Васіль пражыў да канца яе дзён. Мая бабуля кажа, што ўсё жыццё сваю другую жонку на руках насіў…

— У дупу цалаваў сваю Райку, а яна ім пагарджала. Не кахала Васіля Райка, проста выкарыстоўвала ягоныя магчымасці як інваліда вайны — і дровы ім прывозілі ў першую чаргу, і гной на агарод, і машыну-інвалідку першым далі… Але сын іхні, Колька, вырас непуцёвы, не стаў падтрымкай бацькам. Нават у турме, кажуць, сядзеў. А пасля за мяжу з'ехаў, нібы на заробкі, а сам — канцы ў ваду. Ні атвету, ні прывету. Пракляла Дашка Васіля, пракляла…

— А я свайго дзядулю ўсё роўна люблю, што б там пра яго ў вёсцы ні казалі, як бы бабуля на мяне спадылба ні зыркала. Мой дзядуля заўжды такі добры, вясёлы. А як на гармоніку грае, заслухацца можна… — Жанка накрыла калоду

апошняй картай не ў масць, і яе стрыжаныя каштанавыя кудзеркі падскочылі ўгару. — Усё, скончылася гульня! Нічыя. І дождж скончыўся, бяжым на вуліцу!

Босыя, вясёлыя мы з Жанкай беглі навыперадкі па цёплых лужынах сястронскага бальшака ад хаты бабы Дашы да хаты дзеда Васіля. Мы радаваліся сонцу, небу, зялёнай траве — жыццю, і шкадавалі дарослых, якія не заўжды ўмеюць гэтае жыццё шанаваць. Спыталі б у нас, дзяцей, мы б ім расказалі…

## Ігар, гугнявая Светка і баба Іваніха

Ігар кахаў не мяне, і я не ведала, што з гэтым рабіць. Усё ўскладнялася тым, што Ігар быў маім лепшым сябрам, а значыць, давяраў свае таямніцы. Кожны раз, калі ён прыходзіў у госці і пачынаў расказваць пра гугнявую Светку, мне хацелася заткнуць вушы і выбегчы з хаты, ляпнуць дзвярыма так, каб аж клямка задрыжала, але ж даводзілася слухаць і спачувальна ківаць галавой, бо якая ж я сяброўка, калі не магу свайго лепшага сябра выслухаць. Ігар такі кавалер — кату па каўнер. Сем год усяго, толькі восенню ў школу пойдзе. Хто б мог падумаць, што ён будзе сохнуць па дарослай дзеўцы. У параўнанні з намі Светка была проста старою — сёлета скончыла школу, рыхтавалася паступаць у медыцынскае вучылішча. Дзяўчына моцна картавіла, асабліва ёй не даваўся гук «г». Да таго ж яна была дужа худая, як казалі сястронскія цёткі — ні сісі, ні пісі і ж…па з кулачок. Проста не разумею, што Ігар у ёй знайшоў, але, жадаючы неяк падтрымаць сябра, я намагалася зірнуць на Светку яго вачамі. Тады здавалася, што ўва мне жывуць дзве Інкі — адна лагодная і добрая, а другая жорсткая і злая. Бррр… Спрачаюцца яны між сабой, як рэпу грызуць, а я недзе пасярод стаю — то мне брыдка на Светку глядзець, то цягне да яе нешта падсвядомае, немінучае. «Хутчэй бы Светка з’ехала ў горад да сваёй вучэльні ці выйшла б замуж за каго-небудзь, — думала я, — вось хоць бы за Пецьку. Добры малец, толькі што з войска вярнуўся…»

Ігар быў закаханы ў Светку таемна. Яны жылі побач, цераз гарод, таму ён сачыў за кожным рухам сваёй каха-

най: вось яна дастае ваду са студні, вось заганяе ў двор карову, вось ідзе ў лазню… Ён заўсёды цягнуўся следам, калі Светка з сяброўкамі ішла купацца на рэчку. Часам дзяўчаты бралі Ігара з сабой, і тады ён адчуваў сябе па-сапраўднаму шчаслівым, здавалася, падрастаў на цэлую галаву. А што на самай справе? Дзяўчаты проста загадвалі маленькаму Ігару глядзець іхняе адзенне, пакуль яны купаюцца ў рэчцы, бо старэйшыя хлопцы часам падкрадаліся непрыкметна, забіралі дзявочыя сукенкі й закідвалі на высокія дрэвы, так яны намагаліся звярнуць на сябе ўвагу, а дзеўкам потым клопату не абярэшся, паспрабуй тое адзенне дастаць. Светка нават не магла ўявіць, якія пачуцці перапаўняюць сэрца майго сябра, калі яна выціскала мокрыя валасы ці кранalася рукамі грудзей, калі выходзіла з вады. Дзяўчаты часам купаліся без станікаў, хто б там саромеўся малога Ігара…

Для Ігара Светка была красуняй. Тое, што ў маіх вачах было недахопам, у вачах майго сябра выглядала непаўторнасцю. У душы Ігар быў паэтам, толькі чаму гэтая паэзія адрасавалася гугнявай Светцы, а не мне?

Аднойчы, каб паназіраць за Светкай і зразумець, чым жа яна дыхае, я папрасілася са старэйшымі дзяўчатамі ў лес па ягады. На дзіва, яны пагадзіліся, і вось я нібыта збіраю чарніцы, а ў самой — вушкі на макушцы. Ну хто я такая для Светкі? Нейкая маляўка, муха-цакатуха, назірай толькі, каб далёка ў лес не зайшла і не заблудзілася. А ў дзяўчат толькі і размоў было, што пра хлопцаў. І ўсе яны чамусьці былі не такія, як трэба: той дурны, той крываногі, той шалёны, б’ецца, калі за каўнер заліе. І толькі адзін сярод іх прыстойны малец — Колька Зуёнак з Чарняі, Светчын аднакласнік. Дзяўчына бясконца ўспамінала, як яны вальс на выпускным вечары таньчылі, як ён завёў яе за клуб і пацалаваў у вусны, а потым так прыціснуў да сябе, што яна аж войкнула. Потым гугнявая Светка зашаптала сваёй сяброўцы Лідцы на вуха нешта такое, што тая аж пырснула са смеху. А мне было не смешна, а крыўдна, здавалася, нібы яны смяюцца не з Колькі, а з Ігара… Мне хацелася надзець кошык з чарніцамі на Светчыну дурную галаву, каб яна больш не смяялася. Ды малая ж, не дацягнуся…

Пасля гэтага выпадку гісторыя трохі праяснілася: я кахаю Ігара, Ігар кахае Светку, а Светка — Кольку Зуёнка з Чарняі. «Вось бы і Колька пакахаў Светку, — думала я, — тады б яны пажаніліся, а Ігар пагараваў-пагараваў і звярнуў бы нарэшце ўвагу на мяне». Ды не ўсё было так проста. Аказваецца, пакутавалі ад непадзеленага кахання не толькі мы з Ігарам, але й Светка. Праз некалькі месяцаў яна зацяжарала, а замуж не выйшла. Праз тую цяжарнасць Светка і вучыцца ў Полацк не паехала. Як ні хавала яна сваё пуза, ды сукенкі трашчалі па швах, усе ў Сястронках гэта бачылі.

— Сапсаваў Колька Светцы жыццё, сапсаваў… — абмяркоўвалі вясковую падзею баба Мура з бабай Франяй.

— А нечага было раскідаць ногі да вяселля. У нашу маладосць такога не было. Таму мы ў падоле дзяцей не прыносілі. Не давалі пацалунак без кахання…

— А калі гэта каханне? — мая бабуля намагалася абараніць Светку.

— Ды якое там каханне? Дзе ты яго, Матрона, бачыла? Хіба ты за свайго Грыгаронка па каханні выйшла? Засталася малалеткай адна-аднюткая, без бацькоў, вось Іван цябе і падабраў, нашмат старэйшы, бацьку замяніў… Без мужыка ў вёсцы не пражывеш. Да… Вось і ўсё каханне…

З гэтых размоў мне цяжка было нешта зразумець, але сэрцам адчула — Светку трэба ратаваць. І тады я вырашыла пайсці да ведзьмы бабы Іваніхі па прываротнае зелле, каб Кольку зачараваць і да Светкі прыгарнуць…

Баба Іваніха была вясковай знахаркай, але за вочы яе называлі ведзьмай. Звяртаючыся час ад часу да яе са сваімі патрэбамі, вясковыя цёткі і бабулькі спачатку доўга маліліся дома на абразы, прасілі абароны Маці Божай, а потым ужо пераступалі ганак Іваніхі. Баяліся, невядома, каго больш: Бога, за тое, што ён пакарае за гэткі крок, ці самой бабкі-шаптухі, якая можа, калі што не спадабаецца, зачараваць насмерць. Баяліся, але ўсё роўна ішлі. Ці не ў кожнай вялікай вёсцы тады жыла свая ведзьма, і наша была не з горшых. Баба Іваніха замаўляла ваду малітвамі, лячыла зёлкамі, варажыла на картах і плаўленым воску і нават магла пагаварыць з нябожчыкамі з дапамогаю вешчага сну.

Выглядала ведзьма як звычайная бабулька, толькі трохі ваўкаватая, непрыветная. Яна рэдка ўсміхалася, ніколі не абмяркоўвала вясковыя падзеі і навіны, не загаворвала першай, а калі віталася, не глядзела людзям у вочы, магчыма, такім чынам берагла сваю сілу. А яшчэ баба Іваніха была вусатай. Канечне, яе вусы не такія, як у мужчыны, але ўсё ж былі добра прыкметныя на жаўтаватым, ні крывінкі, твары. Іваніха апраналася ва ўсё цёмнае, я ніколі не бачыла яе ў сукенцы або кашулі з кароткімі рукавамі. Нават летам яна насіла даўгую ваўняную спадніцу, вязаную карычневую кофту або чорную сукню, на галаве — хустка пад горла.

Канечне, я б ніколі не пайшла да Іваніхі, калі б мяне не хваляваў лёс Ігара і Светкі. У маіх фантазіях іхнія лёсы перапляталіся настолькі цесна, што я лёгка магла ўявіць, як вырасшы, пасталеўшы Ігар носіць на руках Светчына дзіця, як водзіць яго ў школу. А вось Ігар цалуе Светку, іхнія рукі сплятаюцца… Я шчыльна заплюшчвала вочы, і яшчэ раз заплюшчвала ўжо ў сваёй уяве, каб не думаць пра гэткую будучыню, але думкі звінелі над галавой, як дзядулевы пчолы над квітнеючымі яблынямі, заблытваліся ў маіх валасах, балюча джалілі. «Вось калі б Колька пакахаў Светку, як бы добранька было», — думала я і ўяўляла, як хлопец дорыць ёй кветкі, як яны становяцца на вясельны ручнік… А ў Светкі ўжо такі жывот, што ніякая сукенка не схавае… Колька спрабуе падняць Светку на рукі і не можа адарваць яе ад зямлі, такая яна тоўстая і цяжкая… Раптам, проста пасярод вяселля, яна пачынае крычаць і з-пад яе сукенкі выкочваецца мокры, слізкі качан капусты… За ўсім гэтым назірае Ігар, яму становіцца агідна, яго ванітуе і… дурное яго каханне знікае само сабой, як і прыйшло. Чур яго на каптур!…

Тым часам я падышла да хаты бабы Іваніхі сама не заўважыла як. Ведзьма сядзела на завалінцы і нешта шыла. Я паглядзела на яе сухія пакручаныя, як карэнне, рукі і аслупянела: яна трымала на каленях даўгую вясельную сукенку і падшывала каўнер. Маё сэрца пахаладзела: няўжо фантазіі пра Светчына вяселле пачынаюць збывацца?

— Што табе трэба, дзяўчынка? — спытала Іваніха глухім скрыпучым голасам, не падымаючы на мяне вачэй.

— Мне трэба… я хачу… Я тут таму… Мне патрэбна прываротнае зелле, вось! — са злосці на сваю нерашучасць, я так гаркнула, што і сама спужалася.

Іваніха адарвала позірк ад шыцця, і я пабачыла нарэшце, якія страшныя ў яе вочы — слязлівыя, нібыта ведзьма толькі што глядзела на сонца, а на правым воку агідным жаўтаватай лужынай разлілося бяльмо. Позірк ведзьмы быў цяжкі, уважлівы і пранізліва-самотны, у гэты момант мне здалося, што яна зазірнула проста ў маю душу. «Вось чаму яна не глядзіць на людзей — саромеецца сваіх вачэй», — падумала я, і ад гэтай думкі ранейшы жах некуды знік, як і не было.

— Гэта будзе восенню. Яе вяселле будзе восенню. Не трэба чары, ён і сам да яе прыйдзе… Толькі навошта? Яны не будуць шчаслівымі… А твой хлопчык усё роўна цябе не пакахае. Пасля дзяцінства вы з ім больш не сустрэнецеся… — Баба Іваніха гаварыла так, нібыта чытала нябачную нябесную кнігу. Я толькі адкрыла рот, каб спытаць нешта яшчэ, але ведзьма прыклала палец да сваіх вуснаў, заклікаючы мяне маўчаць і слухаць…

— Я шыю для Светкі вясельную сукенку. Яна мне ўнучатая пляменніца. Няма ў мяне сваіх дзяцей, унукаў. Мужык з вайны не вярнуўся… Мы з Фёдарам ажаніліся незадоўга перад вайной. Першае сваё дзіця я скінула. Бог не даў больш… Мабыць, за мае грахі. Як іх адмаліць?.. Ідзі ўжо. Я і так табе зашмат сказала…

Светка выйшла замуж за Кольку ўвосень. Цераз тры месяцы ў іх нарадзіўся хлопчык. На вяселлі Светка была ў невымоўна прыгожай сукенцы з вышытымі шафранавымі птушкамі. Ігар назіраў за вяселлем здалёк і плакаў.

## Чароўная студня

Гляджу ў студню, шукаю на дне зоркі. Колькі разоў такое бачыла ў сне, а тут мне ніякіх зорак, адно акрайчык неба і здзіўлены твар з вясёлымі касамі ў розныя бакі. Па гэтых касах сябе і пазнаю, бо адбітак твару ў вадзе такі цёмны, нібы ноч на двары, і чым ніжэй нахіляюся, тым гэтая цемната шчыльнейшая. Ну дзе тыя зоркі, дзе?.. Вось калі б ухапіцца

за вяроўку ад вядра і спусціцца глыбей у студню, была б іншая справа, бо менавіта там, у глыбіні, і хаваюцца днём зоркі.

— Інка, калі ты ўжо прынясеш ваду, буракі няма чым паліваць! — крычыць мне з гарода бабуля. Яна пераапранаецца ў сухую кофту каля ржавай бочкі, бо старая змакрэла, і чакае, калі ж я прынясу свежай вады са студні. У бочцы вада цёплая і мёртвая, а ў студні — жывая і халодная, бо там жывуць зоркі. І калі жывую ваду змяшаць з мёртвай і паліваць градкі, расада ажыве, не толькі буракі, але і ўсё, што ні пасадзіш. Бабуля не ведае, што я закапала на агародзе непадалёк нашай яблыні-антонаўкі грэцкі арэх, са свайго навагодняга падарунка зберагла. Ужо тыдзень палiваю, каб з гэтага арэха дрэва вырасла, але яно не расце, халера, можа, таму, што ў Сястронках не так цёпла, як у Грэцыі… Гэта мая таямніца. Ужо некалькі разоў я бачыла ў сне, як пад зямлёй расколваецца чарапахавы панцыр арэха і выпускае тоненькую сцяблінку, як на ёй з'яўляюцца лісцікі, галінкі, а потым на гэтых галінках вырастаюць смешныя калючыя пупырышкі, якія нагадваюць зялёныя ягады. Менавіта з гэтых пупырышак пасля арэхі з'яўляюцца. А аднойчы, у маім сне, з аднога арэха праклюнулася маленькая дзяўчынка, я толькі паспела яе на рукі падхапіць. Потым, калі прачнулася, я даведалася, што ў майго дзядзькі Івана і цёткі Марыі дачка нарадзілася. Светкай назвалі. Гэта мая стрыечная сястра, другая бабуліна ўнучка.

Я трохі баюся, калі мне сняцца «вешчыя сны», некаторыя потым збываюцца. А што, калі я, нібы знахарка Іваніха, у снах нешчае будучае магу пабачыць, лёс прачытаць? Добра, калі да шчасця прысніцца, а калі да няшчасця? У будучым жа не толькі добрае трапляецца, але і дрэннае. Таму і баюся.

— Баба Мура, а я з зубамі нарадзілася ці не? — гэта я ўспомніла бабульчын аповед пра тое, што чараўніцы і знахаркі, калі нараджаюцца, ужо маюць зубы. Бабуля здзіўлена на мяне паглядзела, аж бураковую расаду выпусціла з рук, ды так і не змагала прачытаць маіх думак пра чарадзейства.

— Гэта ты ўспомніла пра свой зубік, які мы ўчора за печ закінулі? Не хвалюйся, Іначка. Мышка твой малочны зуб

забярэ, а новы прынясе, і будзе ён крапчэйшы і здаравейшы, чым стары…

Я дакранулася языком да месца, дзе раней рос малочны зуб, і з прыемнасцю адчула цвёрды бугарок, значыць, новы зуб расце, не доўга мне ўсміхацца дзюркай.

— А новы зуб трэба паліваць жывой і мёртвай вадой, каб ён добра прырос? — Я аж скрывілася, уявіла, як набіраю зялёную ваду з іржавай бочкі сабе ў рот, а потым у мяне вырастаюць зубы-веліканы… І вось я нібы па ваду пайшла, зазірнула ў студню і пабачыла ў вадзяным адбітку не сябе, а ведзьму Іваніху з ікламі, як у ваўка. Яна жудасна зарагатала, і з рота жаба выскачыла… Бррр… І што толькі мне ў галаву лезе?..

— Бабуля, а ты хадзіла калі-небудзь да знахаркі Іваніхі? Яна добрая чараўніца ці злая ведзьма? — мне цікава, што скажа бабуля, бо сабе я не надта давяраю, у мяне адна думка скача, а другая плача.

— Вясковая знахарка — як доктарка. Толькі лечыць яна не лекамі, а замовамі, травамі, малітвамі… Калі мы з Іванам, тваім дзедам, ажаніліся, гэта было яшчэ да вайны, напала на мяне нейкая невядомая хвароба. Удзень я хадзіла як сонная, нічога мне не хацелася, нічога не радавала. Ноччу не магла заснуць — трызніліся памерлыя бацькі, брат і сястра, нібыта з імі размаўляю, і жывём мы яшчэ ў нашай старой хаце на хутары, яшчэ да раскулачвання. Каса ў мяне доўгая да пояса. І раптам выпаўзае з касы вужака і пачынае мяне душыць… Дайшло да таго, што я свайго Івана, твайго дзеда, перастала пазнаваць… Ніякія дактары не маглі мне дапамагчы. Што рабіць? Тады Іван запрог каня ў калёсы і павёз мяне да бабы Іваніхі. Яна тады яшчэ была маладой, але знахарствам ужо займалася. Нічога не памятаю, у тумане ўсё было, мне потым Іван пра ўсё расказваў. Нібыта паглядзела Іваніха мне ў вочы і сказала, што моцна сурочыў мяне нехта на вяселлі, кінуў ножык у мой цень. Чалавеку без ценю жыць немагчыма, ён або памірае, або вар'яцее. І ніякія дактары тут не дапамогуць, бо гэта хвароба на цень. Пашаптала тады Іваніха над свянцонай вадой, крыжык на маім лобе намалявала, твар абмыла, на валасы трохі лінула, а тое, што

засталося ў слоіку, наказала выліць на сутоку дзвюх крыніц у дванаццаць гадзін ночы. Мы ўсё зрабілі, як яна сказала, і трохі развіднелася ў маёй галаве. Але гэта было яшчэ не ўсё лячэнне. Наступнага разу мы прыйшлі да знахаркі з Іванавым кажухом. Паклала яна мяне на кажух тварам уніз крыжам. Малітвы, замовы чытала, паліла нада мной нейкія зёлкі, а потым узяла вугалёк і абвяла вакол майго цела, нібы выкрайку зрабіла. Я адразу неяк супакоілася, а калі прыехалі дадому, заснула, як немаўля. Спала доўга, можа два дні, а прачнулася здаровай, як нічога і не было. Так што Іваніха мне дапамагла…

— Выходзіць, што баба Іваніха добрая… Але ж чаму мне так страшна, калі яна па нашай вуліцы ідзе? І бяльмо ў яе такое агіднае…

— Разумееш, Іначка, людзі невядомага баяцца, таго, чаго не могуць розумам патлумачыць. А слухаць чалавека трэба сэрцам. Невядома, адкуль знахарка сваю магію ведае. Можа, ёй нячысцік замовы нашаптаў, а можа, і анёл? Дабро і зло мы не заўсёды можам адрозніць, таму што ў нашым сэрцы жыве першародны грэх. Цераз гэты грэх мы дрэнна бачым, нібы бяльмо на сэрцы носім. Іваніха ж адным вокам бачыць лепш, чым мы з табой абодвума…

— Выходзіць, што кожны чалавек напалам добры, а напалам злы?

— Так, Іначка. Вось чаму кожны дзень трэба маліцца і прасіць у Божанькі дапамогі, каб ён змыў плямы з нашага сэрца, каб яно лепш бачыла і разумела, дзе дабро, а дзе зло… Дарэчы, маленькія цуды сустракаюцца кожны дзень, толькі мы не разумеем, што гэта цуды… Вось вырастуць гэтыя бурачкі, што мы з табой пасадзілі, — ужо цуд. Паглядзі, якія фарбы разлітыя па кветках, па крылах мятлікаў і птушак… Мы жывём сярод такой зямной прыгажосці, а часта не бачым яе, не цэнім, не дзякуем…

Назаўтра, я назірала, як кволая расада бурачкоў падняла з зямлі свае зялёныя з чырвонымі пражылкамі вушкі. Бурачкі тырчалі з градкі роўнымі радочкамі і радаваліся кожнаму імгненню сястронскага лета. Гэта падзея стала для мяне тым маленькім дзівам, якое зрабілі мы з бабуляй,

а таксама жывая вада з нашай студні, месца, дзе днём начуюць зоркі. Наш дзень для зорак — ноч, я так думаю. Назаўтра дзядуля Іван змайстраваў новую драўляную дзежку, мы з бабуляй нанасілі туды чыстай крынічнай вады, і яна зажыла сваім жыццём, пра якое мы нічога не ведаем. Удзень я старанна палівала свой грэцкі арэх, а ноччу, перад тым як заснуць, лічыла зоркі…

Сцяблінка грэцкага арэха непадалёк яблынькі-антонаўкі вытыркнулася з зямлі роўна цераз год, калі ў мяне ўжо выраслі новыя зубы і я і не спадзявалася, што мая мара ажыццявіцца. Побач са шчасцем крочыла няшчасце. Напрыканцы лета памерла баба Іваніха. Кажуць, калі людзі паміраюць, яны становяцца зоркамі. Цяпер, калі я прыходжу па крынічную жывую ваду, я думаю і пра бабу Іваніху, якая зоркай свеціць з дна нашага чароўнага калодзезя, як з перакуленага неба.

## Як мы гулялі ў вайну

Ніхто з нас не хацеў быць немцам. Але ці ж гэта вайна, калі ўсе нашыя і ніводнага іхняга. Выходзіць, што нашым і ваяваць няма з кім, бо вакол усе добрыя і нікога злога. Так у жыцці не бывае, і гульні такой не бывае. Хаця, калі разабрацца, ва ўсіх, нават ворагаў, ёсць свая праўда, сваё разуменне дабра і зла. Ворагі ж не думаюць, што яны ворагі, лічаць, што праўда за імі і ўсё, што яны робяць — правільна. Для іх ворагі — мы. У рэшце рэшт, немцы не вінаватыя, што нарадзіліся немцамі, то бок фашыстамі. Але, з іншага боку, гэта ж яны напалі на нас, а не мы на іх. Таму нашыя будуць з іхнімі ваяваць, пакуль не пераможуць або не загінуць…

— Хлопцы, слухайце сюды: калі мы ўжо вырашылі гуляць у вайну, камусьці трэба быць немцамі, — кажа Ігар.

— Ненадоўга, потым памяняемся месцамі, і вашы стануць нашымі, а нашы — вашымі… — падхопліваю я свайго старэйшага сябра. Во загнула дык загнула! Усміхаюся, папраўляю на плячы свой драўляны аўтамат, тата на мінулыя выходныя зрабіў, вяроўка трохі муляе, але ж цярплю. Ганаруся, што сябры ўзялі мяне ў хлапечую гульню. Паабяцала, што буду паводзіць сябе як сапраўдны хлопец — ніякіх

там слёз, ныцікаў, «не хачу», «не буду», «стамілася» і гэтак далей. Прыйдзецца на нейкі час забыцца, што я дзяўчынка. Гульня ёсць гульня. Кінулі жэрабя на запалках. Алегу і Вадзіму дасталіся кароткія, нам з Ігарам — доўгія. Значыць, Алег з Вадзімам у гэты раз будуць немцамі, а мы з Ігарам — нашымі. Разбегліся. Схаваліся. Трохі пастралялі. Не прайшло і трох хвілінаў, як Алег з Вадзімам замахалі белым насавічком і выйшлі з паднятымі рукамі на паляну. Здаюцца, значыць. Ну, узялі мы з Ігарам іх у палон. А далей што? Вайна скончылася. Нецікава…

— Не, я так не гуляю, — кажу я. — Якая ж гэта вайна? Вось пайдзіце да майго дзядулі і спытайце, ён вам раскажа, як было на самай справе… Ворагі проста так не здаюцца. Яны б'юцца за сваю праўду.

— А ты пакажы нам, Інка, як трэба біцца, мы ж цябе нездарма ў гульню ўзялі, — хітравата сказаў Алег і падміргнуў Вадзіму. — Тым больш, зараз ваша з Ігарам чарга быць фашыстамі…

Ну што тут зробіш? Сапраўды, нашая чарга… Мы з Ігарам забеглі далёка, аж за сажалку. Схаваліся. Сядзім за кустом, што бліжэй да бальшака, ціхенька размаўляем, каб нават жабы не чулі.

— Нас тут браты не знойдуць, факт, — упэўнена гаворыць Ігар на вуха. Мне падабаецца яго ўпэўненасць, і ўсмешка падабаецца, а яшчэ хітраватыя вочы з вясёлымі чорцікамі… Добра, што мы з ім у адной камандзе. З Ігарам я гатовая нават немцам быць, сядзець у балоце і на жыццё не жаліцца…

— Мы будзем ціха-ціхенька сядзець, доўга-доўга, а калі браты пачнуць нас шукаць, то на засаду нарвуцца. Нападзём нечакана, так немцы заўсёды рабілі. А потым усё пераменіцца, і мы зноў будзем нашымі…

Тым часам па бальшаку, напэўна ў краму па цукеркі, ідзе Людка, стрыечная сястра Алега і Вадзіма, ёй добра відаць, дзе мы з Ігарам схаваліся. Канечне, яна братам нас выдасць, нават са злосці раскажа, бо яе ў гульню не ўзялі — малая яшчэ, а мяне ўзялі, хоць я за яе толькі на год старэйшая. Тады мы з Ігарам вырашылі раздзяліцца: я пабегла ўверх, да арэшніку, дзе некалі была панская сядзіба, а Ігар так і за-

стаўся каля сажалкі. Абяцаў прыкрываць мяне, калі што. Схавалася я ў кустах, залезла ў самую гушчавіну, фух, здаецца, хлопцаў блізка няма. Аўтамат паклала на зямлю, няхай будзе напагатове, а тым часам можна арэхаў назбіраць, вось бы яшчэ спраўны каменьчык знайсці, каб іх палушчыць. Зубы ў мяне не надта. Учора адзін выпаў, а два хістаюцца, трымаюцца на чэсным слове. Назбірала ўжо цэлую кішэню ляшчыны, раптам бачу — Алег з Вадзімам да сажалкі пабеглі. Значыць, Людка ім усё расказала. Ды ж ці магу я лепшага свайго сябра пакінуць у бядзе? Давядзецца страляць… Шчыра кажучы, не выходзіць у мяне страляць па-хлапечаму. Як ні стараюся, выходзіць толькі «піў-піў» або «ціў-ціў», нібыта нейкая птушачка спявае, а не стрэл чуецца. Сорамна перад хлопцамі, але ж страляю, як магу. Па гэтым «птушыным» стрэле хлопцы адразу вылічылі, хто засеў у старым арэшніку.

— Выходзь, Інка, мы цябе бачым, хэндэ хох! — злосна крычыць Алег. Ён жа камандзір у іхнім атрадзе, бо старэйшы, а Вадзім — радавы салдат, выконвае загады. Але так лёгка, як братам здаецца, я не здамся, таму шпурляюся арэхамі, нібы гэта гранаты. Але хлопцы робяць выгляд, што не пазнаюць мяне, твары ў іх такія, быццам сапраўднага фашыста пабачылі. Выцягнуць мяне з арэшніку не так проста — хапаюся за галіны, адбіваюся нагамі. Пакуль сядзела на дрэве, было лягчэй, дык сцягнулі, варожыя дзеці, падаю на зямлю, падмінаючы пад сябе Вадзіма. Алег хапае мяне за валасы, аж галава на бок скручваецца. Але ж і немцы проста так не здаюцца! Кусаю некага з братоў за палец, бо раззлавалася па-сапраўднаму. Асабліва на Алега. А ён паводзіць сябе так, нібы забыўся, як на мінулым тыдні прызнаваўся мне ў каханні і нават цалаваў у шчаку. «Ад кахання да нянавісці — адзін крок», — успомніліся матуліны словы… Нечакана прыходзіць у галаву нямецкая лаянка, нешта такое распавядаў дзядуля…

— Донэр вэттэр, донэр кальт! — крычу, а потым дадаю яшчэ па-польску, — пся крэў!

Ад незразумелых слоў хлопцы аж вар’яцеюць, пачынаюць лупіць мяне па шчоках, плячах, а потым звязваюць ру-

кі вяровачкай ад майго ж аўтамата (на саплях матузок трымаўся, яшчэ да гульні хацела нармальна прывязаць, ды не паспела).

— Наступны раз, нямчура, будзеш ведаць, як нашых салдат за рукі кусаць! — Алег закідвае мой аўтамат у сажалку, падымае з зямлі дубец і пачынае сцябаць мяне па голых лытках.

— Ай, балюча! — крычу, — палонных нельга катаваць! — Толькі браты нібы не разумеюць маіх слоў, не чуюць енку…

— Вось табе, пракляты фашыст! Вось табе! За Радзіму нашу! Здохні за тое, што напаў на нашу краіну!

Ад болю, крыўды, сораму за сваіх сяброў у мяне нават слёзы высахлі.

— Якія ж вы гады! Спыніцеся! Гэта ж Інка, вы што, хлопцы, з глузду з'ехалі? — Нарэшце Ігар пачуў, як мы гарлапанім, і прыбег на дапамогу. Пачынаецца сапраўдная хлапечая бойка…

— Божачка ж мой, вы пазабіваеце адзін аднаго! Хлопцы, спыніцеся!

Ужо не адчуваю, як гараць мае шчокі, плечы і лыткі, мне здаецца, што пачалася сапраўдная вайна. Я нібыта чую, як вые сірэна, як ляцяць самалёты, разрываюцца бомбы… Ужо няма розніцы, дзе нашы, а дзе іхнія: ногі, рукі, чырвоныя запэцканыя твары, саплівыя насы, падраная вопратка, збітыя да крыві локці і калені… Няўжо гэта мы? Я заплюшчваю вочы, затыкаю вушы, каб не бачыць бойкі, не чуць лаянкі…

— Нам гэтая вайна сніцца, толькі сніцца, гэтага не можа быць у сапраўднасці… — паўтараю сама сабе як заклінанне, каб хоць трохі супакоіцца. Нібы ў кіно, бачу сіняк пад вокам Ігара, збітыя калені Вадзіма, кудлатую, у пяску галаву Алега. Мне страшэнна шкада, што мы пачалі гэтую дурную гульню. Як жа цяпер яе спыніць?..

Бягу ў краму, клічу на дапамогу прадавачку Лаўрэнцеўну. Разам мы расцягваем хлопцаў, якія нават на адлегласці ўсё яшчэ даюць кухталі паветру, па іхніх тварах цякуць брудны пот і слёзы…

Канечне, потым мы ўсе памірыліся. Не адразу, а калі мінуў час. Алег з Вадзімам папрасілі ў мяне прабачэння, і, вя-

дома, я ім даравала. Мае шнары на лытках паступова зажылі, пад вокам Ігара сышоў сіняк, а на месцы выбітага малочнага зуба ў Алега вырас новы. У вайну мы больш не гулялі. Ды й што гэта за гульня, калі яе так лёгка пачаць і неверагодна цяжка спыніць?..

## Генік

Геніка Садоўскага ўсе называлі немцам, хоць ён на немца быў зусім не падобны. Немцы бландзіністыя або рыжыя, а Генік — цёмнавалосы, курчавы і смуглявы, нібы яго сонейка паўднёвае пацалавала. Нам здавалася, што цётка Фруза любіла яго болей за іншых сваіх дзяцей… Але пра Геніка раскажу пазней, спачатку пра цётку Фрузу і дзядзьку Антона.

Калі пачалася вайна, дзядзька Антон пайшоў на фронт, але патрапіў у палон. Неяк пашанцавала яму адтуль уцячы, да сваіх дабраўся, каб зноў ваяваць, ды яго засудзілі, як здрадніка, саслалі ў Сібір. Ужо летам 41-га ў Сястронкі прыйшлі немцы. Хата Садоўскіх была вялікая, на тры пакоі, лепшая ў вёсцы, перад самай вайной збудавалі. Хіба Антон ведаў, што ў яго хаце немцы сваю камендатуру зробяць, а яго жонку, цётку Фрузу, якая тады была маладой і прыгожай, згвалцяць, змусяць ім слугаваць. Цётка Фруза зацяжарала, а праз нейкі час нарадзіла Геніка.

Калі дзядзька Антон адбыў свой лагерны тэрмін, вярнуўся дадому і пабачыў жонку са смуглявым дзіцём, спачатку хацеў яе з хаты вытурыць, але, даведаўшыся, як усё было, пашкадаваў. Што рабіць, калі такая гісторыя выйшла? Сталі жыць утрох, а пасля ў іх нарадзіліся яшчэ дзве дачкі.

Генік быў добры хлопец, але з сур'ёзным «прыветам». У маім дзяцінстве ён быў ужо дарослым, гадоў пад трыццаць, а паводзіў сябе як маленькі. Цераз гэта нашыя хлопцы ўвесь час яго дражнілі. Хто такія брыдкія словы прыдумляў, я і да сёння не ведаю.

— Генік, Генік, дай варэнік! Генік, Генік — дурачок, вешай ж…пу на кручок!

Генік не крыўдзіўся, толькі сумна ўсміхаўся сваёй шчырай дзіцячай усмешкай:

— Хлопцы, чаму вы злуяцеся на мяне? Я ж вам нічога дрэннага не зрабіў… Чаму вы такія злыя?

Генік любіў сядзець на абрывістым беразе Віра і глядзець, як у вадзе адлюстроўваюцца хмаркі. Часам браў з сабой вуду і лавіў рыбу. Так мог сядзець цэлымі днямі, і яму не было сумна. Аднойчы хлопцы падкраліся да Геніка ззаду і саштурхнулі яго ў ваду. Вір — рэчка наравістая, ад самага берага — глыбіня. Генік так і булькнуў з галавой пад ваду, бо не ўмеў плаваць. Хлопцы і самі тады спужаліся, кінулі яму гумавую камеру, а я пабегла да цёткі Фрузы клікаць на дапамогу.

Цётка ў гэты момант даіла карову, якраз быў поўдзень.

— Ах, Божачка ж ты мой! Што ж вы нарабілі, гадзючыны дзеці? Дзе ж вам мой хлопец дарогу перайшоў, чым замінаў? — Яна бегла да рэчкі і галасіла на ўсю вёску. Валасы выбіліся з-пад хусткі, і я пабачыла, якія яны сівыя. І так мне шкада стала цётку Фрузу й Геніка, што я зараўла разам з ёй. Так, равучы на два галасы, мы дабеглі да рэчкі. Дзякуй Богу, хлопцы Геніка ўжо на бераг выцягнулі, а самі разбегліся, каб не дасталася ім. Генка сядзеў бледны, як палатно, мокры і голы, бо дзеці сцягнулі з яго вопратку, каб прасушыць. І тады я ўпершыню пабачыла, што ў хлопцаў паміж ног зусім не тое, што ў нас, дзяўчатак. Ад Генікавай вужачкі я не магла адвесці погляду, гэта было цікава і нязвычна.

— Куды ты глядзіш, Інка, не сорамна табе? — цётка Фруза заўважыла мой позірк, хоць я яшчэ не разумела, што такое сорам. Яна скінула сваю кофту і абвязала яе вакол Геніка рукавамі назад. Выйшаў такі сабе фартушок. Потым абняла яго мокрую кучаравую галаву, прытуліла да грудзей, і слёзы пакаціліся з яе вачэй. «Чаму цётка плача? — думала я, — Генка ж не загінуў, усё добра скончылася…» Маці і сын яшчэ доўга сядзелі, абняўшыся, і такая між імі была пяшчота, што я ціхенька пайшла дадому, каб не замінаць.

Яшчэ адна цікавая гісторыя здарылася з Генікам восенню. Аднойчы ён пайшоў у лес і заблудзіўся. Ужо вечар на двары — а яго няма. Дзядзька Антон схапіў сякеру і пабег у лес, думаў, калі ваўка раптам сустрэне, будзе чым адбівацца. Геніка не знайшоў, паклікаў вясковых мужчын. Усю ноч

яны з ліхтарыкамі лес прачэсвалі, гукалі Геніка. Не дагукаліся, так і вярнуліся дадому ні з чым. Цётка Фруза рвала на сабе валасы, да ранку галасіла, як шалёная. А гадзін у дзевяць Генік вярнуўся дадому. Аказалася, што, збіраючы грыбы, ён натрапіў на старую зямлянку, нанасіў туды моху, яловых галінак, лісця і, калі звечарэла, лёг спаць. Не чуў, як яго гукаюць, спаў, як могуць спаць толькі чыстыя бязгрэшныя душы.

З лесу Генік прынёс маленькае ваўчаня. Дастаў з-за пазухі і сказаў:

— Во, глядзіце, які смешны ваўчок. На галаву мне зваліўся, во! Я спаў сабе ў зямлянцы, нікога не чапаў, а ён і зваліўся. Забраў яго, калмаціка, каб у лесе адзін не скуголіў. Страшна ў лесе аднаму…

Ваўчаня назвалі Сабакам. Так Генік захацеў. Цётка Фруза не пярэчыла, бо ўсім сынавым прыхамацям патурала. Шчанюк прывязаўся да Геніка, як сапраўдны сабака. Куды Генік — туды і ён, бяжыць — хвост пісталетам. Нікому воўк шкоды не рабіў, толькі выў моцна па начах, асабліва перад нябожчыкам. Калі бабуля Алегава памерла, Сабака так выў, аж страшна. І калі баба Тэкля паміpала, таксама выў. Дзядзька Антон хацеў ваўка застрэліць, каб на людзей жах не наводзіў, дык Генік лёг каля яго будкі на зямлю, абшчапіў калматага сябрука рукамі і сказаў:

— Бацька, спачатку мяне забі, а потым ужо яго…

У дзядзькі Антона слёзы на вочы навярнуліся, калі ён такое пачуў і пабачыў. Вось табе і дурнік…

За некалькі дзён да пажару ў Прыстрэльскіх Генік хадзіў па вёсцы з галавой, перавязанай белай матчынай хусткай. Падыходзіў да людзей, заглядаў у вочы і казаў:

— Гэта, во, маланка мне ў галаву ўдарыла, аж кроў з вушэй пацякла. Во, перавязаў. Балюча ж. Паглядзіце, ці пад хусткай ёсць кроў? Ёсць? Бо ж маланка… Балюча…

Аднавяскоўцы здзіўлена на яго паглядалі і толькі зубы скалілі — дурачок ён і ёсць дурачок. Такое вярзе… Які пажар, якая маланка?

За дзень да пажару Генік пачаў наліваць ваду, куды толькі мог — у вёдры, тазы, міскі, шклянкі, кубкі і нават сподачкі. Цётка Фруза стамілася гэтую ваду выліваць. Але, калі

пачалася навальніца і загарэлася хата Прыстрэльскіх, усе нарэшце схамянуліся — трэба было раней звярнуць увагу на Геніка. Людзі, абдзеленыя розумам, часта маюць вешчае сэрца, якое бачыць далей і глыбей, чым у іншых…

А памёр Генік ад гарэлкі. Не таму, што піў, а таму, што не піў… Незадоўга перад гэтым у лес, мабыць, адчуўшы голас крыві, уцёк Сабака. Што зробіш, воўк — лясны звер, як яго ні назаві. Генік доўга шукаў свайго сябра, так і не знайшоў. Засумаваў… З гэтай пары ён рэдка выходзіў з дому, нічога яго не цікавіла. Аднойчы, калі я зайшла да цёткі Фрузы па нейкія зёлкі для бабулі, Генік мне жаліўся:

— Ведаеш, Інка, быў у мяне адзіны сябар — і той у лес уцёк. Застаўся я адзін-адзінюткі, як быліна, во… Мабыць, паміраць буду. Толькі маёй матулі нічога не кажы, бо яна плакаць моцна будзе…

Восенню, калі ўжо пачаліся начныя замаразкі, сталі хадзіць па Сястронках рабацягі-пільшчыкі. Хіба можна ў вёсцы зімой без дроў абысціся? Не ва ўсіх дварах былі мужчынскія рукі. Вось цётка Фруза і паклікала пільшчыкаў свае дровы папілаваць. Дзядзька Антон на той час ужо памёр, а болей — хто ёй дапаможа? Дочкі жылі ў горадзе і прыязджалі не часта, хіба што бульбу пасадзіць-выкапаць або градкі летам спалоць. А Генік ён і ёсць Генік — за якую работу ні возьмецца, усё з рук валіцца. Як малое дзіця, толькі і глядзі, каб не пабіўся ці не парэзаўся… Вось і спраўлялася цётка Фруза сама са сваёй гаспадаркай, як магла. Апошні год дарабляла да пенсіі, фельчаркай у сястронскай амбулаторыі працавала. Калі прыйшлі пільшчыкі, яна ім есці нагатавала і хуценька на работу пабегла. Толькі Генік на гаспадарстве застаўся.

Рабацягі дровы папілавалі і селі перакусіць, якраз пад абед было. А там, дзе шкварка, там і чарка — адна, другая, трэцяя…

— Ідзі, Генік, выпі з намі… Ці табе матка не дазваляе?

Генік ніколі раней не піў. З яго хваробай нельга было. Таму і ў гэты раз ён пачаў упірацца, аднекваца:

— Ды нясмачная ваша гарэлка, во. Горкая! Не хачу!

— Ты, Генік, салодкае любіш, ці што? Матчыну сіську нанач і да сёння смокчаш? Салодкая сіська, скажы, салодкая

ці не? Які ты пасля гэтага мужык? Адно слова — смаркач, мамчын сынок!

Дапяклі яны Геніка сваімі здзекамі-кпінамі. Не вытрымаў — наліў сабе поўную шклянку гарэлкі і хільнуў здуру… Недзе далёка ў лесе тужліва завыў воўк…

Калі прыбегла цётка Фруза і пабачыла мёртвага Геніка, з ёй здарылася раптоўнае кровазліццё ў мозг, не магла яна гэткага гора пераважыць. Прыехалі з горада дочкі, пахавалі Геніка, хворую маці тры месяцы даглядалі па чарзе, але свядомасць да цёткі Фрузы так і не вярнулася. Кажуць, перад самай смерцю яе твар, спатвораны цяжкай хваробай, у апошнія хвіліны расправіўся і памаладзеў, нібы сонечны праменьчык яго пацалаваў. Жанчына нібы пабачыла нешта радаснае з мінулага, сваю шчаслівую і горкую таямніцу яна забірала з сабой…

— Фэдэрыко, Фэдэрыко… — цётка Фруза некалькі разоў паўтарыла прыгожае нетутэйшае імя, шчасліва ўсміхнулася… і пайшла да Бога. Кім быў гэты Фэдэрыко, калі і дзе яны пазнаёміліся? Ніхто нічога не ведаў дакладна, але ў вёсцы пляткарылі, што быў ён італійцам і служыў у немцаў. Фруза яго пакахала і нарадзіла Геніка. А тое, што яе фашысты згвалтавалі, было легендай для ўсіх. Так усім было спакайней.

## Сястра і матуля

— Картопельку садзіце? Няхай Бог дапамагае! — яшчэ здалёк крычыць маёй бабулі Тамарка Васіч. Браты вісяць на ёй, як зялепухі на яблыні. У краму ідуць. А наша хата ад крамы цераз бальшак, усім відаць, што бабуля на агародзе робіць, ды не кожны добрае слова скажа.

— Дзякуй, Томачка! Можа, і вам бульбачкі на пасадку даць? Ці яшчэ што трэба? Ты не саромся, дзетачка, заходзь. Чым змагу, дапамагу…

— Ды нічога не трэба, баба Матрона. Мы ўжо свой агарод пасадзілі…

— Ах, Божачка ж мой, ды калі ж ты паспела, дачушка? У цябе ж пяцёра баравічкоў падрастае, адзін другога даганяе…

— А мы ўсе разам рабілі. Нават найменшы Сяргейка дапамагаў. Ён нам песенькі спяваў, каб весялей працавалася…

Тамары Васіч усяго дваццаць год, а на яе руках пяцёра братоў. Старэйшаму — восем, меншаму — тры. Калі ў мінулым годзе памерла яе маці, цётка Люба, Томка, каб не здаваць дзяцей у інтэрнат, афарміла над імі апякунства. Вось і выходзіць, што яна сваім братам — сястра і матуля адначасова.

* * *

Любку Васіч у вёсцы называлі хвойдай, бо ў яе ўсе дзеці ад розных мужыкоў. Імёны яе сужэнцаў, вядома ж, не афіцыйных, не паспявалі запамінаць. Толькі ўчора, здаецца, быў Барыс, а сёння — ужо Хведар.

— Не затрымаецца і гэты ў Любкі, вось пабачыце, — часалі языкі сястронскія цёткі. — Здаецца, і мужык нічога такі, не п’яніца, як папярэдні Борка. І рабацяшчы…

— Так-то яно так. Ды і гэты Любку з кім-небудзь на сенавале ў нядобры час застукае. Ну, не на сенавале, дык у лесе, не у лесе, дык на стайні. Гуляшчая баба. Які мужык такое вытрымае?

— А дзеткі добрыя. Асабліва Тамарка. Тамарка лепшая за ўсіх. Глядзі ты, у школе, кажуць, была выдатніцай. У інстытут паступіла. А якое ў яе было дзяцінства? Пакуль малая — яшчэ нічога. Пакуль Сашка не павесіўся, лацвей дзяўчынцы было. Сашка ж родны бацька, не такі-сякі айчым. А як яго пахавалі — так і пайшло: то ад аднаго матчынага кавалера адбіваецца, то ад іншага… Прыгажуня, што тут зробіш. Твар сажай не замажаш. І добрая, і працавітая… За братамі глядзела, усё ў хаце рабіла, пакуль тут жыла… А Любцы — усё не так, усё не гэтак, нібы не родная маці, а мачыха. Што за жыццё ў Тамаркі? Што за жыццё? Ай… ды ну яго, такое жыццё…

* * *

Любка з Сашкам спачатку жылі някепска. Распісаліся. Вяселле згулялі. Тамарка нарадзілася. Абое былі настаўнікамі, працавалі ў Заенскай школе. Мая бабуля добра памятае, як Тамарка ішла ў першы клас, і туфелькі беленькія з карычневымі спражачкамі памятае.

— Ні ў кога з сястронскіх дзяўчатак такіх не было. Любка купіла іх на базары ў Віцебску, калі туды на курсы ездзіла. Там у яе і завёўся палюбоўнік… Потым былі яшчэ і яшчэ… Не злічыць.

Кажуць, што Сашка моцна сваю Любку кахаў. Ятрыў душу, хоць і не падаваў выгляду, што раўнуе. Ніхто і не здагадваўся, як пячэ яго тая рэўнасць. Цераз гэта, кажуць, і рукі на сябе наклаў. Не вытрымаў здзеку з мужчынскага гонару…

— А Любка проста б…, хоць і вучоная. А можа, хвароба была ў яе псіхічная, кажуць, ёсць такая. Не можа жанчына ні пра што іншае думаць, як толькі пра тое, з кім сваю жарсць суняць, бо пячэ тая жарсць, вытрымаць не можна…

* * *

Першае, што Томцы ўспамінаецца, калі яна думае пра свайго бацьку, — пах яго шэрай ваўнянай курткі. Сашка кожную нядзелю купляў у краме мятныя пернікі і хаваў за пазухай.

— Ану, Томачка, хадзі сюды, родненькая мая птушачка, паглядзі, што ў мяне за пазухай!..

Ён браў Томчыну далоньку ў сваю — і за пазуху, як у рукавічку, а там, у цёплай глыбіні… о, Божачка, пернікі! Дзяўчынка хапала адзін, другі, колькі зможа ўхапіць, выцягвала, як карасёў з сажалкі. Бацька ўсміхаўся аднымі вачамі, а дзяўчынка адчувала такое шчасце, якога не было потым ніколі ў жыцці. Томцы заўсёды здавалася, што слова «шчасце» пахне мятнымі пернікамі яе маленства…

* * *

Апошнім часам Тамарка прыязджала з горада ў вёску, як у палон здавалася, так ёй не хацелася заходзіць у родную хату. Маці ці не кожны дзень закладала за каўнер з якім-небудзь

палюбоўнікам, ды й сяброўкі ў яе такія самыя, любілі піячыць за кампанію. Тамарка іх ненавідзела, калі прыязджала з горада, то першае, што рабіла, выганяла ўсіх з хаты, як прусакоў, каб і духу не было. Пачынала прыбіраць, чысціць, мыць…

— Мама, вы ператварылі хату на стайню! Як так можна? Дзеці ж усё бачаць. Табе не сорамна?

Любка замахвалася на дачку кулаком, дыхала ў твар часночна-перагарным пахам, скручвала дулю.

— У, выжла, а гэта бачыла?! — разварочвалася, няпэўным крокам даходзіла да канапы з выцвілымі кветкамі незразумелага колеру, валілася ніцма і адразу засынала.

Часам Тамарчыны нервы здавалі, і ёй хацелася адлупцаваць п’яную маці. Ледзь стрымлівалася. А калі трохі супакойвалася, успамінала, якою матуля была раней, даўно, яшчэ за жывым таткам, як яна спявала, таньчыла, як яны ўсе разам ездзілі адпачываць на мора, і ўсё было спраўна, усё ў матчыных руках гарэла, любая справа ладзілася… А як смачна яна гатавала! За вушы не адцягнеш… А потым… усё зламалася. Дзяўчына і сваю часцінку віны адчувала ў гэтым, хоць і гнала прэч такія думкі… Усё, што маці цікавіць цяпер, — гарэлка і мужыкі. Але і кавалеры прыстойныя перавяліся, засталіся такія, як і сама, — алкаголікі. «Шалава» — называюць Любку ў вёсцы, «шалашоўка». А як яна да гэтага дайшла, што здарылася — не пытаюць. Нікога гэта не цікавіць. Тамарка намагалася з маці пагаварыць, ды тая замест размовы налівала сабе кілішак гарэлкі, выпівала, і п’яныя слёзы цяклі па шчоках… З аднаго боку, Тамарка шкадавала, спачувала матулі, а з іншага — ненавідзела за гэтую яе беспрасветную п’янку, за распуцтва. Калі дзяўчына ішла па вёсцы, нібы чула тыя брыдкія словы, і сорам пёк так, што жыць не хацелася… Яна б і не прыязджала ў вёску зусім, ды як без яе браты? Старэйшая, яна ім нібыта маці — і прытуліць кожнага, і накорміць, і хату адшкрабе ад бруду, і ўсё па гаспадарцы паробіць. Як прыедзе, не ведае, за што і хапацца… Толькі лес супакойваў дзяўчыну, там яна мякчэла, на нейкі час забывалася пра сваё няшчасце. Ды яшчэ браты радавалі: каравокія і шэравокія… Яна любіла

кожнага! Калі Тамарка, нарабіўшыся, сядала адпачыць на ўлюбёны зэдлік каля варыўні і слёзы здрадліва блішчэлі на вачах, ніяк іх не стрымаць, браты беглі да сястры, суцяшалі. Асабліва стараўся Жэнька.

— Тамалка, не плац, я цябе так моцна лублю, сто калі выласту, на табе пазанюся. Не бойся, мы будзем добла зыць, ось пабачыш… — Пяцігадовы Жэнька абдымаў сястру, выціраў запэцканымі ў пластылін пальцамі слёзы. Жэнька — яе найлепшы сябрук. Смуглявы, кучаравы, цыганісты. Дзеўкі, хавайцеся!.. А сямігадовы Ярык — зусім іншы. Ад яго слова не дачакаешся. Трохі ваўкаваты, скрытны, як і яго бацька, але ўсё разумее. Вочы разумныя…

* * *

…Пасля таго як павесіўся Томчын родны бацька, дзядзька Грышка быў першым Любчыным сужыцелем. Марыла нават з ім распісацца. Мабыць, кахала. Тады яшчэ не піла… Маці хацела, каб Томка называла Грышку татам, ды тая ўпіралася, ні за што. Дарослая ўжо дзяўчынка — хутка споўніцца трынаццаць. Толькі год мінуў, як загінуў бацька. Ці ж нейкі дзядзька заменіць роднага? Тамарцы здавалася: калі назаве Грышку татам, здрадзіць памяці роднага бацькі…

…У той дзень Любка паехала ў горад па справах яшчэ раніцай, а Тамарка засталася ў хаце з малым Ярыкам і дзядзькам Грышам. Дзяўчынка мыла падлогу, Ярык спаў у сваім ложачку, а Грышка курыў за сталом каля вакна. Любцы не падабаўся яго погляд: ліпкі, брудны, нібы старая анучка. Дзяўчынка адчувала гэты позірк на сваёй спіне, нагах, але працаваць не прыпыняла. У свае гады яна ўжо была паўнацэннай матулінай памочніцай.

— А хадзі сюды, Тамарка, я табе мятны пернік дам…

— Некалі мне, дзядзя Грыша, вашы пернікі есці. Трэба падлогу памыць, а потым піражкі спячы, вунь на прыпечку цеста падыходзіць, мама пакінула…

— Хадзі, Томка, пасядзім-пагаворым, як бацька з дачкой, я цябе пажалею…

— Вы мне не бацька, а я вам не дачка! Не патрэбна мне ваша жаленне! — агрызнулася Томка. Тады Грышка падышоў

да яе сам, правёў рукой па назе, задзёр спадніцу. Тамарка крутанулася, хацела пляснуць вотчыма бруднай анучкай, ды ён перахапіў руку і раптам… пацалаваў…

— Што ты, дзядзька Грыша? — заірдзела, задрыжала, як былінка пад ветрам, Томка. — Што ты робіш?! Пусці мяне, пусці! Не трэба!

Яна адбівалася як магла, ды што зробіць дзяўчынка супраць дарослага моцнага мужчыны, які ціскае яе і мне, рукі якога, нібы хцівыя яшчаркі, слізгаюць па целе? Тамарка нават крычаць не магла, баялася разбудзіць малога Ярыка…

— Дзяўчыначка мая, ці ж я табе раблю балюча, ці ж я цябе зневажаю? Вось як прыемна, вось… Адчуваеш?.. — Грышка задыхаўся ад жарсці, жадання, але стрымліваў сябе, каб не зрабіць тое апошняе, тое немінучае, што назаўсёды зламае дзяўчыне жыццё…

Тамарка плакала, брыкалася, шаптала «не трэба, дзядзя Грыша», але ў рэшце рэшт суцішылася, абвяла… і раптам з агідай да сябе самой адчула, як нешта невядомае ёй раней, нейкая хваля насалоды прабегла па хрыбетніку, зазямлілася ўнізе жывата, скаланула з ног да галавы ўсё яе цела…

Пра гэтае здарэнне яна нічога не сказала маці. Было сорамна, балюча, незразумела… Часам дзяўчынцы здавалася, што бараніцца трэба не толькі ад дзядзькі Грышкі, але і ад сябе самой… Калі ў Тамары пачаліся першыя месячныя, яна падумала, што захварэла на нейкую страшную хваробу. «Я паміраю, — падумала Тамарка, — вось яно, пакаранне… так мне і трэба…» Пачуццё віны, сораму грызлі, мучылі дзяўчыну, ды яна зноў і зноў успамінала Грышкавы рукі, і млосць разлівалася па ўсім целе цёплай хваляй ад адной толькі думкі…

Любка пачала заўважаць грэшныя Грышкавы позіркі на сваёй дачцэ, якая ўваходзіла ў свой дзявочы век цаной выгнання з Раю… Да апошняга Любка не дапускала думкі, што між дачкой і яе сужэнцам нешта адбывацца, аж пакуль не злавіла на гарачым. І тады яна выгнала палюбоўніка і зненавідзела сваю дачку…

* * *

Калі ў Любкі выпадалі цвярозыя дні, яна пачынала мыць вокны. Адводзіла дзяцей да суседкі, каб не заміналі, бо якая з імі праца — таго на гаршчок трэба пасадзіць, тыя ў нейкую шкоду ўлезлі… Была б дома Тамарка, дапамагла б, а так… Але добра, што дачкі няма, няхай сабе вучыцца, а яна будзе вокны мыць. Любцы падабалася прыбірацца, не такая яна ўжо і неахайная, як дачка думае, проста жыццё ў яе такое: назаві чалавека сто разоў ваўком, дык ён завые. Любка была ўжо даўно — апусцілася ніжэй няма куды. Некалі чытала ў разумнай кнізе па псіхалогіі, што, калі чалавек дойдзе да краю адчаю, ён можна адштурхнуцца ад дна і такім чынам падняцца над сабой, выплысці. Любка ўсё яшчэ спадзявалася. Мыла, драіла шыбкі, вунь як мухі зас…лі, дажджы залілі… Вось, здаецца, трохі пачысцела шкло, а цяпер газеткай нацерці, во, як добранька, каб блішчэла, свяцілася… як некалі яе вочы… Было, было, ды даўно адгуло…

Люба, Любачка, Любоў — так яе некалі называлі сябры. Мілая, вясёлая дзяўчына, з ямачкамі на шчочках. Уся існасць падказвала — народжаная для кахання… Дзе тыя гады, дзе тая яна?.. Чысцелі вокны, чысцела нібыта і яна сама. Але калі падыходзіла да люстэрка і бачыла свой ненавісны, ацеклы твар, запухлыя вочы, сівыя кудлатыя валасы, усё вярталася: ёй зноў страшэнна хацелася выпіць, толькі такім чынам яна магла схавацца ад сябе самой. Колішнюю смяшлівую Любачку яна ў люстэрку не пазнавала…

Калі б адматаць тое жыццё назад, калі б гэта толькі было магчыма, Любка зноў бы села ў цягнік, які вёз яе з Казахстана дадому, у той жа самы вагон, у тое ж купэ… І той малады лейтэнант зноў бы ёй усміхаўся, а яна б хавала вочы і глядзела ў акно, рабіла выгляд, што не звяртае ўвагі, а сама бачыла толькі яго ў тым шкле, думкамі цалавала адбітак. Калі табе васямнаццаць год, так хочацца верыць у каханне, менавіта такое, з першага погляду. У іх так усё і было… Гэта ж трэба, такі падарунак: да самай Масквы ў іхняе купэ ніхто не падсяліўся. Закаханыя гаварылі, не маглі нагаварыцца ўсю ноч. Люба расказвала Ігару пра Казахстан, як яна па камсамольскай пуцёўцы там працавала, пра сваіх сяброў і

сябровак, пра тое, што збіраецца пастурацць у педагагічны інстытут, марыць стаць фізікам. Нават пра свайго жаніха Сашку расказала, што яны ўжо і заяву ў ЗАГС падалі, праз месяц вяселле…

— Добры хлопец, з нашай вёскі, з дзяцінства ведаю… Кахае… Кажа, таксама будзе паступаць у інстытут, каб разам вучыцца, а пасля выкладаць у адной школе… Вунь і ў Казахстан за мной ірвануў. Два тыдні Сашку яшчэ адпрацаваць трэба. Першая дамоў еду, каб да вяселля падрыхтавацца…

— А ты… ты яго кахаеш? — спытаў Ігар, і вочы яго спахмурнелі. Любе здавалася, хлопец заглядае ёй у самую душу і бачыць наскрозь.

— Мне з ім добра, зразумела, з дзяцінства ж разам. Але ж… Ці кахаю? Не ведаю… Маці кажа, што прыйдзе каханне, калі павага ёсць…

— Любачка, ты падумай, не спяшайся… А ведаеш што? Выходзь замуж! За мяне. Чым не жаніх? Будзем жыць у Мурманску. Я стану капітанам, а ты — капітаншай… — Ігар засмяяўся, але вочы былі сумнымі. Ведаў — не рашыцца дзяўчына крута павярнуць сваё жыццё. Мабыць, кожнаму з іх наканавана рухацца сваім уласным курсам…

…Любка ўспаміна ла мінулае і думала: трэба было згаджацца на прапанову Ігара, імчаць за ім хоць на край свету, а не вяртацца ў родную вёску да свайго звычнага-прывычнага. Бо кахала ж, кахала! Кожнаму даецца шанс у жыцці, калі можна пераскочыць з завядзёнага кола лёсу, нібы з планеты на планету. Але можна гэта зрабіць толькі адзін раз, калі планеты падыходзяць так блізка, што іхнія арбіты перакрыжоўваюцца…

Калі яны развітваліся (Ігар у свой Мурманск ехаў першы, Любка яго праводзіла), ёй хацелася ўскочыць у той вагон, дзе каханы яшчэ доўга вісеў на падножцы. Аж пакуль праваднціца не адштурхнула, не зачыніла дзверы, хлопец усё яшчэ спадзяваўся, што дзяўчына перадумае. Падхапіў бы тады Ігар Любку на рукі, і панесліся б яны разам у сваё новае жыццё, якое — ніхто наперад не ведае… Аднак арбіты планет ужо разыходзіліся: яна не адважылася, а ён не знайшоў патрэбных слоў, каб угаварыць…

* * *

…Потым нейкі час закаханыя яшчэ перапісваліся, ды паступова лісты з Мурманска ў Сястронкі прыходзілі радзей і радзей, аж пакуль не спыніліся зусім. Любчына каханне мялела, як рэчка ў спякотнае лета, аж пакуль не высахлі ўсе тыя ручаіны, што ў яе ўпадалі. Што тут зробіш? Жыць толькі марамі яна не магла, тым больш дачка ўжо нарадзілася, было не да перамен…

З Сашкам жыццё неяк не складвалася. Раўнаваў яе моцна, хоць, здаецца, і падставы асабліва не давала. Любку не назавеш прыгажуняй, знешнасць як знешнасць, нічога асаблівага, ды было ў ёй нейкае невымоўнае прыцягненне, жаночая прываблівасць, прыхаваная жарсць, ці што яшчэ. Мужыкі гэта адчувалі, ліплі і маладыя, і старэйшыя, распускалі рукі, а калі адшывала, распускалі плёткі. Знайшліся «добразычліўцы» і ў роднай вёсцы. Пад чарку Сашку такія казкі пра Любку распавядалі… а той дурань верыў, таму і дах ірвала. Аднойчы пабіў ні за што. Тыдзень на людзі не магла выйсці. Давялося пайсці на бюлетэнь, у школе не магла выкладаць…

Аднойчы Сашка знайшоў ліст ад Ігара… Любка думала: ну пакрычыць, ну адлупцуе ў рэшце рэшт, а Сашка толькі збялеў, як палатно, і заццяўся. Тыдзень не размаўляў, нібы яна пустое месца. Любка спрабавала першай загаварыць, расказаць, як яно было насамрэч, што чыстая яна перад мужам, ды Сашка адварочваўся, бег у двор, нібы там у яго справы неадкладныя. Ды й не паверыў бы ўсё роўна. Сябрам, знаёмым верыў, а жонцы не…

Пасля смерці Сашкі Любка ад гора нібы з ланцуга сарвалася. Сапраўды загуляла. І было ёй усё роўна, з кім кахацца. Суцяшала на нейкі час жарсць цела, ды залагодзіць душу не магла. Нічога не адчувала, нібы замерзла з таго часу яе душа… Калі Любка пускала ў хату каханка, пачынала з ім жыць і нават дзіцё нараджала, думала — адтане яе сэрца, зажывуць, як усе. Але нічога не змянялася… І тады Любоў Васіч пачала заглядаць у чарку…

* * *

…Больш за ўсё Тамара Васіч любіла пралескі. Калі яны толькі з'яўляліся з-пад ператлелага за зіму лісця, дзяўчыне хацелася іх расцалаваць, такія яны былі пяшчотныя, мілыя і нейкія… безабаронныя, ці што. У гэты раз Тамарка вярталася з лесу з вялікім сінявокім букетам. Яшчэ і ў торбу паклала некалькі асцярожна адкапаных кусцікаў, марыла пасадзіць кветкі ў агародчыку каля хаты. Разрастуцца і будуць сінець пад вокнамі, радаваць сваім спакоем і чысцінёй… Сакавік быў цёплы, і пралескі з'явіліся раней, чым звычайна…

Ужо каля хаты дзяўчына адчула, што нешта не так, нешта ў іх здарылася. У суседа, дурненькага Геніка, сярод дня завыў воўк, якога ён аднойчы прынёс з лесу і прыручыў. Воўк часта выў ноччу, але каб днём — такога раней не было… Нешта трывожнае, прагорклае, як старая гарбата, змусіла Тамару прыбавіць кроку. Яна ўжо не ішла, а бегла, ляцела дадому. Ступіла на ганак, адчыніла дзверы…

— Тамуся, а наса мама лязыць на падлозе і ніцога не каза… і не валушыцца… — Жэнька кінуўся да сястры першым, абшчапіў, прытуліўся. Меншыя дзеці церабілі Томку за спадніцу, цягнулі за рукавы. І толькі Ярык усё разумеў. Збялелы, ён стаяў каля шафы, і слёзы цяклі па ягоным твары. Хлопчык плакаў бязгучна, каб не напужаць братоў. Ярык упершыню пабачыў смерць так блізка… Сінія кветкі пасыпаліся з рук Тамаркі. Павольна, нібы ў сне, яна ступала па гэтай сіні, нібы йшла па вадзе і не танула…

…Любоў Васіч неслі цераз усю вёску да могілак некалькі мужчынаў па чарзе. Пад іхнімі ботамі хлюпала талая кашня бруднага сакавіцкага снегу, але неба было чыстым, ні аблачынкі. Любка ляжала ў труне спакойная і прыгожая, такой яе даўно не бачылі ў жыцці, а хто калісьці і бачыў — забыўся. Вакол яе цёмных з сівіной валасоў, нібы нябесная карона, свяціліся пралескі…

## Вясна

— Кароўка-багоўка, ляці на неба, прынясі нам хлеба, хоць чорнага, хоць белага, толькі не гарэлага…

Сёння ўпершыню пасля доўгай зімы я пабачыла кароўкубагоўку. Казюрка паўзла па жоўтай неразімавалай травінцы запаволена, нібы драмала на хаду. Падставіла ёй палец, падняла руку ў неба, сказала чароўную замоўку, якая раней заўсёды спрацоўвала, але казюрка поўзала па маім пальцы і не збіралася ляцець. «Гэта таму, — падумала я, — што толькі прачнулася ад зімовага сну і варушыцца, а тым больш лётаць, ёй цяжка».

Набліжэнне вясны я адчувала задоўга да таго, як абудзяцца першыя кветкі, скрозь зямлю праб’ецца маладая трава і па ёй папаўзуць казюркі. Спачатку я падыходзіла да бэзу, які рос у нашым садзе, і назірала за яго пупышкамі. Яны абуджаліся першымі. Добра адчуваў набліжэнне вясны і куст парэчак. Як толькі з’яўляліся першыя праталіны, я размінала ў руках парэчкавыя пальчыкі-пупышкі і ўдыхала водар вясны.

— Сёння будзем піць гарбату з парэчкамі, — бабуля зрэзала некалькі маладых галінак з куста, заліла кіпнем, запарыла на некалькі хвілінаў, а потым дадала лыжачку леташняга парэчкавага варэння. Смаката, а не гарбата! Вясна пачыналася шчасліва і беспаваротна…

Ранняй вясной мне падабалася слухаць, як б’ецца сэрца бярозы, як па яе ствале бяжыць бярозавы сок. Прыкладала вуха да бярозы, заплюшчвала вочы, стрымлівала дыханне і слухала… І тады маё хуткае сэрца, пачынала сцішваць хаду, каб сумоўна суіснаваць з бярозай, яе жыццёвым рытмам. «Цік, цік, цік…» — гэта ходзікі вечнасці адлічваюць імгненне за імгненнем. «Тук, тук, тук…» — гэта маё сэрца б’ецца разам з сэрцам бярозы. «Ш-шух!» — і дзіўны гук, нібы недзе прарвала дамбу на рацэ, запоўніў маю ранішнюю свядомасць. Гэта — бярозавы сок, я чую, з якім рашучым імпэтам ён бяжыць па бярозавых венах…

З кожным днём вясна ўсё смялей уваходзіла ў свае правы, улівалася ў маю душу. «Курлы, курлы, курлы…» — гэ-

та буслы вяртаюцца з цёплых краёў. У гэты момант мяне агортвала такая радасць, што нават рухацца не хацелася. Вось так бы і стаяла задраўшы галаву, глядзела б на дзіўных прыгожых птушак. Цікава, адкуль яны ведаюць дарогу дадому?..

Аднойчы я прыдумала такое нечаканае, такое дзіва-дзіўнае… Уяўляю, як бабуля скажа «ах», і дзядуля скажа «ах», і ўсе сястронцы застынуць на месцы і раты разявяць… Такое зраблю дзіўнае, такое нечаканае… Я навучу курыцу лётаць! Во!

— Бабуля, а праўда, што куры — гэта птушкі?

— Праўда.

— А чаму тады яны не лётаюць?

— Ай, такое ты спытаеш… — бабуля пачухала патыліцу, — м-м-м, мабыць, у курэй іншае пакліканне, ім трэба яйкі несці… м-м-м, яны забыліся, што даўней умелі лётаць… Ды й што ім тыя палёты? Курам і так добра: накормленыя, жывуць у цяпле…

— Бабуля, ты не разумееш! Якое «добра» можа быць лепшае, чым палёты? Асабліва цяпер, вясной…

…У нас была курыца, разумнейшая за сваіх сясцёр і нават пеўня. Я звярнула на яе ўвагу, калі тая была яшчэ кураняткам: усе жоўтыя, а гэтая — чорненькая з белымі плямкамі. Прыгажуня! Я паіла яе з рота, размінала ў сподачку жаўток з варанага яйка і карміла з рукі. Курыца, якую я назвала Насткай, хутка да мяне прывязалася. Першай, калі клічу, бегла дзяўбсці зерне, першай знаходзіла дарогу ў куратнік. А яшчэ Настка мела дар назіральніка.

— Куд-куд-ды? Куд-куд-ды? — цікавілася яна, уважна разглядваючы чарвяка то адным, то другім вокам.

— Куды паўзе такая пачвара? — перакладала я сама сабе з курынай мовы.

Настка нават пасябравала з нашай сабачкай Ладай — пачала несці яйкі ў яе будцы. Ну вы бачылі недзе такое? Канечне, Лада мела з гэтага сяброўства карысны інтарэс. Калі бабуля не паспявала забраць з будкі Настчыны яйкі, яна лапай выкочвала іх адтуль, лёгка разбівала і ласавалася далікатэсам ад сваёй сяброўкі.

— Настка, хутчэй бяжы да мяне, я табе пшанічкі дам, — гукала я сваю пястунку, і курыца радасна бегла да мяне, дзе б ні была, хуценька снедала, а замест удзячнасці дазваляла сябе ўзяць на рукі і нават пагладзіць. Ды галоўнае вось што — мы пачалі першыя трэніроўкі! Адбывалася гэта так: я брала Настку на рукі і скакала з першай прыступкі лесвіцы, потым з другой, трэцяй… Потым садзіла курыцу на адпаведную прыступачку лесвіцы і лёгенька штурхала ўніз. Настка смешна кудахтала, махала сваімі кароткімі крылцамі, але заўсёды добра планіравала і прызямлялася там, дзе трэба. Вядома, яна баялася лётаць, хавалася ад мяне ў куратнік, але на наступны дзень мы ўсё пачыналі спачатку. Такім чынам, яна прызвычаілася і ўжо не баялася палётаў так, як у першыя дні. Між трэніроўкамі мы гаварылі пра жыццё…

— Вось паглядзі, Настка, хаця б на вераб'ёў, — разважала я, — яны харчуюцца чым прыйдзецца, але ж добра лётаюць. Ты можаш мне запярэчыць: «Вераб'і ж маленькія, а я — вялікая і цяжкая». Гэта так, але ж лебедзі большыя, чым куры, а цудоўна лётаюць. І дзікія гусі лётаюць. Вы ж, куры, увечары лёгка залятаеце на свой насест, значыць, можаце лётаць і далей. Чаму б табе, Настка, не паспрабаваць падняцца ў неба і пабачыць свет трохі далей куратніка? Калі б у мяне былі крылы, я абавязкова б лётала, а не сядзела б з табой у двары каля хаты…

Раніцай у суботу я прачнулася раней звычайнага. «Гэта добра, што мне не спіцца, сёння ж прыедзе мама, — разважала я. — Трэба Настку раней пачаць трэніраваць. Мінулы раз яна праляцела ці не палову двара, а гэта метраў дзесяць будзе». Я ганарылася рэкордам сваёй выхаванкі, як настаўніца ганарацца сваімі вучнямі. «Матулі абавязкова раскажу пра Настку, яна ж распавядае пра сваіх здольных вучняў. А Настка вельмі здольная, яна сапраўдны курыны талент!»

З такімі думкамі я апранулася і выйшла ў двор… Паклікала Настку раз, другі, але не пачула адметнага кудахтання. «Можа, яна ў Ладзінай будцы?» — зазірнула да Лады. Сабака высунула з будкі рыжы нос і лізнула маю руку. Не, Насткі ў будцы не было. Пайшла ў сад, часам туды забягалі куры, ка-

лі нехта забываўся добра зачыніць квортку. Сапраўды, некалькі курэй разам з пеўнем корпаліся ў траве, але Насткі сярод іх не было. Зазірнула ў куратнік, магчыма, мая выхаванка выседжвае яйка? Не, і там Насткі не было… І раптам нейкае нядобрае прадчуванне сціснула маё сэрца. Азірнулася ў бок адрыны і пахаладзела: на клышаногім стале стаяла вялікая міска з зялёнай акаёмкай, у ёй бабуля звычайна замочвала бялізну, а з краю звешвалася нейкая брудная анучка, і на зямлю крапала кроў. Як зачараваная, я падставіла далоньку, і некалькі гарачых кропелек апяклі мае пальцы. «Настка», — выдыхнула я і страціла прытомнасць.

…Пасля гэтага выпадку я доўга хварэла, а калі ачуняла і пачала пазнаваць сваіх родных, усё роўна заплюшчвала вочы. Рабіла выгляд, што сплю…

А ноччу мне сніўся дзіўны каляровы сон: нібыта мы з Насткай ляцім над нашай хатай, рэчкай Вірам, сястронскімі лясамі і пералескамі, і я крычу сваёй сяброўцы, перакрыкваючы вецер:

— Бачыш, Настка, як хораша лётаць, як гэта весела і прыгожа! Бачыш, вясна! Бачыш?! Вясна!!!

## Бэгэкі

Васіль і Колька Бэгэкі біліся да першай крыві. Траюрадныя браты, яны ніколі між сабой не ладзілі. Цераз гэта мы іх у свае гульні не бралі, а калі бралі, заўсёды шкадавалі. Чапляўся часцей меншы Колька. Дзе ў ягоным маленькім, кволым целе мясцілася столькі злосці, мы дзіву даваліся. Васіль быў худы і доўгі, як жэрдка. Рухі трохі запаволеныя, уся постаць нейкая нязграбная, нехлямяжая. Вёрткі, як яшчарка, Колька з кожнай бойкі выходзіў пераможцам. Рыжы, лапавухі, ён злосна ўсміхаўся, гледзячы ў вочы свайму траюраднаму брату:

— Раві, раві, аглобля, ніхто табе не дапаможа! Пазаві яшчэ сваю мамку, каб яна твой нос саплівы падцерла…

У Колькі слабым месцам былі вушы. Ён часта хварэў на залатуху, вушы свярбелі і дрэнна гаіліся. Васіль пра гэта ведаў і ў бойках, калі пашанцуе, намагаўся схапіць Кольку ме-

навіта за вушы. Малому балела, ён несамавіта выў, але брат ад гэтага люцеў яшчэ больш.

— Заб'ю гада! Заб'ю!

Непрыемна было побач з Бэгэкамі. Я не магла зразумець, чаму браты так ненавідзяць адзін аднаго? Мае сябры, браты Алег і Вадзім, сябравалі між сабой. Ігар сваю сястрычку Соню проста на руках насіў, заўсёды за яе заступаўся. Я хвалявалася за свайго малодшага брата Андрэя, не магла на яго наглядзецца… Часам мы з хлопцамі спрабавалі расцягнуць Бэгэкаў яшчэ да таго, як іхнія спрэчкі дасягнуць кропкі закіпання. Хоць кіпнем іх разлівай! Аднак і тады браты не цішэлі — пляваліся, шпурлялі адзін у аднаго каменнем, лаяліся брыдкімі словамі…

Аднойчы, намагаючыся суцішыць братоў, я паслізнулася, упала на нейкую шкляную друзку і парэзала калена. Рана была такая глыбокая, што кроў, сцякаючы па назе, заліла мой жоўты сандалік. Я так напужалася, што нават не адчула болю, і калі хлопцы, забыўшыся пра бойку, кінуліся мяне ратаваць, я глядзела толькі на гэты сандалік у крыві і страшэнна яго шкадавала. «Былі такія прыгожыя жоўтыя сандалікі, — думала я, — і вось… Мама прыедзе на выхадныя і будзе сварыцца, што я сапсавала свае новенькія сандалікі…»

Бэгэкі зацягнулі мяне ў хату, паклалі на канапу і, пакуль бабуля бегала за бінтам і ёдам, ціхенька выйшлі за дзверы. Калі баба Мура перавязала маю парэзаную нагу і выцерла твар вонкавым бокам нацельнай сарочкі ад спуду, я нарэшце не вытрымала. «Спытаю пра Бэгэкаў, — падумала. — Раптам бабуля ведае болей, чым я?»

— Баба Мура, як ты думаеш, чаму Бэгэкі так ненавідзяць адзін аднаго?

— Не ведаю, ці зразумееш ты… Доўга расказваць. Гэта вельмі даўняя гісторыя, Іначка… Пачалася яшчэ ў вайну…

— Як такое можа быць, бабуля, ты нічога не блытаеш? Васіль старэйшы за мяне ўсяго на паўтара года, а Колька — мой аднагодка. Іх і ў паміне не было, калі вайна пачалася…

— Іх то не было, а дзяды іхнія былі, родныя браты Бэгэкі — Янка і Свірыд. З іх гэтыя бойкі і пачаліся… Які род, такі і плод.

І потым бабуля расказала мне такую гісторыю, такую гісторыю… ну проста як у кіно! Нават не ведаю з чаго пачаць… Пачну са смешнага. Аказваецца, мая бабуля з Бэгэкамі ў адну школу хадзіла.

Браты былі блізнюкамі, але больш непадобных адзін да аднаго блізнюкоў, чым Бэгэкі, бабуля ніколі не бачыла. Янка — высокі, худы, кашчавы, бледны на твар…

— Малакроўны, ці што… А Свірыд — маленькі, тоўсценькі, ружавашчокі — кроў з малаком. Але знешнасць яшчэ што. Характары ў братоў — як у крата і вароны, нічым не падобныя. Свірыд — душа кампаніі, майстар на розныя выхадкі. А Янка — заўсёды сам па сабе. Лётае ў думках невядома дзе… А школа нашая была царкоўнапрыходская, потым там сельсавет зрабілі. Бацька мяне з хутара на кані вазіў… Дык вось. Бяжыць неяк Янка па двары, у школу спазняецца, а тут Самавар з дзвярэй выходзіць, тоўсты-тоўсты бацюшка, таму і мянушка такая, не любілі яго, бо дужа быў да нас строгі, па пальцах розгай лупцаваў, калі рукі ў каго былі брудныя або калі мы ў сшытках кляксы ставілі… Дык вось. Ідзе Самавар павольна так, упэўнена, разважліва, таксама пра нешта сваё думае. А тут Янка наперарэз, нібы яго не бачыць, наляцеў на бацюшку, урэзаўся ў пуза, той аж пёрнуў ад нечаканасці… Ну, гэта такое абы-што, каб неяк пачаць…

Ці вось яшчэ адзін смешны выпадак… Далі нам заданне напісаць сачыненне пра адзін дзень са свайго жыцця. Тады мы ўжо ў трэці клас хадзілі, добра ўмелі чытаць і пісаць. Цэлую гадзіну пісалі. Перад самым званком узяла нашая настаўніца, Вера Іванаўна, Янкаў сшытак і зазірнула, што ён там напісаў…

«Мой дзень прайшоў добра, — пісаў Янка, — я сядзеў дома, бо на вуліцы ліў дождж. Сяджу, у акно гляджу… Раптам бачу — выйшла сонца. Добра. Пайду пагуляю. Выйшаў на вуліцу, а там зноў дождж. Вярнуўся ў хату. Сяджу, у акно гляджу. Выглянула сонейка. Выйшаў — а там зноў дождж…» Або сяк, або так, або блін, або праснак. Нешта такое… Дык усе вучні качаліся са смеху, калі нам настаўніца чытала Янкаў аповед… З таго часу кепскае надвор’е я называю бэгэкавым.

Калі пачалася вайна, братам-Бэгэкам было ўжо гадоў каля трыццаці. Янка на той час ужо быў жанаты, а ў Свірыда яшчэ сваёй сям'і не было, ён жыў з бацькамі. Пайшлі браты ваяваць. Разам служылі, разам і ў палон да немцаў патрапілі… Ой, забылася сказаць. Перад гэтым у Янкі дзіцё нарадзілася. Сын. Перад палонам ён апошні ліст ад жонкі атрымаў, даведаўся, што стаў бацькам. Янка і парадавацца як след не паспеў, як такое закруцілася… Наступалі, адступалі, зноў наступалі, зноў адступалі… Шмат нашых палягло. Калі ў братоў скончыліся патроны, яны схаваліся ў акопе з адной гранатай на дваіх. Вырашылі так — калі немцы падыдуць блізка — кінуць гранату і загінуць, як героі. Што там не спрацавала, невядома, можа, граната не ўзарвалася, можа, браты ў апошнюю хвіліну перадумалі, але схапілі Бэгэкаў немцы…

Як там яны ў палоне мучыліся, ніхто не ведае, але пашанцавала братам і ў другі раз — уцяклі яны ад немцаў. Да сваіх сталі прабівацца — галодныя, абарваныя, а ўжо позняя восень была…

…Лінія фронту тады недалёка ад нашай вёскі праходзіла, але Сястронкі ўжо былі пад немцамі. І так Янка захацеў пабачыць сваю жонку і дзіцё, што ні пра што больш не мог думаць. Свірыд яго адгаворваў, як толькі мог, але нічога не дапамагло. Янка ўпарты, як баран, сказаў — значыць, зробіць. Тут браты ўпершыню моцна пасварыліся і нават пабіліся. Свірыд пайшоў далей, а Янка вырашыў пракрасціся ноччу да сваёй хаты, каб хоць адным вочкам на сына зірнуць… Дайшоў дадому, пераначаваў, а калі на золку да лесу вяртаўся, пабачылі яго фашысты. Злавілі. Спачатку забіць хацелі, думалі, што партызан, ды потым прапанавалі ў іх служыць. Выбар у Янкі быў невялікі — пагадзіцца стаць паліцаем і застацца жывым або загінуць разам з жонкай, сынам і бацькамі…

— Янка быў не з тых паліцаяў, якія са сваіх здзекаваліся, каб спадабацца фашыстам. Ён не раз аднавяскоўцаў ратаваў — заступаўся, дапамагаў аформіць розныя дакументы. Ён быў пры немцах нешта накшталт пісара і перакладчыка, бо добра ведаў нямецкую мову.

…Свірыд, пасля таго як развітаўся з братам, дабраўся да нашых, але там яго адразу арыштавалі, не паверылі, што з палону ўцёк. Нават калі паверылі б, усё роўна палічылі б здраднікам. Вось і загрымеў Свірыд спачатку ў савецкі лагер, а потым, у канцы вайны, у штрафбат. Яму сказалі, што ўласнай крывёй можа змыць здраду Радзіме. Свірыд скарыстаўся сваім шанцам, але гінуць не збіраўся. Свірыд Бэгэка быў як загавораны, кулі абміналі яго, нават не параніла… А тут і Перамога…

Калі Свірыд Бэгэка вярнуўся дамоў з вайны, Янка ўжо быў далёка, яму за супрацоўніцтва з фашыстамі 15 год далі. Усё жыццё Свірыд лічыў свайго брата здраднікам, паліцаем, не мог дараваць такога ўчынку. І нават калі Янка адбыў тэрмін і вярнуўся дамоў, не дараваў. Аднойчы ён нават хацеў засекчы брата, такая люць у ім кіпела. Янкава жонка тады на калені ўпала — прасіла, маліла, каб той не забіваў брата, не пакідаў сына без бацькі… Пасля таго Янка не доўга працягнуў, бо з турмы прыйшоў хворым на сухоты. Па вёсцы хадзіў як цень — аж чорны. Не пазнаць. Жыць яму не хацелася. Душыла яго больш за цяжкую хваробу адчуванне ўласнай віны — перад братам, сям'ёй, краінай… У скорасці і памёр…

— Пасля вайны Свірыд Бэгэка ажаніўся з добрай дзяўчынай з Маставухі. Сына яна яму нарадзіла. Чамусьці ў Бэгэкаў толькі сыны нараджаліся. Дзіва нейкае. І гэтыя сыны заўсёды між сабой не ладзілі. Нібы пракляцце ляжала на іхнім родзе. Не маглі яны адзін аднаго зразумець, дараваць… Калі памёр Янка Бэгэка, Свірыд нават развітацца не прыйшоў. Вось табе і браты…

Гэтая гісторыя не выходзіла ў мяне з галавы. Здавалася, нібы сяджу ў нашым сястронскім клубе з партрэтамі герояў вайны на сценах, гляджу на экран і Бэгэкаў бачу. Дзіва нейкае. Вось Янка трымае на руках немаўлятка, у вачах — сонечныя зайчыкі радасці, гэта ж яго сын! Вось на Янкаву жонку фашыст наводзіць аўтамат… Вось Свірыд ідзе ў атаку супраць нямецкіх танкаў з адной гранатай у руках. Вось на яго грудзях фашыст выразае чырвоную зорачку, як у Банівура… Але сапраўднае жыццё — гэта не кіно, у жыцці ўсё

нашмат складаней, а значыць, пакуты яшчэ мацнейшыя… Пасля размовы з бабуляй мне сталі больш зразумелымі паводзіны Ваські і Колькі, але ад гэтага лягчэй не стала — браты біліся, як і раней…

…Усё змянілася так нечакана, што нават цяжка сабе ўявіць. У Ваські нарадзілася сястра — Валька. І была яна такая прыгажуня — пухленькая, ружавашчокая, з блакітнымі вочкамі і даўгімі веямі, закручанымі ўгору… У Колькі не было сястры, і ён пачаў хадзіць да брата ў госці, каб паглядзець на дзяўчынку, патрымаць на руках, дужа яму маленькая падабалася… Люць братоў мялела, як рэчка ў спёку, а з часам сама па сабе некуды знікла. З таго часу Бэгэкі не біліся, сябравалі між сабой. Цераз шмат гадоў Колька і Валька пабраліся, і ў іх нарадзіліся блізняты-дзяўчынкі.

## У тумане

Туман накрыў паляну так хутка, што я нават не паспела азірнуцца. Сінявокія званочкі і рамонкі паглынула ватная глыбокая вільгаць. З кожным імгненнем яна станавілася ўсё шчыльнейшай, і ў нейкі момант мне падалося, што гэта воблака апусцілася на зямлю і праглынула ўсё навокал. Усё знаёмае раней стала незнаёмым, прыветнае, добразычлівае — злым і варожым. Згубілася сцяжынка, па якой я прыбегла сюды, зусім не было відаць сястронскіх хат, і нават лес здаваўся мне бледна-сіняй плямай, нібы разлітае на падлозе малако. «Куды ісці, дзе мой дом?» — з жахам падумала я і пабегла куды вочы глядзяць, спатыкаючыся аб нейкія карчы, чапляючыся падолам і рукавамі сукенкі за вострыя калючыя кусты ядлоўцу.

— Дзяцей, якія не слухаюцца дарослых, ходзяць у лес і поле без дазволу, могуць схапіць лознікі, якія жывуць у густых кустах пераплеценага лазняку. Гэтыя дробненькія гуллівыя чарцяняты могуць загуляцца з хлопчыкам ці дзяўчынкай і зацягнуць іх у балота…

Я ўспомніла нядаўні бабульчын аповед і пахаладзела ад жаху. Нешта казытала мае ногі, і я, думаючы, што гэта лознікі, пабегла яшчэ шпарчэй. «Трэба бегчы вунь туды, у бок

лесу, — падумала я, — а потым залезці на дрэва і пачакаць, пакуль асядзе туман».

Гэтая думка падалася мне слушнай, таму я сказала сама сабе (Інка, якая разумная і смелая, Інцы неразважлівай і спалоханай):

— Стоп, страхапудзіла, мяне не напалохаеш! Удых — выдых, дыхай глыбей, дурненькая! Калі ты залезеш на дрэва, заплюшчыш вочы і павольна далічыш да дзесяці — туман знікне, як і твой жах…

Так і зрабіла. І дзіва — жах паступова пачаў адступаць, а туман рассейвацца. І раптам са свайго ратавальнага дрэва я пабачыла вёску, але не пазнала знаёмых абрысаў дамоў, амбулаторыі каля лесу і нават фермы з ветэрынарнай аптэкай дзядзькі Івана. Перада мной, як на далоні, ляжала іншая чужая вёска. Куды я забегла, калі хавалася ад туману? А можа, я забылася цераз гэты страшны туман, як выглядаюць нашыя Сястронкі? Можа, туман забраў маю памяць? І тут мне прыпомнілася гісторыя дзеда Ягора, нашага суседа, дзядулевага прыяцеля, якога так моцна кантузіла на вайне, што ён перастаў пазнаваць знаёмыя яму мясціны…

…Ішоў другі год вайны. Калі Ягору Асташонку споўнілася 18 год, яго забралі на фронт. Хлопец як хлопец, толькі трохі лапавухі, але гэтага было дастаткова, каб пасмейвацца з юнака. За гэтую асаблівасць да яго прыляпілася мянушка Слон. Хаця ў іншым Ягор аж ніяк не быў падобным да слана — худы, высокі, тонкі ў касцях. Ну які з яго слон? Але ж вушы ў яго былі проста неверагодныя. І не толькі цераз сваю форму. У Ягора быў ідэальны слых. Яшчэ здалёк ён мог адрозніць гук варожага самалёта ад нашага і нават марку вызначыць. Дзякуючы гэтай здатнасці яго прыпісалі да разведкі і выдалі вінтоўку з дваццаццю патронамі. Патроны проста насыпалі ў пілотку і папярэдзілі, каб не згубіў. Але ў такія моманты нібы нячысцік падштурхоўвае тыя засцярогі. Пакуль рабілі пешы пераход з аднаго населенага пункта ў іншы, Ягор згубіў пяць патронаў. Лічыў-лічыў, дый недалічыўся. Ніводнага стрэлу не зрабіў, а пяць патронаў як скрозь зямлю праваліліся. Сказалі — дыверсія. І прыгаварылі салдата да расстрэлу. Закрылі ў нейкай адрыне

на ўскрайку вёскі, ахову паставілі. Пакуль Ягор там сядзеў, чаго толькі не перадумаў, пасівеў увесь, нібы завіруха яго чорныя валасы заснежыла. А пад ранак, як толькі світаць пачало, грукае нехта ў дзверы:

— Слон, чуеш, Слон? Ты, гэта, спіш ці не? — гэта яго сябрук Валодзька кліча. Ягор падумаў, што той прыйшоў развітацца.

— Паглядзеў бы я на цябе, Воўка, як ты заснеш, калі раніцай на расстрэл ісці, — выціснуў з сябе Ягор і не пазнаў свайго звонкага раней голасу. Сіпаты нейкі стаў голас, нібы гаворыць не 18-гадовы юнак, а пракураны 60-гадовы дзядзька.

— Дык я ж чаго да цябе прыйшоў?.. Не хвалюйся, дружа. Мы з хлопцамі знайшлі твае патроны.Ператрэслі ўсё тваё адзенне, заплечнік, нават падкладку распаролі. І што ты думаеш? Гэтыя патроны ў тваім супрацьгазе ляжалі і зубы скалілі. Уяўляеш? Мы ад радасці адразу хацелі да цябе бегчы, ды камандзір загадаў, каб не спяшаліся, дачакаліся раніцы. Бо яно так трэба для прафілактыкі. Каб ты, гэта, адчуў усім нутром сваю злачынную халатнасць… Але ж ты мне сябар? Сябар. Дык я не мог спаць спакойна. От, як падумаю, як ты тут адзін, гэта… з жыццём развітваешся… Так мне сумна, так страшна, так шкада цябе стала. Гэта… вось і прыйшоў. Жыві, кажу табе! Ваюй, бі ворагаў нашых!

Але не давялося Ягору доўга ваяваць… І дзе толькі ўзяліся тыя нямецкія «месеры»? Здалёк Ягор іх пачуў. Дзякуючы добраму слыху, вушам-лакатарам, папярэдзіў усіх, паспелі хлопцы з машыны выскачыць, разбегчыся, па розных шчылінах схаваліся. І тут так ірванула, што адкінула яго на некалькі метраў ад той траншэі, дзе ён схаваўся, галавой аб дрэва так ударыла, што ажно кроў з вушэй палілася. Падняў Ягор галаву, азірнуўся і падумаў:

— Дзіўна, чаго гэта хлопцы, як мурашкі, поўзаюць і вушы рукамі затуляюць? Нічога ж не чуваць. Ціша… Благадаць…

Лёг салдат на зямлю і ў неба глядзіць, як нейкі самалёт з чорным крыжам над полем лётае. І чаго кружыць, што яму трэба? Побач нейкі чалавек ляжыць дагары нагамі. Хто гэ-

та? Што з ім? Забілі яго сябра Валодзьку, а Ягор і не пазнаў, не зразумеў, што адбылося…

Калі санітар пасля лячэння прывёз Ягора ў родную вёску, ён толькі галавой з вушамі-лакатарамі круціў — прыслухоўваўся да новых для яго гукаў, на чорныя коміны глядзеў, на абгарэлыя дахі дамоў, на выбітыя вокны…

— А што гэта, вайна тут была, ці што? — здзіўлена спытаў ён у маці, якую не пазнаў. Яна заплакала і прытуліла галаву сына да грудзей, нібы хацела захінуць яго ад усяго злога, што з ім здарылася.

Успаміны пра вайну дзед Ягор складаў, як разбітае люстэрка, з успамінаў сваіх аднапалчан. З лістоў, якія атрымліваў, ён выразаў кавалкі тэксту і наклейваў іх адзін за другім у школьны сшытак з упартасцю і працалюбнасцю былога выдатніка. Так да Ягора Асташонка вярталася памяць…

Я сядзела на дрэве, успаміналa не свае ўспаміны, і паступова да мяне вяртаўся здаровы розум. Я зразумела, што дабегла ў тумане да Чарняі, гэтая маленькая вёсачка прытулілася за пару кіламетраў ад Сястронак. «Гэта нічога, гэта не страшна, — думала я, выходзячы з поля на бальшак, — шкада толькі, што, пакуль бегла ў тумане, свае кветкі згубіла. Прыйдзецца заўтра зноў рана ўставаць і, пакуль бабуля доіць карову, бегчы па блакітныя званочкі. Зусім жа побач поле, проста рукой падаць…»

## Цёмна

Чорны кот Трубачыст зайшоў у суседні пакой і знік. Чырвоны калачык на акне растварыўся ў паветры, як і не было. Нават сябе не бачу, толькі адчуваю, нібы назіраю аднекуль са столі. Вунь як блішчаць мае вочы, якая я маленькая і адзінокая сярод гэтай цемры. «Толькі б не заплакаць, толькі б не заплакаць», — угаворваю сама сябе. Разумею, што трэба дачакацца бабулю і дзядулю, пратрымацца, пакуль не запаляць святло. Але ж… калі яно з'явіцца, хто яго ведае. Вось далічу да дзесяці, і святло запаляць, развараджу тую падстанцыю, дзе б яна ні была. Раз, два, тры… дзесяць… і нічога… мае чары не спрацоўваюць. Цёмна, страшна, а за

акном ноч. Нават рухацца страшна, бо з кожнага вугла чэрці глядзяць, вачамі лупаюць… У-у-у… Ведаю, што на кухні каля печы лямпа стаіць, гэта нейкія дваццаць-трыццаць крокаў усяго, але ж трэба іх прайсці… А яшчэ ж і запалкі трэба знайсці. Дзе тыя запалкі, у якой шуфлядзе?.. Успамінаю нядаўні кашмар, як уцякаю ад некага, а ногі ўраслі ў зямлю, бягу-бягу, а ўсё на месцы. Страшна… А тут куды бегчы, дзе схавацца? Кругом цёмна… І тут прыходзіць шчаслівая думка: я ж у хаце не адна, жывая душа побач.

— Трубачыст, ты дзе? — амаль шэптам заву і не пазнаю свайго голасу.

— Мяу-у, — адзываецца кот. На кацінай мове гэта, мабыць, азначае: «Не хвалюйся, я з табой». Дзіўна, але адразу стала неяк спакайней. Кот пацёрся аб мае ногі і зняў злыя чары. Узяла сябрука на рукі, пагладзіла, ён замуркатаў, нібы ўключыў у грудзях маторчык…

Каты разумнейшыя, чым мы пра іх думаем, ведаюць, што кожнаму чалавеку ў гэтым свеце, незалежна ад таго, вялікі ён ці маленькі, не хапае цяпла і пяшчоты… А яшчэ каты не ўмеюць крыўдзіцца. Мне сорамна, што сёння раніцай венікам прагнала Трубачыста са стала. Сама ж вінаватая: бабуля не магла мяне даклікацца з вуліцы, а кот, напэўна, падумаў, што я хачу падзяліцца з ім сваім абедам, і з’еў усё чыста, нават сподачак са смятанай вылізаў… Вось як выйшла: я не зразумела ката, а ён мяне. Так часта бывае і з людзьмі, бо кожны нібы на іншай планеце жыве, такія мы непадобныя. Калі б мы ўмелі чытаць думкі адзін аднаго, гэта было б добра ці дрэнна? Вось бабуля, напрыклад, кажа маёй маме: «Аля, табе трэба часцей адпачываць ад сваіх вучняў…» А на самай справе думае: «Правільна, адпачывай, дачушка, прыязджай у вёску сена сушыць, градкі палоць, у хаце прыбіраць, парсючка карміць, у поле карову ганяць. Не бачыш хіба, што ў мяне рукі дзіцём звязаныя?» Дзіцём — гэта мной, значыць. Аднойчы я гэта ад бабы Улляны пачула. Толькі не разумею, як я магу звязаць рукі, калі ў мяне нават вяроўкі няма. І наогул, не такое я ўжо і дзіця. Немаўля — гэта мой брат. А я ўжо на наступны год у школу пайду. Вось нават адна ў хаце магу застацца… каб толькі не гэтая цемра… Прасі-

ла ж дзядулю з бабуляй узяць мяне з сабой у госці. А яны: «Дык жа ж мы на адну хвіліначку». А я: «Ну добра, пачакаю, ужо амаль дарослая...» І хто б мог падумаць, што раптам знікне святло?

...Бегла сабе электрычнасць па правадах, весела так бегла, нібы маленькія веласіпедысты па стадыёне. І раптам... бульдозер. Раз! Стоп! І веласіпедысты спыніліся, як укапаныя. Са сваіх ровараў зваліліся. Святло прапала. Цёмна... Страшна... Нават калі мы з хлопцамі ў хованкі гуляем, я стараюся ў цёмных месцах не хавацца. Дык гэта ж днём, калі побач сонца, толькі руку працягні — і хапайся сабе за праменьчык, ён цябе лёгка з цемры выведзе... А тут... А тут у мяне кот Трубачыст, ён у цемры бачыць, і я ўжо лепей бачу, бо вочы прызвычаіліся да цемнаты. Вунь печ... стол... шафа... бабуліна швейная машынка...

У цемнаце ўсё выглядае трохі інакш, добра знаёмыя прадметы становяцца таямнічымі, казачнымі. Рэчы, мэбля праяўляюцца, як на фотапаперы. Некалькі разоў я назірала, як дзядзька Іван робіць здымкі. Там такое дзіўнае чырвонае святло, каб не сапсаваць фотастужку... А тут... А тут скрозь акно свеціць месяц! Яго святло трохі цьмянае з блакітным адценнем, вунь сцежачка на падлозе, якую я раней не бачыла... Зрабіла некалькі крокаў у кірунку кухні. Яшчэ і яшчэ... Цемра расступілася і... загаварыла са мной, прашапацела шалупіннем цыбулі з-за печкі:

— Не бойся, Ін-нач-ка, пагуляй са мной... Ш-ш-ш... Толькі ціш-ш-шэй, я люблю ці-шы-ню...

Я зазірнулі за печ, а там столькі рэчаў са сваёй гісторыяй! Мой дзённы зрок шмат чаго не бачыў, не звяртаў увагі. Зёлкі з памяццю лета, вязанкі залатой цыбулі, стары дзядулеў капялюш з дзіркай-вокам, бабуліна ватоўка... вунь як прыгрэлася на ляжанцы цялём... «Вітаю вас, сябры, прыемна пазнаёміцца! Раскажыце мне пра сябе, я буду дужа ўважна слухаць...» А вось і запалкі... а вось і лямпа...

Калі прыйшлі дзядуля з бабуляй, я сядзела за сталом і разглядала свет, пра які раней і не здагадвалася. Газавая лямпа стаяла побач, я яе так і не запаліла...

— Іначка, а чаму ты сядзіш у цемры? Запалкі не знайшла? Моцна спалохалася, калі раптам знікла святло? — бабуля

абтрасала снег з плюшаўкі, абмятала венікам свае і дзедавы валёнкі, сыпала пытаннямі, а мне хацелася яшчэ хоць трохі памаўчаць і паслухаць цішыню…

— Вось вашы запалкі, — сказала я і раскрыла далоньку. Пакамечаны карабок быў вільготным.

— Напэўна, табе страшна было ў цемры адной?

— Не-а… Хіба што трошкі. А потым… а потым мы з цемрай пасябравалі!

## Лаўрэнцеўна

Лаўрэнцеўна нагадвае каравай, які пячэ мая бабуля ў святочныя дні. Вялікая, пышная, яна нібы паруе вільготнай цеплынёй. Белы халат заўсёды ёй трохі замалы, але, нягледзячы на сваю паўнату, Лаўрэнцеўна неверагодна хуткая, энергічная. Калі яна ідзе па бальшаку, то нібы падскоквае на хаду, адштурхоўвае зямлю ад сваіх падэшваў.

— Матрона, зайдзі сёння ў краму! Мятныя пернікі прывезлі! Купіш сваёй Інцы? Яна ж любіць…

Прадавачка звяртаецца да маёй бабулі, пабачыла цераз плот, як тая набірае ваду са студні, і крычыць. Стаіць на ганку крамы, а ўсё бачыць, такая вачыстая. І голас у Лаўрэнцеўны моцны, як у Панаса Малёванага, вось бы парачка з іх выйшла! Нашая хата не так далёка ад крамы, усяго цераз бальшак, каля кашлатай елкі. Дрэва такое высокае, што па ім можна падняцца на самае неба і пагаварыць з Богам. Мне здаецца, Ён на нашага дзеда Івана падобны, толькі з барадой… Ды нешта я не пра тое кажу, мабыць таму, што мятныя пернікі пахнуць так, аж галава кружыцца і ў носе казыча. Пакуль там бабуля заюшаная сваімі гаспадарчымі клопатамі, пабягу ў краму, пагляджу што там за дзівосы новыя з’явіліся… Пернікі пернікамі, ды найбольш мне хочацца паглядзець на розныя цікавыя рэчы, адчуць гарадскі пах, з Полацка ж прывозяць усе гэтыя прысмакі… А ў Полацку мама і тата. Сумую, вядома ж, чакаю не дачакаюся…

Крама сястронская невялікая, але там шмат цікавага — вочы разбягаюцца… Селядцы ў пузатых бочках, карамельныя цукеркі-падушачкі, халва ў круглых пляскатых

бляшанках. Хутка гэтыя бляшанкі паражнеюць, надта ж халва смачная, і набываюць іншае жыццё — становяцца цудоўнай біткай для класікаў. Скок-прыскок… Усе прадукты і прысмакі ў краме — злева ад увахода. Направа прамтавары — кірмашовыя сацінавыя халаты, посуд, нейкія дробязі для кухні, гаспадарчае мыла, нарэзанае вялікімі карычневымі брускамі-цаглінамі, а побач маленькае, для твару і цела, сунічнае, або лясное з пахам хвоі. О, як мне падабаецца гэты пах, адразу ўспамінаю, як мы з мамай у лазні мыемся… Адэкалон «Шыпр», духі «Чырвоная Масква», ай, усяго не злічыць… А яшчэ мячыкі, скакалкі, машынкі, нібы напалоханыя нечым, вірлавокія лялькі… Можна хадзіць і разглядаць усе гэтыя дзівосы на доўгіх паліцах хоць гадзіну… Лаўрэнцеўна дазваляе мне прыходзіць у краму, як на экскурсію, яна ведае, што без дазволу я нічога не вазьму. Нават алоўкі. Доўга стаю каля дзіцячых кніжак, па большасці казак, гартаю гладзенькія старонкі з малюнкамі. Па ілюстрацыях намагаюся зразумець пра што казка, хоць яшчэ і не ўмею чытаць. Калі ў магазіне больш нікога няма, Лаўрэнцеўна садзіць мяне на калені, як на фатэль, і пачынае чытаць уголас кніжку, якая мне спадабалася. Кніжак мала, таму я за тыдзень вывучыла ўсе на памяць. Вот, напрыклад, «Кот у ботах». Цудоўная казка! Але мне хочацца перапісаць фінал, бо заўсёды шкадую мышку, якую праглынуў кот. Не верыцца, што гэта на самай справе Людажэр. Ці ж можа ў такім маленькім кволым целе ўмясціцца ўся вялікая люць Людажэра? У мяне б ён перавыхаваўся, стаў добрым. І пасябраваў бы з катом, і знайшоў бы сваю прынцэсу, тую, якая б яго таксама пакахала. Ці можна закахацца ў Людажэра, калі ён стане добрым?.. Канечне, можна! Але ёсць казка, якая мяне вельмі палохае. Гэта «Воўк і сямёра казлянят». Калі ў краму прыходзіць баба Нюра або баба Фруза, я пачынаю чытаць ім «Ката ў ботах». Яны ж не ведаюць, што я толькі раблю выгляд, што чытаю. Шпару ўсё на памяць слова ў слова.

— Глядзі ты, Лаўрэнцеўна, Інка яшчэ такая малая, а ўжо ўмее чытаць! Неверагодна… — Гэта баба Фруза, яна больш даверлівая, чым баба Нюра. Лаўрэнцеўна мяне не выдае. Яна заўсёды на маім баку.

Аднойчы мая бабуля пашыла Лаўрэнцеўне штапельны белы халат. Ён быў досыць доўгі і прасторны. Нібы на выраст. Прадаўшчыца нагадвала ў ім Мішкаву гару пакрытую снегам. Яна мне так падабалася ў гэтым халаце, што я заходзіла ў краму толькі дзеля таго, каб на яе паглядзець. Лаўрэнцеўна не саромелася сваёй паўнаты, наадварот ганарылася.

— Добрага чалавека павінна быць шмат, — паўтарала яна і ўсміхалася сваёй добразычлівай усмешкай. Тады яе шэрыя вочы набывалі нейкае смарагдавае адценне, а ямачкі на шчоках рабіліся больш выразнымі. «А Лаўрэнцеўна — прыгажуня», — думала я і не магла ёю налюбавацца. Чаму толькі нашы вясковыя мужчыны не бачаць гэтага? З кавалерамі Лаўрэнцеўне не шанцавала. Яна жыла адна, і было ёй трохі за сорак…

Аднойчы мая бабуля паехала ў горад, і мы засталіся ў хаце з дзядулем удваіх. Паслухмяная дзяўчынка — гэта не пра мяне, бо слухалася ў залежнасці ад настрою. У той дзень мы з дзядулем пасварыліся. Я пакрыўдзілася, расплакалася і сказала, што пайду ў лес і ўжо ніколі дадому не вярнуся. Вядома, што ні ў які лес я не пайшла, а хуценька пабегла ў магазін, да Лаўрэнцеўны. Вядома, дзядулю Івану не падабаецца, што я неслух. Ён можа, калі што, і дубец з-за печы дастаць. Але ж на адной назе яму нялёгка мяне даганяць, а я лётаю як страказа. Толькі мяне і бачылі! Пакуль дзядуля на сваім пратэзе дакавыляў да крамы, я ужо сядзела пад прасторным халатам Лаўрэнцеўны. Схавалася.

— Лаўрэнцеўна, ты не бачыла нашу Інку? — строга спытаў дзядуля і зазірнуў пад прылавак.

— Ды не, не бачыла, дзядзя Ваня, — як ні ў чым ні бывала адказала Лаўрэнцеўна. Во, якая малайчына, яна ж мая вялікая сяброўка, ніколі не выдасць… Сяджу ў паўзмроку яе халата, як мышаня ў падмурку, ціха-ціхутка. Толькі ў параўнанні з Людажэрам я аж занадта добрая, злосці ўва мяне толькі на адзін зуб, як кажа бабуля. А калі заесці крыўду смачным пернікам, то і зусім не будзе. Тут, зусім побач каля прылаўка, на падлозе стаіць вялікая кардонная каробка, і пернікі так смачна пахнуць, аж галава ў той бок сама сабой

вернецца… Не вытрымліваю гэткай спакусы, асцярожна цягнуся рукой з-пад халата Лаўрэнцеўны да перніка… У гэты момант дзядуля хапае мяне за руку і выцягвае з-пад Лаўрэнцеўны. Мне, канечне, сорамна за хлусню і трохі страшна, бо ў дзядулі ў руках дубец.

— Дзядуля-дзядулька, я не Людажэр, а толькі маленькая мышка. Людажэр перавыхаваўся, калі з’еў мятны пернік, — нешта такое неверагоднае мармычу са страху.

— Які Людажэр, што ты вярзеш? — дзядуля здзіўлены, ён не разумее пры чым тут Людажэр і якая ў яго сувязь з пернікамі. Каб неяк змяніць абстаноўку, Лаўрэнцеўна дастае з-пад прылаўка кніжку «Кот у ботах» і некалькі пернікаў, падае дзядулю.

— Частуйцеся, дзядзька Іван, вельмі смачна… Цікавая казка. Бярыце проста так, бясплатна. Пачытайце Іне і… прабачце нам, калі ласка.

Пазней, калі мы ўжо прыйшлі дадому, дзядуля расказаў мне гісторыю Лаўрэнцеўны. Аказваецца, яе завуць Валяй. Проста ўсе ў вёсцы прывыклі называць нашу прадавачку Лаўрэнцеўнай, па бацьку. Яна і не супраць. Лаўрэнцеўна дык Лаўрэнцеўна. У маладосці, яшчэ да вайны, яна была вельмі прыгожая. Яе пакахалі два добрыя хлопцы, два сябры — Хведар і Уладзімір. Разам хадзілі ў школу. Разам вучыліся ў гандлёвым тэхнікуме. Так і сябравалі ўтрох. Валя ніяк не магла зразумець, хто з хлопцаў ёй падабаецца больш. Нікога не хацела крыўдзіць, разбіваць хлапечую дружбу. Калі пачалася вайна, Федзя і Валодзя разам пайшлі на фронт. Між сабой дамовіліся так: хто жывым з вайны вернецца, той і пойдзе да Валюшы сватацца… Абодва хлопцы не вярнуліся з вайны. Амаль адначасова прыйшлі на іх пахаванкі… Валя з гора захварэла, а калі адужала, усе ў вёсцы пачалі звяртацца да яе па-бацьку. Імя паступова забылася, сцерлася з людской памяці. А Валянціна Лаўрэнцеўна так ужо нікога і не змагала пакахаць.

Пасля гэтага аповеду я доўга не магла заснуць. А потым мне прысніўся сон, што Хведар і Валодзя, раскінуўшы рукі, бягуць з Мішкавай гары, толькі вецер у вушах свішча, і

крычаць: «Валя, Валечка, Валюша! Мы вярнуліся, мы душы!» І так хочацца, каб Лаўрэнцеўна іх пачула.

## Яблык

У гэтым годзе снег пайшоў нечакана рана. Ужо ў канцы кастрычніка. Я прачнулася і пабачыла ў акно яблык на голай галінцы, пакрыты снегам. І галінка таксама ў снезе. Я падумала, што гэтаму яблыку холадна, трэба хутчэй забраць яго ў цяпло. Дзядуля натапіў грубку і сядзеў, звесіўшы здаровую нагу. Грэўся. Я хацела залезці да дзядулі, але ўспомніла пра яблык. Як ён застаўся адзін на яблыні, бедалага? Яго браты і сёстры ўжо даўно на гарышчы. Ляжаць сабе, закрытыя старымі ватоўкамі, і казкі адзін аднаму расказваюць. Ім цёпла і весела. А яблык на галінцы адзінокі. Для яго ўжо ў кастрычніку пачалася зіма…

Апранаюся, бягу ў сенцы, цераз двор — да пуні. Там недзе ў кутку стаяць граблі. Паспрабую граблямі дастаць яблык… Бабулі няма дома. Яна сёння ў полі. Гэта ж трэба, пачалася зіма, а кароў усё яшчэ ганяюць у поле. Трава яшчэ зялёная, яна не паспела зразумець, што зіма пачалася ўжо. І дрэвы не зразумелі. Яшчэ не ўсё лісце апала на зямлю. Яно ападае з дрэваў павольна, як у сне. Кружыцца, кружыцца… А на зямлі ўжо снег. А каровам непрыемна тыцкацца цёплымі мордамі ў халодную траву. Нібы бачу, як яны плавяць снег вільготнай парай свайго дыхання. І ўсё ж, я думаю, каровам лепш пасвіцца, чым стаяць у хляве. Нават калі на дварэ халодна, у цёплым хляве каровам сумна. Я не раз чула, як наша Малышка зімой цяжка ўздыхае. Жуе сваю жвачку з сена, якое мы летам насушылі, і думае пра вясну. Так праходзіць яе жыццё. А вясна яшчэ далёка… Вось, знайшла нарэшце граблі. Яны пахнуць сенам і летам. Яны ўратуюць яблык ад адзіноты…

Бягу з граблямі ў сад, знаходжу дрэва з адзіным яблыкам. Цікава, што яму снілася гэтай ноччу? Якія сны бачаць яблыні? Можа, яны сумуюць, што не ў змозе адарвацца ад зямлі і паляцець услед за птушкамі? Можа, яны сняць цені сваіх забытых вясенніх белых і ружовых пялёсткаў, якія кружыць вецер? Пялёсткі размаўляюць між сабой на сваёй

яблыневай мове і чытаюць уголас вершы: «Нашы цені паляцелі…»

Не так проста, як здаецца на першы погляд, дастаць яблык. Граблі, можа ўпершыню, бачаць неба так блізка, узлятаюць так высока… Мне цяжка адначасова трымаць раўнавагу і цягнуцца да яблыка. Трэба ўстаць на дыбачкі, а ў валёнках гэта зрабіць проста немагчыма. Здымаю валёнкі і станаўлюся босымі нагамі на першы снег. Ён апякае падэшвы, пранізвае холадам пальцы. Падскокваю і чапляюся граблямі за галінку, амаль павісаю на граблях. Яблык падае на траву, пакрытую снегам. Я шчаслівая, што нарэшце дастала яблык, што зрабіла тое, што хацела. Жоўты яблык з карычневымі смужкамі больш не адзінокі, ён у маіх руках. Грэю яблык сваім дыханнем, як маленькую птушачку. Хукаю… А ў самой ногі як ледзяшы. Хутчэй у хату, да дзядулі, грэцца. Пакажу яму яблык, які сама ўратавала, які з гэтага часу не адзінокі. Ён ужо не баіцца зімы.

## У цемнаце пад чоўнам

Я ведаю, што Алег у мяне закаханы, але раблю выгляд, што нічога не заўважаю: ні яго мітуслівых рухаў, ні словаў неўпапад, ні сарамлівага румянцу на шчоках. Вочы ў Алега вялікія, карыя з даўгімі вейкамі, ну проста як у нашай каровы Малышкі. Ён уважна глядзіць на мяне доўгім пяшчотным поглядам, калі думае, што я не бачу, ну, там раблю нешта ці гуляю. Сама не ведаю, як гэта выходзіць, быццам вочы ў мяне ёсць на спіне, адчуваю ўсе яго погляды, аж спіну казыча…

Алег першым з маіх сястронскіх сяброў навучыўся катацца на дарослым ровары. Ногі яшчэ да педаляў не даставалі, дык ён падлазіў пад раму і так ехаў. Мне было дзіўна: як гэта ён не перакульваецца? Так спрытна ў яго выходзіла, толькі пыл курыўся па бальшаку… Я глядзела на Алега з зайздрасцю, ён гэта заўважыў і сказаў:

— Інка, давай я і цябе пакатаю!

— Ага. Толькі страшна. Грымнемся недзе, заб’емся, што тады рабіць?

— Нічога. Не трэба баяцца таго, чаго няма. Калі што, мая матуля нас вылечыць.

Цётка Таіса працуе фельчарам, вялікі аўтарытэт у вёсцы, нават мяне некалі вылечыла ад запалення лёгкіх…

Я села на раму, Алег пад раму — і мы, як ні дзіўна, паехалі. Ровар быў старэнькі, мабыць, бацькаў ці дзядзькаў, ён рыпеў на кожным павароце, але ж… ехаў! Мабыць, Алегу было цяжка мяне везці, ён горача дыхаў мне ў патыліцу, але ж не стагнаў, стараўся, як мог…

Аднойчы мы гулялі ў сям'ю. Алегу выпала быць маім сынам. Я зварыла кашу, «панарошку», канечне. Проста змяшала муку з вадой у каструльцы, трохі падагрэла на пліце, пасаліла і дала яму ў рукі.

— Во, зацірку зварыла, каб ты паснедаў. Я пайду ў краму, а калі вярнуся, каб на стале нічога не было! — сказала я строга, як мая мама.

Выйшла з хаты, нібы купляць нешта, нейкіх травак назбірала ў двары, вярнулася назад, гляджу, а Алег крывіцца, але сёрбае маю зацірку. Па-сапраўднаму. Вось гэта любоў!

Алег падтрымліваў усе мае эксперыменты, нават сумніўныя. Неяк я знайшла на шафе дзядзькавы цыгарэты «Прыма» ў бела-чырвоным засаленым пачку.

— Глядзі, што ў мяне! — я пакруціла пачак перад носам Алега. — Давай пакурым хаця б панарошку!

— Панарошку? Не-а, не цікава… Давай па-сапраўднаму!

Мы зачыніліся ў невялічкай пуньцы, якая грыбам-вешанкай прыляпілася да адрыны, і запалілі адну на дваіх цыгарэтку. Алег зацягнуўся першым. Нібы дарослы, ён нават нагу адставіў для форсу, ды раптам моцна закашляўся, слова не мог вымавіць. Алега званітавала проста на мае сандалікі, а я атрымала прышчэпку ад шкоднай звычкі на ўсё жыццё.

А нядаўна такое здарылася, проста сорамна расказваць… Гулялі мы ў хованкі — Алег, я, Вадзім, Ігар і Жанка. Ды яшчэ Людка з намі была, стрыечная сястра Алега і Вадзіма. Яна на выходныя да сваёй бабулі ў госці прыехала з Наваполац-

ка. Дык вось. Вадзім вадзіў, пакуль лічыў да дзесяці і зноў да дзесяці (малы ж, далей не ўмее), я залезла пад перакулены ўверх дном човен (дзядуля выставіў на сонца для прасушкі). Чую, нехта да мяне бяжыць, стукае:

— Інка, пусці пад човен, бо я ўжо не паспею ў іншым месцы схавацца!

Хто б гэта быў? Вядома ж, Алег. Што мне заставалася? Пусціла. Сябар жа. Сядзім… Цёмна… А сэрца так моцна стукае, проста дзіва нейкае.

— Што, страшна? Баішся цемнаты? — пытае Алег. — Я таксама баюся. Давай абнімемся і будзем баяцца разам, тады не так страшна.

Абняліся. І сапраўды, абняўшыся, баяцца весялей. Цяпер ужо не страшна, а смешна. Але смяяцца нельга, бо Вадзім нас пачуе і знойдзе… Вось у гэты момант… Алег мяне і пацалаваў… Патрапіў у нос, бо цёмна.

— Ты здурэў?! Хіба забыўся, колькі нам год?! Такім маленькім дзецям яшчэ нельга цалавацца.

— Чаму? Хто нам забараняе?

— Рана!

— А вось і не рана! — сказаў Алег, як запячатаў. — Гэта Вадзіму рана, яму яшчэ толькі пяць, а нам з табой, Інка, ужо цэлых сем! Восенню ў школу пойдзем. Вучыцца пачнём, калі цалавацца? Ты ў Полацку будзеш вучыцца, а да бабулі наступным летам, можа, і не прыедзеш…

Алег цмокнуў мяне ў шчаку і, пакуль я збіралася нешта адказаць, пацалаваў у вусны. Знахабнічаў, адным словам.

— Алег, ты, г-гэта, што г-гэта ты робіш?! — ад нечаканасці і сораму я нават пачала заікацца, хацела даць сябруку ляпаса, ды стрымалася, бо пачнём біцца. — Мы ж з табой сябруем, а ты цалуешся! Вось вылезем з-пад дзядулевага чоўна, як ты мне ў вочы будзеш глядзець?.. Усё, я так больш не гуляю. Я вылажу…

Ды ў гэты момант Алег схапіў мяне за руку, прыцягнуў да сябе і абняў так моцна, што аж костачкі затрашчалі.

— Не пушчу! Пасядзім яшчэ трохі ў цемнаце. Ну, Інуля, калі ласка… Ведаеш, я зараз табе такое скажу, такое… Заткні вушы, тады скажу, бо гэта вялікі сакрэт…

Што тут здагадвацца, які-такі сакрэт? У цемнаце пад чоўнам Алег наважыўся адкрыць мне таямніцу, пра якую я даўно ведала…

— Я… цябе… кахаю… — Алегаў голас быў хрыплым ад хвалявання, мабыць, у яго і вушы гарэлі, бо трымаўся за іх рукамі, каб неяк суцішыць жар…

— Ну… Алег, ты не хвалюйся так моцна… Усё добра… — Я намагалася суцешыць сябра, але ад яго словаў у мяне не засмактала пад лыжачкай, не пачало хутчэй біцца сэрца. Прыемна, канечне, такое пачуць, але што з таго? Вось каб гэта сказаў Ігар… я б адчула сябе шчаслівай… Ды ён ніколі не скажа, бо кахае не мяне, а гугнявую Светку, дылду дарослую..

Там у цемнаце я ўпершыню задумалася пра неадпаведнасць мары і рэальнага жыцця. Чаму так часта мы выбіраем не тых, хто кахае нас? Чаму людзі мусяць пакутаваць ад непадзеленага кахання? Вось сядзіць са мной пад дзядулевым чоўнам добры цудоўны хлопчык Алег, мой лепшы сябар. Але нават яго прыгожых вялікіх вачэй з доўгімі веямі я ў цемнаце не бачу…

* * *

«Цікава, чаму Алег у дзяцінстве мне не падабаўся?.. Такі прыемны, сімпатычны хлопчык…» — думала я, разглядаючы дзіцячае фота майго сябра. — Вось і брат яго, Вадзім…» У паточанай шашалем вялікай раме фотаздымкі выглядалі, як адмысловае пасланне з іншага жыцця.

— Алег стаў урачом, а Вадзім міліцыянерам, — цераз маё плячо зазірае цётка Лёля, цяпер дужа падобная на сваю маці, Алегаву і Вадзімаву бабу Жэню. Чарговы раз думаецца: наколькі жорсткі час… Лёля ў маладосці была пісанай красуняй. Чарнявая, з вялікімі карымі вачамі, заўсёды прыязная, вясёлая… Калі цётка Лёля ўсміхаецца, вобраз той маладой Лёлі нібы вынырвае з вады і… зноў хаваецца… «І Алег, мабыць, моцна змяніўся, — думаю я, — ужо б не пазналі адно аднаго… Колькі не бачыліся? Гадоў сорак, не менш…» Як бы я хацела сустрэцца з ім! Вось бы адчыніліся дзверы і ён увайшоў… і мы б абняліся… і ўспомнілі дзяцінства. І гаварылі б, гаварылі… гаварылі…

## Зіна

Зіна ўсіх называе «золатка». Залаты ў яе нават сусед-п'яніца, які прапіў матчыну хату-спадчыну, а цяпер жыве ў маленькай, заваленай рознай непатрэбшчынай каморцы клубу, дзе калісьці працаваў кінамеханікам. Лёня-кіншчык, так мы яго называлі ў дзяцінстве, быў добрым чалавекам, але бесхарактарным. Ад кілішка гарэлкі не мог адмовіцца, а там, дзе кілішак, там і бутэлька… Так пайшло-паехала. Жонка не вытрымала, кінула Лёньку, пераехала ў горад… Дык вось Зіна кожны дзень носіць дзядзьку Лёньку есці, хаця б каструльку супу, ды прынясе.

— Шкада… Прападае ж… Родныя дзеці пра яго не ўспамінаюць, а можа, сорамна да такога бацькі прыязджаць, не хочуць такога бачыць, за ім прыбіраць і ўсё такое… Бывае, ляжыць без памяці абасцаны ўвесь. Цяжка такога любіць… А мне шкада. Чалавек жа. Прападае…

Зіна адкідвае з лоба прыліплую пасмачку пасівелых валасоў і далей варожыць над супам.

— Зараз будзем есці, ты ж, золатка, галодная з дарогі. Дый людзей трэба пакарміць, вунь мне грубку ў вялікім пакоі рамантуюць, паглядзі, што там робіцца, які бязлад і пыл… Але ж мне тут зімаваць… Бачыла, якая недалугая ў мяне мама? Без добрай печы не перазімуем…

Я заехала да Зіны, каб праведаць, бо два гады не бачыліся. А перад тым — гадоў трыццаць. Вось жа як бывае: пабач шмат людзей, знаёмых, а тых, да каго можна прытуліцца душой і адчуць узаемную цеплыню, зусім няшмат… «Зіна, мая любая Зіна, ты стала падобная да сваёй маці, моцна пастарэла…» Кідаюцца ў вочы спрацаваныя рукі з чорнымі пазногцямі. Пальцы патрэскаліся, нібы ссохлая ад спёкі зямля. Саромеюся гэтых сваіх думак, адводжу позірк, але Зіна ўжо заўважыла, ад яе нічога не схаваеш.

— Ой, ды што там рукі, зубы не магу сабе ўставіць, аж сорамна, яшчэ ж не зусім старая, а зубы дрэнныя, усміхацца перад людзьмі не магу. То некалі, то грошай няма, ды й матулю сваю не магу адну пакінуць, яна ж цяпер як малое дзіця — плача, калі мяне доўга няма. Дзевяноста год маме…

Зіна хуткая, як і цётка Яўгеня гадоў сорак таму. Усё ёй трэба паспець, кожнаму добрае слова сказаць… У руках цёткі Жэні раней таксама гарэла любая справа. У хаце было чыста, прыбрана. На вокнах свяціліся рознакаляровыя кветкі. У вялікай хаце — ложак з накрухмаленым падзорнікам, і мне маленькай страшна цікава было да яго дакрануцца — падзорнік хрумсцеў, як першы снег… Цяпер цётку Яўгеню скруціла хвароба, яна ўсё ніжэй нахіляецца да зямлі, ходзіць па хаце з кіёчкам і за ўсё чапляецца. Зіна дыванкі ў хаце прыбрала, каб маці раптам не зачапілася ды не ўпала. Цётка з цяжкасцю ўспамінае людзей, а калі ўспамінае, плача. Па тым, як нехта вырас, пасталеў, яна адчувае, як састарэла сама.

— Мама, гэта Іна, Грыгаронка ўнучка. Прыехала на радзіму. Хоча сваю родную хату адведаць, Вір паглядзець, успомніць, як мы там купаліся…

— Іна?.. Грыгаронкава ўнучка… Ага… А колькі гадоў прайшло, Іна? Які цяпер год? — Цётка Яўгеня намагаецца нешта ўспомніць, і слёзы коцяцца з яе шэра-бялесых, размытых старасцю вачэй… — Ох, і дасталося табе, дзетачка — бацькі паўміралі, дзяды… Памятаю, як тваю маму хавалі, быццам учора гэта было… Дзеда Івана мужчыны падымалі на табурэтачцы ў пахавальную машыну, каб ён развітаўся з дачкой, тваёй мамкай… Няма табе цяпер да каго прыехаць. Толькі на магілкі… Бедная ж ты, бедная…

— Мама, ну не трэба ўжо пра гэта ўспамінаць, столькі год мінула… Іна ўжо даўно вырасла, пасталела, але глядзі ты, усё роўна красуня, як і раней. Вось да нас з табой прыехала. А мы заўсёды рады і заўсёды чакаем… Праўда ж, мама?

Зіна абдымае маці, прытуляецца да яе шчакой, і я адчуваю, нібы недзе за лесам прагрымеў гром ды на душы стала чысцей і лягчэй, як пасля дажджу. «Зіна, як добра, што я да цябе прыехала, як добра, што ты засталася такой жа добрай і шчырай, як у дзяцінстве. Гады і няшчасці цябе не зламалі…

— Ведаеш, Іначка, калі па-шчырасці, шчаслівым у мяне было толькі дзяцінства… Памятаеш, як мы з табой на стале танцавалі і дзеда Івана стол зламалі?

— Канечне, памятаю, Зіна, я пра гэта нават апавяданне напісала… Вось зраблю кнігу прозы і табе прывязу, сама пра ўсё пачытаеш. Там я «ажывіла» нашы Сястронкі, шмат людзей успомніла, каго ўжо даўно няма, родных сваіх… Не буду расказваць, сама пачытаеш… Нешта прыдумала, канечне, гэта ж апавяданні…

— Разумею, пісьменнікі заўсёды выдумляюць нешта, як і мастакі… А мне здавалася, што ты мастачкай хацела быць? Добра малявала… Неяк я спытала ў цябе: «Што малюеш?», а ты адказала: «Пахі…» Ты яшчэ зусім малая была. Не памятаеш, канечне ж… Я ж на тры гады за цябе старэйшая. Мне ўжо гадоў сем было. Я тады падумала: «Во, якая Інка! Не простая дзяўчынка. Буду з ёй сябраваць, калі падрасце…»

Зіна ўсміхнулася і прыкрыла рот рукой, саромеецца свайго выгляду. І такая пяшчота ахапіла мяне ў гэты момант, што нават сэрца закалола, нібы нябачная іголка прышыла маё сэрца да Зінінага. Я абхапіла яе за шыю, прыцягнула да сябе і пацалавала ў шчаку. Салёная…

— Зіна, а я тут табе прысмакаў з горада прывезла і крэм для твару… дужа добры… — Гавару і разумею, наколькі гэтыя падарункі, асабліва крэм, недарэчныя ў гэтай хаце, у гэткім Зіняным жыцці… Сяброўка бярэ скрыначку з крэмам, уважна і асцярожна разглядае, нібы тая парцалянавая, і я плачу ў сваім сэрцы: «Зіна, Зіна… Божачка, што ж гэта, чаму табе дастаўся такі лёс?..»

— Ай, Іначка, золатка ты маё, дзякуй… — абдымае мяне Зіна і ставіць крэм на палічку каля ложка побач з заседжаным мухамі люстэркам. Мабыць, сяброўка ўжо даўно ў тое люстэрка не глядзіцца…

— Ведаеш, Інка, а я ў Сястронках век свой буду дажываць, тут, на роднай зямлі. У гэтай хаце. Вось паеду ў горад купіць нешта ці сына пабачыць, унучак, у мяне ўжо тры ўнучкі, ды хутчэй лячу назад. Так і не прывыкла да горада. Чужы ён мне. А тут, у вёсцы, жывое ўсё — і кветачкі, і чарніцы, і грыбочкі… Сумна, праўда, асабліва зімой, няма з кім пагаварыць. З мамай не пагаворыш, яна жыве ў сваім свеце… Пакуль лета — тут дачнікі, а зімой — душа душу шукае… Ты даруй, што я столькі балбачу, нельга мяне спыніць…

— Што ты, Зіна, гавары! Гэта ж я! Для таго і прыехала, каб цябе паслухаць. Я калі цябе слухаю, нібы ў дзяцінства патрапляю… А Вір наш яшчэ жывы? Памятаеш, як мы купаліся ў Віры?

На Віры Зіна нават танула. Але я гэтага не памятаю, пра гэта мне Зіна расказала, калі мы прадзіраліся да рэчкі. Сцежкі нашыя дзіцячыя пазарасталі дрэвамі, кустамі, асакой, бур'янам і дзядоўнікам. Калі б нехта пабачыў, то вельмі б здзівіўся — і што сярод гэтага хмызу робяць дзве сястронскія цёткі? Ніхто са знаёмых мяне б цяпер не пазнаў — на галаве хустка пад горла, халат, кофта з чужога пляча, кірзавыя боты 42-га памеру на нагах і палка ў руках, якой разбіваю сухастой, адганяю вужак з асакі.

— Зіна, мне здаецца, нібы мы з табой ідзём па трапічных джунглях або здымаемся ў кіно «А зоры тут ціхія»…

— Ага, твая праўда! Ай, Іначка, колькі год прайшло, ніхто цяпер не ходзіць на Вір, нават не ведаюць, што ён тут ёсць. Калісьці па дарозе на рэчку былі лугі, дзе пасвілі кароў, памятаеш, сена касілі… У Сястронках было ці не сорак кароў. Цяпер няма ніводнай. Уяўляеш, з тых людзей, каго ты ведала, амаль нікога не засталося. Старыя паўміралі, маладыя ў горад падаліся. Здзічэлі лясы, кустоўе захапіла палі і лугі. Не ведаю, ці дойдзем з табой да рэчкі, ці не. Бачыш, як усё пазарастала?..

Але я ўпэўнена — да Віра мы абавязкова дойдзем. Дакрануцца да рэчкі дзяцінства — не простае падарожжа, ёсць у гэтым вышэйшы, духоўны сэнс. Мы з Зінай, нібы тыя нашчадкі выгнанцаў з Раю, дзясяткі год ішлі ўласнымі дарогамі: радаваліся і пакутавалі, знаходзілі й страчвалі надзею, але ішлі…

Вір абмялеў, зарос трыснягом, асакой, але ўсё роўна жывы. Рачулка дзяцінства, як і раней, робіць круты паварот, амаль пятлю, нібы лёс чалавека, які зноў і зноў вяртаецца да свайго карэння… Глядзела ў Вір і бачыла дно — пахучае, вірлавокае. Набрала вады ў далонь, пабачыла, якая яна пяшчотная і чыстая. Умылася. Памачыла ногі. На імгненне здалося, нібы я стала такой лёгкай, што магу ісці па вадзе… Рэчка майго дзяцінства пазнала мяне.

## Пах бульбы

За сталом сядзім па старшынстве і росце, як матрошкі. Я з краю, бо старэйшая, пятнаццаць год ужо, дзеўка, на танцы бегаю. Побач са мной — Светка, за ёй Андрэй, яны амаль аднагодкі, пасля — Аксана і, нарэшце, Воля. Яна зусім маленькая, тры гады, чацвёрты ідзе. Яе садзяць на падушкі, бо не дацягнецца да стала. Глядзі ты, такая мелюзга, а хоча сядзець побач з намі, дарослымі ўнукамі. Мы Волю ўсе па чарзе няньчым, але мне больш дастаецца. Якая там чарга, калі я ўжо вялікая нянька? Волечка такая мілая, светларусявая, падобная да анёла…

Сёння раніцай капалі бульбу, а цяпер сядзім за абедзенным сталом у вялікім пакоі і намінаем бульбу з яечняю. Бульба стаіць у цэнтры стала прама ў каструльцы і сходзіць духмянай парай. Побач вялікая патэльня з яечняй, смажанай на шкварках. Бярэм бульбу, макаем у яечню, якія там відэлкі, рукамі смачней! Ах, які ж неверагодны пах! Толькі тут, у дзядулевай і бабулінай хаце, усё такое смачнае. Газавая пліта, вядома ж у нас ёсць, і даўно, але стравы з печы ўсё ж смачнейшыя. Абедаем вялікай кампаніяй. Акрамя дзяцей навакол вялікага прастакутнага стала сядзяць дарослыя — дзед Іван, баба Мура, дзядзька Іван з цёткай Марыяй, дзядзька Міхась з цёткай Людай, а таксама нашы з Андрэем тата і матуля. Усе сабраліся ў Сястронкі, каб дапамагаць дзядулю з бабуляй капаць бульбу. Свята бульбы. Талака.

Вядома ж, кожны з дзяцей стараецца спадабацца дарослым, каб яго заўважылі, ацанілі. Андрэй увесь час жартуе, у яго выдатнае пачуццё гумару, як і ў таты. Святлана не надта гаваркая, але вельмі разумная, бо шмат чытае. Нават цяпер у яе пад сталом кніжка. Добра памятаю, як яе ўпершыню прывезлі ў Сястронкі. Цётка Марыя разгарнула коўдру, я падышла бліжэй, каб лепш разгледзець малую, нахілілася, а яна… як схопіць мяне за нос. Ад нечаканасці я спужалася і зараўла. Так і прывіталіся…

Мая стрыечная сястра Аксана, малодшая сястра Светкі, вельмі прыгожая, падобная да сваёй маці. У цёткі Марыі ў інстытуце адбою ад кавалераў не было. Высокая, статная, з цёмнымі хвалістымі валасамі, яна да таго ж добра спявала і

танцавала… Выйшла замуж за дзядзьку Івана, надзейнага, ураўнаважанага, грунтоўнага ва ўсім. Мані жылося з ім як за каменнай сцяной… Акрамя прыгажосці, Аксана атрымала ў спадчыну ад маці хуткую рэакцыю і рашучасць. У яе ўсё выходзіць на раз-два. Аднойчы ў школе яна пабілася аб заклад з хлопцамі, што саскочыць з другога паверха. Як такое здарылася, ці пасварыліся, ці нехта пакрыўдзіў, я дакладна не ведаю, але паабяцала і… скочыла. Моцна траўмавала пяту, але выйграла спрэчку. Аксану немагчыма прымусіць да нечага, калі яна гэтага не жадае. Хуткая, як вавёрка, калі ўжо пачала нешта рабіць, дык усё гарыць у яе руках…

Мой брат Андрэй больш падобны на Святлану, чым на мяне, нібыта не мы, а яны родныя брат і сястра. Карыя вочы, цёмна-карычневыя прамыя валасы і такі ж разумны, як Светка. Андрэй стаў выкладчыкам, абараніў кандыдацкую, а потым і доктарскую дысертацыю, нешта па тэхналогіі металаў, здаецца. У дзяцінстве ён марыў стаць астраномам ці касманаўтам. Як зараз бачу карцінку: пяцігадовы Андрэй ходзіць па двары, сур’ёзна і засяроджана спявае прыдуманую ім жа песеньку: «Я астраном, я буду касманаўтам! Я касманаўт, я буду астраномам… Калі не стану астраномам, то буду касманаўтам…» У дзяцінстве мы называлі Андрэя прафесарам. Андрэй нават не крыўдаваў, мабыць, ведаў, што так і будзе…

Успамінаецца адна прыгода… Каля бабулінай пуні, дзе захоўвалася сена на зіму, стаяла драўляная лесвіца да самага вочка, цераз якое сена ў пуню ўкідвалі. Калі да мяне прыходзілі сябры, браты Алег і Вадзім, гэтая лесвіца ператваралася на парашутную вежу. Адтуль, паступова падымаючыся па лесвіцы ўсё вышэй, мы скакалі на падушку з пяску, якую перад тым самі ж і насыпалі. Андрэй таксама хацеў з намі пагуляць, але быў яшчэ малы для такіх гульняў. Яму дазвалялася толькі назіраць за намі альбо скакаць з першай-другой перакладзіны. Аднойчы Андрэй, у той час калі мы, старэйшыя, займаліся нечым іншым, падняўся па лесвіцы, але паслізнуўся і паляцеў уніз. Ды Божанька яго ўратаваў: брат зачапіўся курткай за металічны кручок на сцяне пуні й павіс паміж небам ды зямлёй. Мы спалохаліся, спра-

